Многа новых раслін мы ў рэспубліцы маем,
Цвет мічурынскіх яблынь над краем павіс.
Вінаградныя лозы з паўднёвага краю,
А з усходняга краю прышоў кок-сагыз.

Ходзяць нашы каровы, авечкі гуртамі,
І што год усё большы прырост маладых.
Коні сытыя горача б'юць капытамі,
Першы маршал нам скажа, мы сядзем на іх.

Мы заможнымі сталі з калгаснага ладу:
Масла, сыр, каўбаса і віно сваё ёсць.
Усяго на стале, і мы шчыра так рады,
Калі хату з дарогі наведае госць.

У часы адпачынку ў запале нястрымным
Маладосць весяліцца, аж хата звініць.
Ад душы табе скажам, наш Сталін любімы,
Як добра, як весела сёння нам жыць.

* * *

Стала светлай, пісьменнаю наша краіна,
Забабонаў і прымхаў мы скінулі груз,
І не крыжык—адзнаку пакуты і кпінаў,
А пісьмо табе піша цяпер беларус.

Сёння сотні сярэдніх, дзесяткі вышэйшых
Навучальных, даследчых у нас устаноў.
Маладосці на свеце няма шчаслівейшай,
Як у нашых шчаслівых дачок і сыноў.

У прасторныя, чыстыя, новыя школы
Яны кожную раніцу дружна ідуць,
Многа іх, белакурых, чарнявых, вясёлых,
Тваё светлае імя у сэрцах нясуць.

Галасы іх гучаць рознастайнаю мовай:
Тут яўрэі, палякі і латышы,
Тут жыве беларускае, рускае слова,
А пачуцці адзіныя ў кожнай душы.

Беларускую мову трымалі ў загоне,
Каб народ не пазбыў нематы і бяды...
З намі гэтаю мовай гавораць сягоння
Маркс і Энгельс, і Ленін, і ты, правадыр.

Мы расцілі яе клапатліва, надзейна,
За яе правялі мы з нацдэмамі бой.
І даступнымі сталі нам Пушкін і Гейне,
Руставелі і Горкі, Бальзак і Талстой.

Гэтай мовай друкуюцца кнігі, газеты,
У мільёнах ідуць у сяло, ў гарады.
Гэтай мовай пісьменнікі нашы, паэты
Табе славу пяюць, дарагі правадыр.

Мы скарбніцы народнай культуры збіраем,
Мы багацце даўнейшых легенд беражэм,
Пра сучаснае новыя казкі складаем,
Пра жыццё наша новыя песні пяем.

У народаў рэспублікі—клубы, тэатры,
Велізарнейшы лік самадзейных гурткоў,
Кінофабрыка, паркі і здольныя кадры
Песняроў, кампазітараў і мастакоў.

Узрасло дзесяць тысяч работнікаў плённых:
Інжынеры і тэхнікі—фабрык майстры,
Трыццаць тысяч настаўнікаў, сотні вучоных,
Аграномы, асветнікі і дактары.

На вышыні навукі, з кайданаў раскутай,
Узняліся народы краіны цяпер,
Навуковыя маюць свае інстытуты
На чале з Акадэміяй БССР.

Мы поспехі нашы ў баях здабывалі,
Да радасці партыя нас прывяла,
Вучылі вялікія Ленін і Сталін,
А дружба народаў нам сілу дала.

Разбіць ланцугі і пазбыцца былога
Нам рускі рабочы, як брат, дапамог,
І наша краіна з братэрскай падмогай
Няспынна да новых ідзе перамог.

Яна ўпершыню расцвіла як дзяржава,
Ад шчырага сэрца удзячна табе,
Бо ты даў ёй гэта законнае права,
Бо ты ўзгадаваў і стварыў КПБ.

Тут вучні твае нам яе узрасцілі,
Тут Фрунзе змаганне за партыю вёў,
Яднаў Кагановіч у Гомелі сілы,
У Віцебску сілы згуртоўваў Ежоў.

А гэтыя партыя воляй адзінай
Здзяйсняла нязменна указы твае,
І наша балотна-лясная краіна
Сягоння ў чароўнай красе паўстае.

І нашай з народамі братнімі дружбы,
Што гора былое змяла ў небыццё,
Клянемся: ніколі ніхто не парушыць,
Яна—наша сіла і наша жыццё.

Калісьці, яшчэ у падполлі глыбокім,
І Ленін і ты гэту дружбу каваў,
Праз цемру гадоў тых празорлівым вокам
Совецкіх рэспублік саюз аглядаў.

Народы сумесна прайшлі праз віхуры,
Сумесна сустрэлі свой радасны час,
І ад Негарэлага аж да Амура
Злучыла радзіма вялікая нас.

За гэту радзіму Кацельнікаў згінуў...
Яшчэ нават стрэл над зямлёй не заціх—
З Заходняй граніцы совецкай краіны
На Ўсход ад'язджае Георгій Чэрных.

Радзіме байцы нашы шчыра адданы,
І ворагі моц іх паспелі адчуць.
Чырвонаармейцу—любоў і пашану
І песню адвагі народы нясуць.

Ні пядзі нікому зямлі не дадзім мы,
Ад ворагаў кожны вяршок адстаім:
Усім нам насустрач выходзіць радзіма
З вялікім і шчодрым багаццем сваім.

Яна надзяляе нас працай і славай,
Яна—гэта мужны, адважны народ,
Яна беражэ чалавечае права
На працу, на радасць, на творчы палёт.

Агні большэвіцкіх ідэй, як сузор'і,
Усходзяць над светам і свет абнялі,
І свецяць нізінам, узгор'ям, прымор'ям,
Як новае сонца шчаслівай зямлі.

Ты, мудры настаўнік, між геніяў геній,
Сабраў у вянок іх, у золак адзін.
Твая Канстытуцыя—сцяг пакаленняў,
Ўзнімае народы нявольных краін.

Усё, аб чым марылі людзі і снілі,
Прыбітыя гнётам, прракляццем старым,
Ў Совецкім Саюзе з'яўляецца быллю,
І нашае шчасце мы свету дарым.

Твой вобраз, як пokліч, устаў над зямлёю,
Заве пераможна ісці ў барацьбе.
Мы ўсе ля Крэмля нашым сэрцам з табою,
І першая думка у нас—пра цябе.

Ты сонца для нас, што зямлю асвяціла,
І ласкай сагрэла палі, гарады;
Ты рэк поўнаводных імклівая сіла,
Празрыстасць крыніц—дарагі правадыр!

Праз тры рэволюцыі, бойкі, паўстанні
Ты вёў разам з Леніным нашы рады...
Ты нашых садоў і палёў красаванне,
Ты наша вясна—дарагі правадыр!

Табе—наша радасць, любоў і адданасць,
Табе—пяе славу сусветная шыр.
Вядзі нас, любімы, табой мы з'яднаны,
Ты наша жыццё—дарагі правадыр!

Ураду вялікай краіны Советаў
І партыі, даўшай нам шчасце і мір,
За гонар, за веліч людскога расцвета
Падзяку прымі—дарагі правадыр!

Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.
Прымі прывітанне, якое прыносіць
Табе, правадыр, беларускі народ.

**Пісьмо падпісалі два мільёны працоўных Совецкай Беларусі.**

*Пісьмо беларускага народу*
*вялікаму Сталіну*
*ў вершах пераказалі паэты БССР:*

**Янка КУПАЛА,**
**Якуб КОЛАС,**
**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ**
**Пятрусь БРОЎКА,**
**Пятро ГЛЕБКА,**
**Ізі ХАРЫК.**

---

# Прамова тав. Н. Ф. Гікало

## на Ўсебеларускім народным мітынгу 11 ліпеня 1936

Таварышы рабочыя, калгаснікі, совецкая працоўная інтэлігенцыя, сыны і дочкі беларускага народу!

Тысячагадовая гісторыя беларускага народу запоўнена крывавымі старонкамі прыгнёту і падняволення. З агнём і мячом праходзілі беларускую зямлю орды татар, літоўскія князі разам з беларускімі князямі прыгняталі беларускі народ, польскія магнаты, паны і шляхта паланілі, крыжом і мячом насаджвалі каталіцтва і польскія парадкі... Нават лівонскія і тэўтонскія рыцары і мечаносцы тапталі зямлю беларускую. І якіх толькі полчышчаў прыгнятальнікаў не бачыла беларуская зямля!

І правільна выказана ў пісьме беларускага народу вялікаму Сталіну:

> «Ішоў год за годам, ішоў век за векам,
> А мы пад няволяй, пад вячыстым здзекам.
> Паны і жандары, ды ксяндзы з папамі
> На шыях народных селі груганамі».

І турмы, і катаргу, і бізун царскага самаўладства паспытаў беларускі народ, але асабліва свежа ў памяці беларускага народу белапольская акупацыя, як чорная здань бяспраўя, пажараў, пагромаў, слёз і крыві ўдоў і дзяцей, закатаваных дзесяткаў і соцень байцоў беларусаў, яўрэяў за справу совецкай улады.

Шляхаводнай зоркай для беларускага народу стаў вялікі пролетарскі соцыялістычны Кастрычнік.

Стаўшы цвёрда на шлях ажыццяўлення ўказанняў **Леніна—Сталіна**, беларускі народ з брацкай дапамогай вялікага рускага народу і гераічнай Чырвонай арміі разбіў ланцугі акупацыі і бадзёра і смела ў сям'і народаў вялікага Совецкага Саюза пачаў будаваць новае радаснае жыццё.

І сёння ў пісьме да вялікага **Сталіна** беларускі народ пяе і славіць шлях, пройдзены ім, шлях творчай будоўлі справы соцыялізма, стварэння і росквіту культуры, нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу.

За гэтыя кароткія гады сваёй новай совецкай гісторыі беларускі народ упісаў цудоўныя старонкі ў гісторыю барацьбы за справу соцыялізма, за справу комунізма.

Іменна дзякуючы кіраўніцтву партыі большэвікоў, дзякуючы штодзенным любоўным адносінам і дапамозе беларускаму народу мудрага і вялікага таварыша Сталіна, беларускі народ, не гледзячы на тысячагадовы гнёт мінулага, паказвае надзвычайныя якасці народу працавітага, народу інтэрнацыянальнага, які на аснове вялікай дружбы народаў у сям'і народаў Совецкага Саюза заняў пачэснае месца. Совецкая Беларусь стала ордэнаноснай рэспублікай.

Комуністычная партыя большэвікоў Беларусі, створаная, выхаваная таварышам **Сталіным,** у радах сваіх меўшая вучняў **Леніна—Сталіна** тт. **Фрунзе, Мяснікова, Кагановіча, Ежова,** на справе праводзіць ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, на справе вырошчвае, прасоўвае і любоўна выхоўвае кадры партыйных і непартыйных большэвікоў з радоў беларускага народу.

Прыклад гэтаму—беларусы—кіраўнікі партыйнага, гаспадарчага, дзяржаўнага жыцця Совецкай Беларусі. Прыклад гэтаму—ордэнаносцы Беларусі. Прыклад гэтаму і паэты, якія так цёпла і прыгожа напісалі песню-паэму вялікаму **Сталіну** ад народу беларускага.

Беларускі народ можа запэўніць народы вялікіга Совецкага Саюза, ВКП(б), саюзны совецкі ўрад: тт. Молатава, Калініна, першага маршала Варашылава і вялікага **Сталіна,** што ён не дапусціць, каб совецкія граніцы на Захадзе пераступіла нага ворага.

Беларускі народ ганарыцца поспехамі сваёй соцыялістычнай будоўлі, росквітам сваёй культуры, але беларускі народ ведае, што зазнавацца нельга і што тут, на мяжы з Захадам, у асаблівасці трэба быць празорлівым, пільным, трэба ўмець бачыць і трэба ўмець знішчаць ворага.

Народ беларускі ведае, што за рубяжом частка беларускага народу і іншыя народы капіталістычных дзяржаў да сёнешняга дня скованы ланцугамі рабства, церпяць уціск, беспрацоўе, голад.

І памятаючы тысячагадовую гісторыю свайго мінулага і маладую гісторыю радаснага соцыялістычнага цяперашняга, беларускі народ натхняецца на новыя поспехі і барацьбу, натхняецца вялікай сталінскай Канстытуцыяй.

Недарма сярод беларускага народу на фабрыках, заводах, у калгасах і соўгасах растуць тысячы сталінскіх выхаванцаў—стаханаўцаў. І сярод гэтых тысяч стаханаўцаў, сярод старшынь сельсоветаў, калгасаў, сярод брыгадзіраў палёў растуць у соцыялістычнай працы на аснове поўнага роўнапраўя з мужчынай выдатныя жанчыны Совецкай Беларусі.

Тут, на стыку з капіталістычным светам, з фашысцкімі дзяржа-

вамі, беларускі народ мільёнамі вачэй і сэрцаў зліўся ў адзіную сям'ю з народамі вялікага Совецкага Саюза.

Тут гэты раней прыгнечаны народ—беларусы і яўрэі—сёння шле сваё палкае прывітанне вялікаму народу Совецкага Саюза, гераічнаму рускаму народу, вялікай партыі большэвікоў, партыі **Леніна—Сталіна.**

Беларускі народ сёння паслаў сваё прывітанне і народнае дзякуй вялікаму **Сталіну,** і за гэта прывітанне галасавалі ўсе працоўныя Совецкай Беларусі. Гэта прывітанне сёння мільёны людзей Совецкага Саюза чытаюць разам з беларускім народам. Сёння беларускі народ мільёнамі галасоў паўтарае імя вялікага друга народаў, генія чалавецтва, правадыра-празорліўца, які вядзе народы Совецкага Саюза да шчаслівага, радаснага, светлага жыцця,—**Сталіна.**

Няхай жыве непарушаная сталінская дружба народаў!

Няхай жыве ВКП(б)—перадавы атрад працоўных Совецкага Саюза!

Няхай жыве вялікі і любімы друг народаў Совецкага Саюза, геніяльны правадыр працоўных свету—наш **Сталін!**

---

Н. Ф. Гікало

# Совецкая Беларусь

У дні, калі ўся наша краіна, ад краю да краю, вітае нараджэнне вялікай сталінскай Канстытуцыі, асаблівую радасць і ўрачыстасць пераживаюць народы, якія не ведалі ў мінулым нічога, акрамя прыгнечання і цемры, народы, якім Окцябрская соцыялістычная рэволюцыя і ленінска-сталінская нацыянальная палітыка адкрылі шырокую дарогу да адраджэння і нацыянальнага росквіту. Такім народам з'яўляецца і беларускі.

Ад Бігосава да Негарэлага, ад Негарэлага да старадаўняга Турава, праз полацкія азёры, праз менскія лясы і ўзвышшы, праз слуцкія балоты і раўніны праходзіць заходняя граніца Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. На ўсход і захад ад граніцы жыве адзін і той-жа беларускі народ; аднак, побач жывуць два процілеглыя светы: свет свабоднай творчай працы, багацця і радасці— і свет беспрацоўя, рабства і жабрацтва.

Багата і слаўна Совецкая Беларусь! На шырокіх калгасных палях шумяць аўсы і пшаніцы, зелянеюць лубін, каноплі і лён. Сцяной стаяць высокія сасновыя і лісцёвыя лясы. Беластвольныя бярозы, стройныя сосны, векавыя дубы, шыракалістыя клёны, граб, вяз, ясень—усе дрэвы высокакаштоўных парод ёсць у нашай рэспубліцы. На жоўтых пясках і ўзгорках шырока раскінуліся суцэльныя сасновыя бары. Лясы Беларусі багаты дзікай птушкай і звярамі. Сярод зялёных масіваў, асабліва на поўначы, велізарнымі люстрамі блішчаць азёры. Поўнаводныя рэкі перасякаюць краіну ва ўсіх напрамках. У цеснай даліне з высокімі берагамі раскінуўся Днепр. Вапнавымі скаламі ўзнімаюцца берагі Заходняй Дзвіны. Спакойна і паволі сярод палескіх балот і азёр нясуць свае воды Прыпяць і Сож.

У даўныя часы гэтыя рэкі служылі шляхамі зносін паміж народамі і ў гісторыі Беларусі адыгралі велізарную ролю. Беларусь стагоддзямі з'яўлялася арэнай войн. Тут біліся рускія і літоўскія князі, тут ваявалі польскія каралі і маскоўскія цары, тут праходзілі полчышчы шведаў і татарскія орды; палі Беларусі таптаі салдаты Напалеона, і тысячы іх засталіся назаўсёды ў водах Бярэзіны.

Змяняліся каралі і цары, але лёс беларускага народу быў заўсёды аднолькавы. Да Вялікай Окцябрскай рэволюцыі князі і магнаты ўладалі двума трэцямі ўсёй зямельнай плошчы Беларусі, і толькі трэць яе выпадала на долю жабрацкага сялянства. Адзін князь Віт·генштэйн уладаў звыш 700 тыс. дзесяцін зямлі, Радзівіл—150 тыс. дзесяцін, граф Патоцкі—120 тыс. дзесяцін, дзесяткі памешчыкаў мелі кожны ад 50 да 100 тыс. дзесяцін зямлі.

Кара, мох, хлеб напалову з мякінай, крапіва былі харчамі селяніна. Амаль адзіным, усё замяняючым прадуктам была бульба.

Гучная, музычная, задушэўная беларуская мова царскімі апрычнікамі была абвешчана «хамскай» мовай і забаронена да ўжывання.

Каб выпусціць кнігу на беларускай мове, трэба было ісці на хітрыкі. Некаторыя беларускія кнігі выдаваліся пад выглядам балгарскіх, сербскіх. Здзекі з беларускай мовы, беларускай песні, беларускага слова прывялі да таго, што звыш 70 проц. народу было няграматным. Асобныя сёлы, вёскі ў выніку ўціску і нястач вырадждаліся.

Лясістая і балоцістая частка Беларусі—Палессе—была абвешчана дзікай мясцовасцю, заселенай дзікімі людзьмі. У лесе, на астраўках сярод балот жылі палешукі. Патрыярхальны ўклад гаспадаркі і патрыярхальныя адносіны захоўвалі тут поўную сваю сілу. Балоты, камары, зморваючая праца асуджалі чалавека на заўчасную смерць.

У імперыялістычную вайну палі Беларусі зрэзалі акопы, бліндажы. Усіх здаровых забралі праліваць кроў «за веру, цара і бацькаўшчыну», а старых, жанчын, дзяцей выгналі з родных месц, і не было такога кутка ў Расіі, дзе-б не пабывалі бежанцы з Беларусі. Нямецкія акупанты руйнавалі, грамілі, палілі беларускія вёскі.

Самай страшнай, самай жорсткай для беларускага народу была белапольская акупацыя. Гарэлі не толькі вёскі, але і гарады, пагромы разбуралі мястэчкі, па ўсёй краіне выраслі шыбеніцы, плакалі згвалтаваныя жанчыны, панская чэлядзь секла беларускага селяніна, як у прыгонны час.

Але гераічны беларускі народ не здаўся. Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ён арганізоўваў партызанскія атрады, змагаўся супроць акупантаў у радах Чырвонай Арміі і з дапамогай вялікага рускага пролетарыята прышоў да свайго вызвалення.

Радасна і весела жыве цяпер беларускі народ. Велізарны размах набыла калгасная мастацкая самадзейнасць. Многа талентаў у беларускага народу: музыкі, танцоры, спевакі. На калгасных вечарынках, у полі пасля работы грыміць музыка. Хлопцы і дзяўчата скачуць «лявоніху»—гэты прыгожы, жыццярадасны нацыянальны беларускі танец.

Адышлі ў мінулае сумныя заўныўныя песні прыгону. Жыццё беларускага народу становіцца ўсё лепш, багацей, радасней. Выдатныя

якасці беларускага сялянства—працавітасць, чэснасць, дысцыпліна—з усёй сілай праявіліся пры калгасным ладзе.

Совецкая ўлада дала калгасам зямлю навечна. А ў Заходняй Беларусі сялян пазбаўляюць мізэрных кавалачкаў зямлі і аддаюць іх хаты, жывёлу і зямлю вартавым сабакам польскага фашызма—асаднікам. На калгасных палях Совецкай Беларусі грукочуць маторы трактароў, працуюць тысячы складаных сельскагаспадарчых машын. А ў Заходняй Беларусі на мярцвеючых палях калупаюць зямлю ўсё тая-ж убогая саха і жалезны плуг, як вышэйшае дасягненне земляробчай культуры! Нашы калгаснікі жывуць заможным жыццём, а ў Заходняй Беларусі сяляне некалькі раз вараць бульбу ў адной і той-жа салёнай вадзе: солі купіць няма за што.

Няма чаго і гаварыць аб культуры Заходняй Беларусі, дзе польскі фашызм праследуе беларускую мову, закрыў беларускія школы, разагнаў усе культурныя аб'яднанні беларусаў.

У вызваленай Беларусі праца стала і становіцца справай гонару, доблесці і геройства. Толькі ў рэзультаце ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, гераічнай работы ўсяго шасцімільённага народу, Беларуская рэспубліка вышла ў рады перадавых рэспублік і заваявала ордэн Леніна. З нетраў народу выраслі выдатныя людзі, якімі ганарыцца ўся рэспубліка. Ордэнаносец-стаханавец запалкавай прамысловасці тав. Лучкоўскі, рабочы абутковай фабрыкі імя Кагановіча тав. Скабло, слесар завода імя Варашылава Харнас, стаханавец Бабруйскага лесакамбіната тав. Рушко, народныя настаўнікі Манцэвода і Прэабражэнская, стаханаўцы сельскай гаспадаркі—конюх Батоўкін, ільнатрапальшчык тав. Ражкоў, старшыні калгасаў Блоцкі, Бейня, брыгадзір Клішэвіч і сотні іншых паказваюць прыклады соцыялістычных адносін да працы.

У нас 74 ордэнаносцы, якія працуюць у сельскай гаспадарцы, і 35 ордэнаносцаў—у прамысловасці і на транспарце.

Аб даваеннай прамысловасці няма чаго і гаварыць, бо ў краіне было толькі некалькі дзесяткаў саматужных і поўсаматужных заводаў, вярней майстэрань.

У Совецкай Беларусі ўдзельная вага прамысловасці ў народнай гаспадарцы складае 74 проц.

Беларускі лес раней драпежніцкі вырубаўся памешчыкам. Цяпер з гэтага лесу мы робім каштоўнейшыя рэчы.

З беларускай асіны і сасны выпрацоўваецца дасканалы шоўк на Магілеўскай фабрыцы штучнага валакна. Пяць фабрык заняты вытворчасцю паперы. Дзесяткі буйных прадпрыемстваў вырабляюць высокаякасную фанеру. На Бабруйскім лесапільным камбінаце робяцца сотні стандартных дамоў і будаўнічыя дэталі.

Мазырскія пяскі ідуць для вырабу добрага шкла на буйнейшыя механічныя заводы ў Гомелі. Непраходныя асінаўскія і іншыя балоты

асушаны і даюць штогод мільёны тон торфу. На асінаўскіх-жа балотах пабудавана магутная электрастанцыя імя таварыша Сталіна, энергіяй якой карыстаюцца тры прамысловыя цэнтры Беларусі (Віцебск, Магілеў, Орша). Створаны зусім новыя галіны прамысловасці з першакласнымі фабрыкамі. Беларускія запалкі, якія вырабляюцца на пяці занава пабудаваных фабрыках, вядомы і за межамі Совецкага Саюза. За першую пяцігодку пабудаваны буйныя швейныя і трыкатажныя фабрыкі.

Абутковая прамысловасць рэканструявана і створаны новыя прадпрыемствы. Вырасла буйная кандзіцерская прамысловасць у Менску, Гомелі і ў іншых месцах.

Нашы металаапрацоўчыя заводы вырабляюць складаныя машыны: тарфяныя камбайны, свідравальныя, стругальныя станкі і інш. Зараз распрацоўваецца праблема газіфікацыі і каксавання торфу. Вырашэнне гэтай праблемы выкліча далейшае бурнае развіццё нашай прамысловасці.

Штогод беларуская прамысловасць выпускае на паўтара мільярда рублёў прамысловых прадуктаў (у цэнах 1926-27 гг.).

Вырас за гады рэволюцыі рабочы клас. У 1913 годзе ў Беларусі было 13 тыс. рабочых, цяпер у буйнай прамысловасці і на транспарце—200 тысяч.

Змяніўся нацыянальны склад рабочага класа. 66 проц. усіх рабочых цэнзавай прамысловасці—беларусы. Вырасшыя кадры беларускіх рабочых паспяхова асвоілі сучасную тэхніку нашых заводаў і ўстанавілі ў радзе галін прамысловасці ўсесаюзныя рэкорды. Усесаюзнае пяршынства па трыкатажнай прамысловасці належыць маладой беларускай работніцы-стаханаўцы віцебскай фабрыкі «КІМ» Дабравольскай. Усесаюзнае пяршынства па лесапіленню аспрэчвае беларускі рабочы бабруйскага камбіната Рушко. Многа іншых слаўных імён беларусоў-стаханаўцаў ведае наша рэспубліка і ўвесь Совецкі Саюз.

Па мястэчках, у былой чарце аседласці, жыла яўрэйская бедната. Дробнабуржуазная гандлярская стыхія засмоктвала людзей, як дрыгва. Сінагога, ешыбот і хедэр акутвалі жывую мысль чалавека. Тут жылі прыніжаныя, забітыя яўрэйскія беднякі, якія займаліся дробным гандлем і рамесніцтвам. Цяпер у цэнзавай прамысловасці Беларусі 23 проц. яўрэйскіх рабочых, сярод іх выраслі выдатныя, смелыя, мужныя людзі, такія, напрыклад, як большэвікі-стаханаўцы Скабло, Розенберг і іншыя. Цяпер ёсць у Беларусі яўрэйскія калгасы, у якіх яўрэі, ударнікі палёў, разам з беларускімі калгаснікамі змагаюцца за культурнае і заможнае жыццё.

Здаўна неўрадлівай лічылася беларуская зямля. На вузкіх палосках, раздзеленых палыновымі межамі, на пясчаных і балоцістых землях, куды быў адціснут панамі і памешчыкамі беларускі селянін, цяжка было нават пры велізарнай затраце працы атрымаць ураджай.

Цяпер высокія ўраджаі дае беларуская зямля. 86 проц. усіх сялянскіх гаспадарак—у калгасах. Велізарную дапамогу ў рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і ва ўзброенні яе перадавою тэхнікай аказалі беларускаму сялянству вялікі рускі народ, партыя і ўрад і асабліва таварыш **Сталін**. Буйнейшае значэнне мела пастанова партыі і ўрада аб далейшым уздыме сельскай гаспадаркі ў нечорназемнай паласе. У 1928 годзе ў Беларусі было 102 трактары. Зараз—звыш 6 тыс. трактароў, у тым ліку 300 магутных «сталінцаў». Упершыню ў гэтым годзе на ўборцы багатага калгаснага ўраджаю,—а ўраджай у гэтым годзе чакаем сапраўды багаты,—будуць працаваць на беларускіх палях 120 камбайнаў. Калгасы Беларусі маюць звыш 500 уласных грузавых аўтамабіляў.

Калгасныя ўраджаі са старымі не параўнаць. Калгас «Чырвоны партызан» у мінулым годзе атрымаў 25 цэнтнераў ячменю і 24 цэнтнеры аўса з гектара. Калгас імя Молатава атрымаў 16 цэнтнераў жыта з гектара. Калгас «Будаўнік» атрымаў 18 цэнтнераў азімай і 18,5 цэнтнера яравой пшаніцы з гектара. Калгас «Чырвоны араты», дзе працуе брыгадзірам ордэнаносец Знакаў, атрымаў 29 цэнтнераў ячменю з гектара.

Залацісты беларускі лён ідзе на ільнапрадзільныя фабрыкі Саюза і на экспарт. Да рэвалюцыі, у 1916 годзе, Беларусь засявала 94 тыс. гектараў ільном. У 1936 годзе засеяна ільном 243 тыс. гектараў. У калгасах Беларусі зараз 268 звенняў змагаюцца за атрыманне ў гэтым годзе тоны ільнavaлакна з кожнага гектара. Ужо ў мінулым годзе лепшыя калгасныя брыгадзіры дабіліся 5,5 цэнтнера ільнавалакна з гектара (Ганна Караленка, калгас «Вольная праца», Тэрахоўскага раёна). Стаханаўцамі трапальшчыкамі і трапальшчыцамі лёну па праву ганарыцца Савецкая Беларусь. Усесаюзны рэкорд па трапанню лёну заваёван у мінулым годзе беларусам тав. Ражковым, з Оршанскага раёна.

Змяніўся твар беларускай вёскі. Адыйшлі ў мінулае брудныя, курныя хаты, сцягваюцца к цэнтру калгаса хутары. У калгасах з'явіліся паркі культуры і адпачынку, клубы, яслі, хаты-радзільні, амбулаторыі, лазні. Будуюцца добрыя, крытыя чарапіцай і жалезам дамы. На калгасных вуліцах пракладваюцца тратуары, вуліцы абсаджваюцца бярозкамі, пладовымі дрэвамі. Сталінскі статут калгаснага жыцця праведзен у дзеянне! Калгаснікі ходзяць у гарадскіх гарнітурах і добрых ботах, а калгасніцы ў свята надзяюць сукенкі і блузкі з беларускага шоўку.

Бездарожжа—біч Беларусі ў мінулым—ліквідуецца. Дасканалымі шасейнымі дарогамі звязаны ўсе 90 раёнаў рэспублікі. Няма ні аднай дарогі ў Беларусі, якая не была-б акружана клопатам і ўвагай не толькі дарожных арганізацый, але і ўсяго народу.

У школах вучыцца ўся дзетвара. Выкладанне вядзецца на родных

мовах. Звыш 30 тысяч народных настаўнікаў навучаюць совецкую дзетвару.

Каля 15 тысяч студэнтаў займаюцца ў 18 вышэйшых навучальных установах БССР, створаных совецкай уладай.

Цэнтрам навукова-даследчай мыслі з'яўляецца дзецішча соцыялістычнай рэволюцыі—Акадэмія навук БССР з яе інстытутамі. Растуць выдатныя кадры совецкай інтэлігенцыі. Саюз совецкіх пісьменнікаў яднае звыш 100 чалавек Беларуская мастацкая літаратура па праву займае адно з відных месц у літаратуры народаў СССР. Не гаворачы ўжо аб старых таленавіцейшых пісьменніках і паэтах, як Янка Купала і Якуб Колас, выраслі маладыя здольныя пісьменнікі і паэты, як Андрэй Александровіч, Броўка, Глебка, Лынькоў, Харык і іншыя. Беларускае выдавецтва выпускае багатую літаратуру на родных мовах. Палессе, якое раней уяўлення не мела аб газетах, зараз атрымлівае іх штодня на самалётах.

Беларуская народная музыка, песня шырока льецца над свабоднай краінай:

Мы ідзем дарогай новай
З песняй, званчэй сталі,
Нас вядзе да перамогі
Наш вялікі Сталін.

У рэспубліцы—6 дзяржаўных тэатраў, адзін з іх—тэатр оперы і балета. Беларускі народ вылучыў таленавітыя кадры музыкаў, артыстаў, кампазітараў.

Радыё, кіно шырока праніклі нават у самыя далёкія куткі Беларусі. Цяжка знайсці калгасніка, які-б не бачыў выдатных сучасных карцін, як «Чапаеў», «Мы з Кранштата».

Гордасцю з'яўляецца і наша Беларуская дзяржаўная бібліятэка, якая налічвае звыш паўтара мільёна тамоў кніг.

Подлыя вырадкі, прадажныя псы польскіх і нямецкіх імперыялістаў, беларускія нацыянал-дэмакраты гадамі здраджвалі і прадавалі інтарэсы працоўных Беларусі. Яны імкнуліся прышчапіць працоўным масам шавіністычную атруту. Беларускі народ пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі выкрыў і з ганьбай выгнаў гэтых прадажных сабак і выкінуў на сметнік гісторыі іх здрадніцкі напісаныя пад дыктоўку польскіх і нямецкіх фашыстаў планы.

Беларускі народ, які адчуў усе жудасці імперыялістычнай бойні, усе зверствы польскіх акупантаў, народ, які прайшоў гераічны шлях перамог, народ, які атрымаў шчаслівае і радаснае жыццё, гэты народ ад старога да малога прасякнут выключнай адданасцю нашай радзіме, вялікаму Сталіну.

Беларускі народ цэніць і любіць нашу родную, непераможную Чырвоную Армію і яе правадыра, любімца беларускага народу Кліма Варашылава. Мы любім сваю Чырвоную Армію, прынесшую нам

вызваленне. Увесь наш народ, які мае сур'ёзны вопыт барацьбы з ворагам, калі гэтага патрэбуюць партыя і ўрад, выступіць, як адзін, на абарону граніц нашай вялікай радзімы.

Совецкая Беларусь—перадавы фарпост на заходніх граніцах Совецкага Саюза. Гэтыя граніцы ахоўваюць слаўныя пагранічнікі, усе калгаснікі і калгасніцы Беларусі. Граніцы закаваны ў жалеза-бетон і закрыты на замок. На сотні кілометраў цягнуцца пагранічныя слупы з совецкім гербам. І ўзімку, і ўлетку, і ў асеннюю непагоду, і ў вясенні разліў, і ў дождж і туман, на кожным участку і перакрыжаванні, на звярыных сцежках мільгацяць зялёныя пятліцы родных сыноў народу—бясстрашных пагранічнікаў. У ахове граніц дапамагае ўвесь беларускі народ. Шырока вядомы піонерка-гераіня Ванда Аляшкевіч, калгасніца Янкоўская, калгаснік Канюшэўскі, затрымаўшыя парушальнікаў граніц. Такіх герояў у Беларусі тысячы.

Беларусь—непрыступная крэпасць Саюза на заходняй граніцы. Кожны працоўны Беларусі—беззаветна адданы радзіме вартавы на граніцах нашай соцыялістычнай бацькаўшчыны.

Праект сталінскай Канстытуцыі спаткан у гарадах і вёсках, на пагранічных заставах і ў чырвонаармейскіх часцях Беларусі з небывалым энтузіязмам і ўздымам. Уважліва, з найвялікшым інтарэсам чытаюць працоўныя тэкст Канстытуцыі. Цяжка перадаць радасць і гордасць кожнага грамадзяніна, выкліканыя гэтай найвялікшай падзеяй. У новай Канстытуцыі кожны працоўны Беларусі бачыць замацаванне дасягнутых перамог, бязмежныя магчымасці, якія адкрыліся перад кожным працаўніком.

Сталінская Канстытуцыя—гэта трыумф ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, палітыкі, дзякуючы якой беларускі народ падняўся з цемры мінулага да светлых вяршынь соцыялізма. З вуснаў працоўных не зыходзіць любімае і роднае імя **Сталіна.**

**(«Правда»)**

---

# Новая сталінская Канстытуцыя СССР

Найвялікшаю з'явай нашых дзён, якая мае сусветна-гістарычнае значэнне, з'яўляецца апублікаваны праект сталінскай Канстытуцыі.

Новая сталінская Канстытуцыя з'яўляецца Канстытуцыяй соцыялістычнага грамадства.

У простых, зразумелых і разам з тым глыбокіх па свайму сэнсу і значэнню словах, у артыкулах новай сталінскай Канстытуцыі запісана структура новага бяскласавага соцыялістычнага грамадства, дзе няма больш эксплаатацыі чалавека чалавекам, дзе няма больш пануючых і прыгнечаных нацыянальнасцей, а працоўныя народы ўсіх нацыянальнасцей горада і вёскі, у цесным брацкім саюзе, пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў і таварыша Сталіна змагаюцца за стварэнне новага, заможнага, раднага і шчаслівага жыцця.

Артыкул першы праекта новай сталінскай Канстытуцыі з усёй паўнатою характарызуе гэты новы грамадскі лад соцыялістычнай дзяржавы. Новая Канстытуцыя ў артыкуле 12 абвяшчае, як закон нашай дзяржавы: «хто не працуе, той не есць» і прынцып соцыялізма: «ад кожнага па яго здольнасцях, кожнаму—па яго працы». Кожны працоўны нашай краіны ведае, што ён з'яўляецца членам вялікай сям'і працоўных, якія сваімі ўласнымі рукамі, сваёй працай ствараюць для сябе і ўсіх грамадзян соцыялістычнай радзімы, новае, культурнае, раднасное жыццё, сваёй працай ствараюць матар'яльныя каштоўнасці для палепшання свайго ўласнага дабрабыту і далейшага ўзмацнення магутнасці Совецкай краіны.

Сталінская формула: «... Жыць стала лепш, таварышы. Жыць стала весялей», адлюстроўвае перамогу соцыялізма, якой працоўныя масы вялікага Совецкага Саюза дабіліся пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў на чале з вялікім стратэгам пролетарскай рэволюцыі і правадыром—таварышом Сталіным.

Капіталістычныя элементы ліквідаваны назаўсёды. Соцыялістычная сістэма гаспадаркі перамагла ў горадзе і ў вёсцы. Яна не ведае ні крызісаў, ні беспрацоўя—неадлучных спадарожнікаў капіталізма. Народна-гаспадарчы план, планавая вытворчасць з'яўляюцца магутнаю зброяй у руках дыктатуры пролетарыята, зброяй павышэння прадукцыйных сіл краіны, палепшання дабрабыту совецкага народу і ўмацавання магутнасці Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Распрацаваны праект новай Канстытуцыі мае сапраўды сусветна-гістарычнае значэнне. У сваіх артыкулах і параграфах ён увасабляе авеяную славай і гераізмам сталінскую эпоху.

Рабочы клас, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, паспяхова вырашыў самую вялікую і трудную задачу—перавод пераважнай большасці насельніцтва нашай краіны, бядняцкага і серадняцкага ся-

лянства, на социялістычны шлях, ператварэнне раздробленай індывідуальнай сельскай гаспадаркі ў буйную калектыўную.

Гэту задачу можна было вырашыць толькі пры ўмове ліквідацыі кулацтва як класа, на базе суцэльнай калектывізацыі, і яго агентуры—правага апартунізма, пры ўмове разгрому трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, якая выраджілася ў фашысцкую контррэволюцыйную групу.

Цяпер селянін выступае ўжо як прадстаўнік буйнай, калектывізаванай гаспадаркі, як актыўны будаўнік соцыялістычнага грамадства. Знікла карэннае класавае адрозненне паміж рабочымі і сялянамі, адбыліся вялікія соцыяльныя змены сярод інтэлігенцыі.

> «Наша грамадства,—гаварыў таварыш Сталін у гутарцы з Рой-Говардам,—складаецца выключна са свабодных працаўнікоў горада і вёскі—рабочых, сялян, інтэлігенцыі. Кожная з гэтых праслоек можа мець свае спецыяльныя інтарэсы і адлюстроўваць іх праз маючыяся шматлікія грамадскія арганізацыі. Але паколькі няма класаў, паколькі грані паміж класамі сціраюцца, паколькі астаецца толькі некаторая, але не карэнная розніца паміж рознымі праслойкамі соцыялістычнага грамадства, не можа быць пажыўнай глебы для стварэння змагаючыхся паміж сабою партый».

Працэс знішчэння класаў яшчэ не завершан. Ёсць рэшткі класавага адрознення паміж рознымі праслойкамі соцыялістычнага грамадства. У барацьбе за знішчэнне гэтых рэштак рабочы клас выступае як перадавая кіруючая сіла соцыялістычнага грамадства і совецкай дзяржавы. Кіруючай і накіроўваючай сілай ва ўсёй сістэме совецкай дзяржавы з'яўляецца авангард рабочага класа—комуністычная партыя большэвікоў. Яна—мозг і душа нашай дзяржавы.

Што датычыць эксплаататарскіх класаў, то яны ў нас ліквідаваны канчаткова і назаўсёды. У нашай народнай гаспадарцы няма цяпер капіталістаў і кулакоў.

> Аднак, «гэта не значыць, што ў нас перавяліся варожыя нам па сваёй класавай прыродзе элементы. Іх яшчэ засталося не мала. І малейшае паслабленне рэволюцыйнай пільнасці яны выкарыстоўваюць, каб пакасціць і кідаць нам палкі ў калёсы. Нельга таксама забываць аб тым, што дробнабуржуазная стыхія жывуча, што нават сярод працоўных сялян-калгаснікаў, у масе служачых нашага дзяржапарата, а іншы раз і сярод рабочых яны лёгка знаходзяць сваіх выразіцеляў то ў выглядзе ўсякага роду спекулянцікаў, то ў выглядзе рвачоў у адносінах калгаснага і дзяржаўнага дабра, то ў выглядзе антысовецкіх сплётнікаў і т. п.» (**Молатаў, з даклада на 2-ой сесіі ЦВК СССР** VII склікання).

Класавая барацьба працягваецца. Варожыя элементы, падонкі трацкісцка-зіноўеўскай групоўкі, кідаюцца на крайнія меры барацьбы з нашай партыяй. Гэтыя белабандыты-фашысты ў барацьбе з партыяй і совецкай уладай ідуць на ўсё. З імі павінна весціся самая бязлітасная барацьба. Мы павінны падзесяцярыць сваю пільнасць.

* * *

Грамадскае ўстройства і эканоміка совецкай дзяржавы базуецца на соцыялістычнай уласнасці на сродкі вытворчасці: дзяржаўнай-усенароднай і калгасна-кааперацыйнай.

У нашай краіне створаны соцыялістычныя формы вытворчасці, якія сталі асноўнымі і пануючымі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Соцыялістычная ўласнасць прадстаўляе «больш высокі тып грамадскай арганізацыі працы ў параўнанні з капіталізмам. У гэтым сутнасць. У гэтым крыніца сілы і закон немінучай поўнай перамогі комунізма» **(Ленін).**

Стаханаўскі рух, які разгарнуўся ў нас з надзвычайнаю сілай, яшчэ раз паказвае ўсе перавагі соцыялістычнага спосабу вытворчасці. Рад галін нашай гаспадаркі па прадукцыйнасці працы ўжо дагнаў і перагнаў самыя перадавыя капіталістычныя краіны. Магутны ўсенародны стаханаўскі рух стварае ўсе ўмовы для ліквідацыі процілегласці паміж разумовай і фізічнай працай, тым часам як у капіталістычных краінах гэта процілегласць усё больш узрастае і ўзмацняецца.

Буржуазны друк стараецца скрыць ад сваіх народных мас той пункт у нашай новай Канстытуцыі, які гаворыць аб праве на працу. Буржуазія дасканала разумее, што гэты артыкул, як і ўвесь праект новай Канстытуцыі СССР, рэволюцыянізуе шырокія масы працоўных капіталістычных краін, дзе дзесяткі мільёнаў людзей пазбаўлены права на працу і асуджаны на галодную смерць.

Воўчы закон капіталізма ажыццяўляецца з усёй жорсткасцю. У інтарэсах свайго абагачэння капіталізм душыць і эксплаатуе мільёны працоўных, чыімі рукамі ствараюцца ўсе матар'яльныя каштоўнасці.

Лозунг пролетарыяў аб праве на працу заўсёды наводзіць смяротны жах на буржуазію. Але гэты лозунг можа здзейсніцца толькі ў краіне, дзе знішчана панаванне капіталізма, дзе няма прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці. Толькі соцыялістычны спосаб вытворчасці гарантуе права на працу і карыстанне ўсімі дарамі прыроды, навукі і тэхнікі ў інтарэсах матар'яльнага і культурнага добрабыту ўсяго працоўнага народу.

Беспрацоўе—адвечны спадарожнік капіталістычнай сістэмы—у нашай краіне ліквідавана назаўсёды. Артыкул 119 праекта новай сталінскай Канстытуцыі гаворыць:

> «Грамадзяне СССР маюць права на працу—права на атрыманне гарантаванай работы з аплатай іх працы ў адпаведнасці з яе колькасцю і якасцю.
>
> Права на працу забяспечваецца соцыялістычнай арганізацыяй народнай гаспадаркі, няўхільным ростам прадукцыйных сіл совецкага грамадства, адсутнасцю гаспадарчых крызісаў і ліквідацыяй беспрацоўя».

Жанчыны ў Совецкім Саюзе карыстаюцца аднолькавымі правамі з мужчынамі як у палітычным, так і вытворчым жыцці краіны.

> «Магчымасць ажыццяўлення гэтых правоў жанчын забяспечваецца прадастаўленнем жанчыне роўнага з мужчынай права на працу, аплату працы, адпачынак, соцыяльнае страхаванне і асвету, дзяржаўнай аховай інтарэсаў мацеры і дзіцяці, прадастаўленнем жанчыне пры цяжарнасці водпускаў з захаваннем утрымання, шырокай сеткай радзільных дамоў, дзіцячых яслей і садоў» (арт. 122 праекта новай Канстытуцыі).

Ва ўсіх капіталістычных краінах жанчыны заняты пераважна ў галінах з нізкай кваліфікацыяй і атрымліваюць 40—70 проц. зарплаты мужчыны; у нас-жа, у СССР, яны заняты на высокакваліфікаванай рабоце і атрымліваюць аднолькавую зарплату з мужчынай.

Калі-ж улічыць 7, 6 і 4-х гадзінны рабочы дзень у СССР, цэлы рад прывілеяў, якімі карыстаюцца ў нас жанчыны на вытворчасці, няўхільны рост матар'яльнага добрабыту працоўных, права на адпачынак, на асвету, велізарны рост бюджэту соцыяльнага страхавання і т. д., то яшчэ больш яркім становіцца кантраст паміж росквітам жыцця працоўных у СССР і прагрэсіўным збядненнем працоўных мас у краінах капітала.

На глебе няўхільнага збяднення народных мас фашысцкія заправілы ўваскрашаюць дзікія мальтузіянскія законы народанасельніцтва. Яны спрабуюць ускласці віну за нястрымны рост беспрацоўя і жабрацтва на прыроду. Вось што яны гавораць: «Трэба прыняць пад увагу, што да таго часу, пакуль народанасельніцтва будзе так бязмерна размнажацца, як гэта было на працягу апошняга стагоддзя, рост прадукцыйных сіл вельмі мала можа ўплываць на палепшанне добрабыту паасобнага чалавека. Зямля не можа пракарміць усё ўзрастаючае насельніцтва».

Варварскімі тэорыямі фашысцкія грамілы спрабуюць вытлумачыць не толькі паходжанне крызісаў і беспрацоўя, але і свае імперыялістычныя імкненні да захопу чужых тэрыторый і арганізацыі новых войн.

Толькі ў нас, у Совецкім Саюзе, дзе ліквідавана прыватная ўласнасць на сродкі вытворчасці, дзе асновай грамадскага ладу з'яўляецца соцыялістычная ўласнасць, дзе пануе соцыялістычны спосаб вытворчасці,—агромны рост соцыялістычнай прамысловасці ўцягвае ў яе ўсё большую і большую колькасць рабочых, стварае небывалы росквіт матар'яльнага і культурнага жыцця працоўных.

Новая сталінская Канстытуцыя, замацоўваючы перамогі соцыялізма, устанаўляе асноўныя правы і абавязкі грамадзян СССР, што адыграе велізарную ролю ў справе далейшага развіцця і замацавання соцыялістычнай свядомасці працоўных мас нашай краіны.

Кожны грамадзянін Совецкага Саюза карыстаецца роўнымі правамі і абавязан ажыццяўляць і выконваць асноўны закон нашай краіны—Канстытуцыю, выконваць усе законы совецкай улады, быць дысцыплінаваным у сваёй рабоце, сумленна і добра адносіцца да сваіх грамадскіх абавязкаў, захоўваць і ўмацоўваць соцыялістычную ўласнасць як аснову Совецкай дзяржавы і абараняць сваю соцыялістычную радзіму. Усе гэтыя абавязкі проста і зразумела ўказаны ў праекце новай сталінскай Канстытуцыі. Кожны грамадзянін нашай краіны павінен добрасумленна выконваць іх для далейшага развіцця і ўмацавання соцыялістычнага ладу.

У напісаных рукою вялікага Сталіна артыкулах новай Канстытуцыі сказана ўсё тое, што патрабуецца ад грамадзян СССР для стварэння заможнага, культурнага і радаснага жыцця, для далейшага руху наперад па шляху да комунізма.

Праца ў нашай краіне авеяна легендарным гераізмам і доблесцю. Яна акружана велізарнейшым гонарам і славай. Яна робіць цуды на рыштаваннях гігантскіх пабудоў, у цэхах заводаў і фабрык, створаных па апошняму слову тэхнікі, на соцыялістычных палях, нова-

будоўлях—ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі соцыялістычная праца перавыхоўвае чалавека, стварае цудоўны сплаў ўсіх народнасцей з людзей старых і маладых, мужчын і жанчын, бальшэвікоў партыйных і непартыйных, нараджае радаснае, заможнае і шчаслівае жыццё.

Шчаслівая песня працы пераліваецца з краю ў край, з горада ў горад, з сяла ў сяло нашай неабсяжнай радзімы. Увесь совецкі народ любіць нашу комуністычную партыю і вялікага зодчага соцыялістычнага грамадства—таварыша Сталіна.

У праекце новай сталінскай Канстытуцыі знашоў сваё бліскучае адлюстраванне асноўны прынцып нашай дзяржаўнасці—совецкая дэмакратыя. Канстытуцыі буржуазных краін, нават самых дэмакратычных, адлюстроўваюць інтарэсы эксплаататараў і накіраваны супроць народных мас. Наша Канстытуцыя ахоўвае інтарэсы народу супроць эксплаататараў, у гэтым сутнасць і асноўнае адрозненне нашай дэмакратыі ад буржуазнай.

Вось якімі словамі Ленін характарызуе адрозненне буржуазнай дэмакратыі ад пролетарскай:

> «Буржуазная дэмакратыя... заўсёды вузка, ліцамерна, ілжыва, фальшыва, заўсёды застаецца дэмакратыяй для багатых, ашуканствам для бедных.
>
> Пролетарская дэмакратыя падаўляе эксплаататараў, буржуазію—і таму не ліцамерыць, **не абяцае** ім свабоды і дэмакратыі—а працоўным дае **сапраўдную дэмакратыю.** Толькі Совецкая Расія дала пролетарыяту, і ўсёй гіганцкай працоўнай большасці Расіі, нябачаную, немагчымую і нямыслімую ні ў адной буржуазнай дэмакратычнай рэспубліцы **свабоду і дэмакратыю,** адабраўшы, напрыклад, палацы і асабнякі ў буржуазіі (без гэтага свабода сходаў—ліцамер'е), адабраўшы друкарні і паперу ў капіталістаў (без гэтага свабода друку для працоўнай большасці нацыі ёсць хлусня), замяніўшы буржуазны парламентарызм дэмакратычнай арганізацыяй **Советаў, у 1.000 раз** больш блізкіх да «народу», больш «дэмакратычных», чым самы дэмакратычны буржуазны парламент» [1].

Славутая чатырохвостка буржуазнай канстытуцыі—усеагульнае, прамое, роўнае і тайнае выбарчае права—з'яўляецца найвялікшай хлуснёй і фальшу, якія прыкрываюць класавую сутнасць буржуазнай дзяржавы. Хіба можа быць усеагульнае выбарчае права ва ўмовах панавання буржуазіі? Хіба можа быць роўнае, прамое або тайнае галасаванне ва ўмовах уціску і эксплаатацыі большасці народу?

Фашысцкая дыктатура буржуазіі з коранем вырывае ідэі буржуазнай дэмакратыі, самую буржуазную дэмакратыю. «Фашызм і прававая сістэма—дзве рэчы зусім несумяшчальныя» **(Дзімітраў).** Крывавы фашызм у Германіі знішчыў нават тыя куцыя правы, якія былі ўстаноўлены Веймарскай канстытуцыяй. Неабмежаванае панаванне дубінкі, маўзера, сякеры, ката—вось «устоі» дзяржаўнага кіраўніцтва ў фашысцкіх краінах.

Але нават і ў краінах хвалёнай буржуазнай дэмакратыі выключныя законы і выключныя суды фактычна анулявалі апошнія свабоды

1) т. XXIII, стар. 220—221.

і правы, якімі некалі ганарыліся ідэолагі буржуазіі. Няма зараз такой капіталістычнай краіны, дзе-б не панавалі выключныя законы, якія фактычна адмяняюць «свабоду» і «права», абвешчаныя ў дні юнацтва буржуазных канстытуцый.

Тав. Молатаў у сваім дакладзе на VII з'ездзе советаў так ахарактарызаваў становішча ў буржуазных краінах:

> «Ранейшай упэўненасці ў сіле капіталістычнага ладу ўжо ў многіх няма. Трывога за заўтрашні дзень расце ў буржуазных класаў. Ніхто ўжо не думае не толькі аб расшырэнні, але і аб захаванні буржуазна-дэмакратычных праў і свабод. Сыплюцца на кожным кроку насмешкі над «чатыроххвосткай». Фашызм, непрымірыма варожы нават буржуазнай дэмакратыі і буржуазнаму парламентарызму, шырока ўваходзіць у моду і ў палітыцы буржуазнага кіравання і ў тэорыі дзяржавы. Ніякага давер'я народным масам!—такі лозунг кіруючых клік буржуазіі і іх фашысцкай агентуры. Ад буржуазнай дэмакратыі і парламентарызма—да непрыкрытай тэрарыстычнай улады капітала над працоўнымі пад фашысцкім сцягам—такі шлях развіцця буржуазных краін за апошні перыяд».

Новая выбарчая сістэма, якую ўводзіць у нашай краіне новая Канстытуцыя, з'явіцца магутнай зброяй у руках партыі і дыктатуры пралетарыята для далейшага ўздыму палітычнай актыўнасці працоўных мас, магутным сродкам у справе палепшання ўсёй работы савецкага апарата.

> «Усеагульныя, роўныя, прамыя і тайныя выбары ў СССР будуць бічом у руках насельніцтва супроць дрэнна працуючых органаў улады» **(Сталін).**

Новая совецкая Канстытуцыя будзе магутнай зброяй далейшага ўмацавання соцыялістычнай дзяржавы працоўных, зброяй канчатковага знішчэння супраціўлення рэштак адміраючых капіталістычных класаў і іх агентуры. Разам з тым, новая совецкая Канстытуцыя канчаткова замацуе вызваленне працоўных мас ад эксплаатацыі, замацуе роўнасць усіх нацыянальнасцей, роўнапраўе жанчын.

* * *

Гаспадарчы і культурны росквіт нашай краіны, правільнае правядзенне ленінска-сталінскай нацпалітыкі, стварэнне прамысловых баз у адсталых нацыянальных раёнах, якія пры царызме былі на становішчы калоній і поўкалоній, спрыяла таму, што былыя калоніі царскага самадзяржаўя квітнеюць, ператварыўшыся ў буйныя гаспадарчыя і культурныя цэнтры.

У выніку велізарных капіталаўкладанняў у нацыянальныя рэспублікі Украінская ССР дае краіне 56 проц. усяго вугалю, 61 проц. усяго чыгуна, 18 проц. машынабудаўніцтва, 74 проц. цукру і т. д.; прамысловасць совецкага Закаўказзя павялічыла ў 1935 г. сваю прадукцыю ў 6 раз у параўнанні з 1913 г.; у дзесяць раз узрасла прадукцыя прамысловасці Грузіі і Арменіі, дзе амаль занова стварыліся прамысловыя цэнтры; сярэднеазіяцкія рэспублікі ператвараюцца ў раёны буйнай баваўняна-папяровай прамысловасці, а таксама нафтавай, вугальнай і машынабудаўніцтва; на крайняй Поўначы выраслі такія новыя буйныя гарады як Кіравaград, Ігарка; у Таймырскай нацыянальнай акрузе будуецца Нарыльскі паліметалічны камбінат; асваенне паўноч-

нага морскага шляху адыгрывае ўжо буйнейшую ролю ў гаспадарчым і культурным уздыме народаў Поўначы.

На тэрыторыі Совецкай Беларусі не было ў мінулым колькі-небудзь развітой прамысловасці. Гэта была краіна жабрацкіх вёсак, дзе памешчык і кулак жорстка распраўляліся з галоднымі і знясіленымі ад цяжкай працы сялянскімі масамі. У гарадах так званай «чарты аседласці» пераважала дробная буржузія, гандляры, саматужнікі і рамеснікі.

На працягу ўсёй сваёй мінулай гісторыі Беларусь жорстка эксплаатавалася радам дзяржаў. Беларускі народ ніколі не ведаў сваёй дзяржаўнасці. Яго па-зверску эксплаатавалі літоўскія князі і польскія паны, грабілі мечаносцы і запарожскія казакі, грамілі напалеонаўскія поўчышчы. У апошнія гады працоўныя масы Беларусі перажылі нямецкую і польскую акупацыі.

І толькі совецкая ўлада прынесла вызваленне беларускаму народу. Упершыню за ўсю сваю шматвяковую гісторыю Беларусь стала дзяржавай—дзяржавай працоўных мас. Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік забяспечыў беларускаму народу бурны росквіт яго гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. На змену дробнаму рамяству прышла буйная прамысловасць. Выраслі індустрыяльныя цэнтры, павысілі ўраджайнасць соцыялістычныя палі, развіваецца соцыялістычная жывёлагадоўля.

Увесь беларускі народ з выключным энтузіязмам і радасцю сустрэў апублікаваны праект новай сталінскай Канстытуцыі. Як і ўсе народы вялікага Совецкага Саюза, ён бачыць у гэтым гістарычным дакуменце далейшы росквіт і ўмацаванне сваёй дзяржаўнасці.

На ўласным вопыце беларус пераканаўся, што толькі ў брацкім саюзе з СССР, пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў і вялікага Сталіна, ён упершыню ў гісторыі дабіўся сваёй дзяржаўнасці. Ён ведае, што толькі ў адзінай сям'і народаў СССР, пры непасрэднай дапамозе вялікага рускага народу, пад кіраўніцтвам КП(б)Б і тав. Гікало, дзякуючы штодзенным клопатам любімага Сталіна, Беларусь вышла ў рады перадавых рэспублік Совецкага Саюза і ўзнагароджана ордэнам Леніна.

Вітаючы праект новай сталінскай Канстытуцыі, беларускі народ яшчэ больш згуртаваўся вакол ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна. Пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і таварыша Гікало ён з новай энергіяй будзе змагацца за далейшыя перамогі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Контррэволюцыйныя нацдэмаўскія, эсэраўскія і бундаўскія элементы, «дэкларуючы за «незалежную Беларускую рэспубліку», на справе прадавалі Беларусь оптам і ў розніцу імперыялістычным драпежнікам, пачаргова нямецкім, польскім і французскім, а пазней ператварыліся ў платных агентаў замежнай контрразведкі» **(Гікало).** Яны хацелі стварыць пад эгідай Польшчы беларускую буржуазную дзяржаву, ператварыць яе ў прыдатак польскіх фашыстаў.

Большэвікі Беларусі выкрылі контррэволюцыйную сутнасць нацдэмаў і іх агентаў унутры партыі, усю іх прадажную палітыку, накіраваную на тое, каб ператварыць свабодную беларускую совецкую дзяржаву ў прыдатак, у калонію панскай Польшчы, або фашысцкай Германіі.

«І з гэтымі ворагамі,—гаворыць тав. Гікало,—наша бальшэвіцкая арганізацыя і беларускі народ грунтоўна расквіталіся ў 1929 годзе. Як, бачыце, не так даўно гэта было. Гэта патрэбна было пераждыць беларускаму народу, і ён здолеў гэта пераждыць, разбіць і разграміць ворагаў з дапамогай брацкіх народаў і, у першую чаргу, з дапамогай вялікага рускага пралетарыята».

Аднак мы павінны зараз яшчэ вышэй узняць нашу пільнасць, падзесяцярыць яе, каб яшчэ мацней і бялітасней змагацца з рэшткамі разбітага ворага, каб канчаткова знішчыць іх.

Расце, квітнее, мацнее Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка—магутны фарпост соцыялізма на заходніх граніцах Саюза.

I. Разгон

# Гікалаўцы

У лютым 1919 года генерал Дзенікін выцесніў большэвікоў з апорных баз Паўночнага Каўказа—Владзікаўказа і Грознага. Імкнучыся ўстанавіць «адзіную і непадзельную», ён неадкладна пачаў уводзіць старыя, царскія парадкі.

Нацыянальная буржуазія і мясцовыя феадальныя элементы дапамагалі яму ў гэтым. Былыя генералы і афіцэры царскай арміі, вышаўшыя з мясцовых дваранскіх вярхоў і з нецярплівасцю чакаўшыя прыходу Добраахвотніцкай арміі, станавіліся яе агентамі і выконвалі дырэктывы камандвання Ўзброеных сіл поўдня Расіі (УСПР). Добраахвотніцкую армію падтрымала і гарадская нацыянальная буржуазія, якая баялася большэвізма і не знаходзіла ўласных сіл для расправы з ім.

Зноў далучыць Каўказ «да рускай дзяржаўнасці» было даручана Дзенікіным генералу Ляхаву, імя якога было добра вядома на Каўказе (у 1905—1907 гадах ён узначальваў карную экспедыцыю і бязлітасна распраўляўся з рэволюцыйнымі выступленнямі горскіх працоўных).

Дзенікінскія кіраўнікі пачалі з ліквідацыі «горскага ўрада», які складаўся з нацыянальных буржуазна-феадальных элементаў і раней дапамагаў Дзенікіну змагацца з Совецкім Каўказам. З лютага 1919 года генерал Шацілаў, камандаваўшы дзенікінскімі часцямі на Каўказе, паведаміў старшыні совета міністраў «горскага ўрада» Пшэмахо Коцэву: «Лічу доўгам паведаміць, што ўсе горскія народы Паўночнага Каўказа добраахвотна падпарадкваліся камандванню Добраахвотніцкай арміі і ў сучасны момант уводзяць у сябе сістэму самакіраўніцтва, указаную генералам Ляхавым»[1]. Гэта «сістэма кіраўніцтва», па словах генерала Шацілава, на ўсім Паўночным Каўказе сустрэла процідзеянне толькі трох інгушскіх сёл, «чаму, на жаль, яны і пацярпелі».

Пры такім «аднадушшы» насельніцтва Паўночнага Каўказа існаванне «горскага ўрада» генерал Шацілаў лічыў немэтазгодным. «Становішча «горскага ўрада»,—піша ён,—стане ненармальным, і было-б мэтазгодна для агульнай справы і на карысць горскіх народаў цяпер-жа знішчыць атрымліваючаеся двоеўладдзе і абвясціць Вашым дэкрэтам, што з увядзеннем новай сістэмы самакіраўніцтва патрэбнасць у аб'яднаным «горскім урадзе» адпадзе, чаму ўрад і складае сваё поўнамоцтвы»[2]. Пратэсты «горскага ўрада» не дапамаглі—дзенікінцы ліквідавалі сваіх саюзнікаў, стаўшых цяпер лішнімі.

---

[1] Азова-Чорнаморскі крайархіў. Растоў, фонд Баева, с. № 7, л. № 3.
[2] Там-жа.

Схема кіраўніцтва «Терска-Дагестанскім краем», распрацаваная генералам Ляхавым, заключалася ў наступным: адзіная рэспубліка народаў Паўночнага Каўказа знішчалася; кожная народнасць у рамках сваёй області атрымлівала кіраўніка області і двух памочнікаў па ваеннай і грамадзянскай часці, назначаемых генералам Ляхавым; пры кіраўніках павінны былі састаяць «выбарчыя» органы дарадчага характару па пытаннях унутранага кіраўніцтва областцю.

Праект самакіраўніцтва, прапанаваны горскім народам генералам Ляхавым ад імя камандвання Добраахвотніцкай арміі, выходзіў з таго, што горскія народнасці атрымаюць кіраўніцтва «упаўне нацыянальнае па свайму складу і характару», але карыстацца самакіраўніцтвам яны могуць толькі «у адпаведнасці з ідэяй узнаўлення Вялікай адзінай Расіі».

З найбольш рэакцыйнага, адданага ідэям Добраахвотніцкай арміі горскага генералітэта і феадальнай знаці спешна фабрыкаваліся кадры «нацыянальных» кіраўнікоў. Кіраўнікамі абласцей былі назначаны: у Кабардзе—палкоўнік Бековіч-Чэркаскі, у Осецііі—генерал Абацэў, у Інгушэціі—генерал Мальсагаў, ў Чэчні—генерал Аліеў, кіраўніком Дагестана—палкоўнік князь Таркоўскі. Гэта былі памешчыкі, дваране, стагоддзямі эксплаатаваўшыя горскіх сялян. Натхнёныя высокім давер'ем камандвання Добраахвотніцкай арміі і паўнатой улады, яны яшчэ больш ўзмацнілі эксплаатацыю і прыгнечанне працоўных горскіх народнасцей. З дапамогай гэтых кіраўнікоў генерал Ляхаў змагаўся не толькі з большэвізмам, але і з усякай спробай нацыянальнага самавызначэння. Узброеныя сілы Горскай рэспублікі былі расфармаваны, часці яе ўліты ў склад Добраахвотніцкай арміі. Па ўсяму Паўночнаму Каўказу ўзмоцнена фармаваліся новыя вайсковыя адзінкі з мэтай узмацнення воінскай сілы Добраахвотніцкай арміі.

Калі вярхушка горскіх народаў была зацікаўлена ў прыходзе Добраахвотніцкай арміі і ў яе дапамозе для расправы з народным рухам, то прыгнечаныя горскія працоўныя з першага моманту сустрэлі Добраахвотніцкую армію ў штыкі.

Тэлеграмы генерал-кватэрмейстра Каўказскай Добраахвотніцкай арміі палкоўніка Курсонскага паведамляюць аб абстрэлах казацкіх раз'ездаў у раёнах Владзікаўказа. Чэчэнцы ў Грозненскім раёне, ля сялення Ачхой-Мартан, абстралялі афіцэрскі атрад; высланыя ў горы атрады не маглі выявіць страляўшых. У Владзікаўказскім раёне прападалі цэлыя групы казакаў, пасылаемых за фуражом. Патрабаванні камандвання Добрарміі аб выдачы скрываўшыхся ў горах большэвікоў, чырвонаармейцаў, аб мабілізацыі і рэквізіцыях для Добрарміі не выконваліся. Крок за крокам прыходзілася Добраахвотніцкай арміі і яе саюзнікам з мясцовых вярхоў адваёўваць Паўночны Каўказ у народаў, адстойваўшых сваю незалежнасць.

Для ўсмірэння горцаў высылаліся цэлыя дывізіі і карпусы. У аперацыі супроць чэчэнскіх аулаў 22 лютага 1919 года (Алхан-Юрт, Гехі, Урус-Мартан, Гойты і інш.) прымала ўдзел конная дывізія ў складзе чатырох палкоў і артылерыя з магутнымі рэзервамі. Чэчэнцы аказвалі ўпартае супраціўленне белым. Дзенікінцам прышлося пакінуць заняты з боем аул Гойты і вярнуцца ў Грозны[3]. Узмацніўшы вайсковыя часці, дзеяўшыя супроць чэчэнцаў, конніцай і артылерыяй, камандванне Добраахвотніцкай арміяй зноў пачало наступ-

[3] ЦАОР, фонд 1486, с. № 34, лл. 46—50.

ленне. Генерал Шацілаў, які кіраваў аперацыяй, звярнуўся да чэчэнцаў аулаў Алхан-Юрт, Гехі, Урус-Мартан і іншых з загадам аб неадкладнай выдачы большэвікоў і поўным падпарадкванні Чэчні генералу Дзенікіну.

Усім іншым народнасцям Паўночнага Каўказа (Інгушэція, Кабарда, Осеція, Дагестан) былі прад'яўлены аналагічныя патрабаванні. Ад Інгушэціі патрабавалі, зразумела, падпарадкавання асобам, назначаным камандваннем УСПР, свабоднага пропуску праз яе тэрыторыю войск Добрарміі, уплаты казакам усіх страт, нанесеных інгушамі з дня рэволюцыі, выдачы ўсіх інгушаў, служыўшых у Чырвонай арміі, і згоды на мабілізацыю ў рады Добрарміі ўсіх здольных насіць зброю ва ўзросце ад 18 да 40 год для адпраўкі іх у Цэнтральную Расію супроць Советаў.

Акрамя таго, кожны двор павінен быў даць вінтоўку, 200 патронаў да яе, рэвальвер-«наган» з 50 патронамі, 25 пудоў кукурузы і 2.000 руб. нікалаеўскіх грошай. Кожныя два двары звыш гэтага павінны былі даць каня з сядлом, адну галаву буйнай рагатай жывёлы і чатырох баранаў [4].

Інгушэція на гэтыя ўмовы не згадзілася і адказала паўстаннем, успыхнуўшым у чэрвені 1919 года. Камандванне Добраахвотніцкай арміі пайшло па выпрабаванаму шляху: былі пасланы карныя атрады, агнём і мечам распраўляўшыяся з непакорлівым народам; інгушскія аулы Сурхохі і Экажэво былі разгромлены і спалены ўшчэнт. Толькі сілай штыка, з дапамогай артылерыі і пад пагрозай спаліць і знішчыць усё жывое, камандванню Добрарміі і яе кіраўнікам з мясцовай феадальна-памешчыцкай знаці ўдавалася рабіць мабілізацыі— кожнай мабілізацыі спадарожнічалі дзесяткі спаленых аулаў і сотні забітых.

Папаўненні з горскай беднаты былі няўстойлівы і давалі вялікую колькасць перабежчыкаў у рады Чырвонай арміі і партызанскіх атрадаў Гікало—Шэрыпава. Настрой горскіх народаў, як перадавалі перабежчыкі з 2 Чэчэнскага палка Халіт-бей Суркаеў і Мадаеў, быў такі, што «як толькі ў Кізляры пачуюць першы стрэл з совецкай гарматы, горцы ўсе паўстануць» [5].

Лёс чэчэнцаў і інгушаў пасціг і іншыя горскія народнасці. У саюзе з мясцовай знаццю дзенікінцы распраўляліся з Осеціяй. Асабліва жорсткая была расправа з «керменістамі», арганізаваўшымі адпор дзенікінскім бандам у Осеціі. «Кермен»—рэволюцыйная арганізацыя сялянскай беднаты ў Осеціі (па імені легендарнага героя-раба, паўстаўшага за свае правы і ашуканчым шляхам забітага парабашчальнікамі), узнікшая ў сярэдзіне лета 1917 года і кіруемая осецінамі-большэвікамі. Летам 1918 года большасць керменістаў стала большэвікамі, увашоўшы ў партыю.

Па свайму складу «кермен» з'яўлялася не толькі нацыянальнай осецінскай арганізацыяй: рэволюцыйна настроеная частка рускага сялянства таксама ўступала ў яе рады і прымала ўдзел у агульнай барацьбе дыгорцаў-осецін з контррэволюцыяй [6].

Для расправы з керменістамі ў Осецію былі накіраваны асобыя

---

[4] „Правда“ № 255 ад 14 лістапада 1919 года, артыкул Мікаяна.

[5] „Красный воин“ № 160 ад 19 чэрвеня 1919 года (орган палітаддзела Астраханскага раёна).

[6] Архіў сакратарыята Галоўнай рэдакцыі ИГВ, фонд успамінаў, неапублікаваныя ўспаміны Даўкуй Такоева, № 1444, стар. 17.

карныя атрады. Сяло Хрысціянаўскае (месца найбольшага ўплыву і сканцэнтравання керменістаў) было спалена і разгромлена. Усё тое, што не паспеў знішчыць агонь, знішчылі і разграбілі дзенікінцы: зносіліся дамы, разбіраліся сцены, здымаліся стрэхі, падлогі і т. д. Тысячныя стады хатняй жывёлы, коні, павозкі, хатнія рэчы, мільёны пудоў пшаніцы і кукурузы—усё было расцягнута. У навакольных сёлах і станіцах былі мабілізаваны тысячы арб і брычак для вывазу маемасці з двух тысяч двароў сялення Хрысціянаўскага. 20 дзён цягнуліся абозы з награбленым хлебам і маемасцю.

Знойдзеных керменістаў жорстка забівалі. Акрамя павешаных у Хрысціянаўскім шасці керменістаў быў зверскі забіты старшыня ЦК партыі «кермен» Георгій Цаголаў. 18 штыковымі ранамі і прыкладамі ён быў ператвораны у бясформеную масу. Ап'янёныя нянавісцю да сваіх афяр, карацелі не шкадавалі ні старыкоў, ні дзяцей.

Услед за Хрысціянаўскім наступіла чарга Дыгоры. Дыгорская бедната пад кіраўніцтвам керменістаў аказала жорсткае супраціўленне азвярэлым дзенікінскім бандам, уступіўшым у саюз з горскімі кулакамі і афіцэрствам. Але праціўнік быў мацнейшы. Неўзабаве шыбеніцы пакрылі ўсю Дыгорыю. За малейшае падазрэнне ў спачуванні керменістам вешалі. У Кабардзе гаспадарнічалі банды белых кабардзінскіх князёў, якія помсцілі за супраціўленне, аказанае працоўнай Кабардой Дзенікіну пры яго падыходзе да Паўночнага Каўказа. У адказ на гэта ў Кабардзе быў сфармаваны для барацьбы з Дзенікіным конны атрад (2 700 шабель), на чале якога стаў цяперашні сакратар Кабардзінабалкарскага абкома тав. Бетал Калмыкоў. Тав. Калмыкоў са сваім атрадам, выцеснены бандамі Шкуро ў Інгушэцію, прымаў удзел разам з чырвонаармейцамі ў абароне Владзікаўказа і адступіў разам з імі ў горы Чэчні і Інгушэціі.

К восені 1919 года ўвесь горны Каўказ быў ахоплены полымем паўстанняў.

Афіцыйныя зводкі галоўнага штаба УСПР з верасня 1919 года штодзённа стрыкацяць паведамленнямі аб разбурэнні мастоў, чыгуначных ліній, аб падпалах матар'яльных складаў і т. д. Але яшчэ больш такіх паведамленняў у рознага роду сакрэтных данясеннях. У сакрэтным рапарце начальніка чацвертай Терскай казацкай дывізіі на імя вайсковага атамана Терскага казацкага войска (№ 0965 ад 7 лістапада 1919 года) мы знаходзім адкрытыя прызнанні аб ходзе барацьбы з горцамі [7].

Настрой у Інгушэціі, паведамляе начальнік дывізіі, пасля разгрому Сурхохі і Экажэва зрабіўся больш «роўным». Але гэта супакаенне можа быць толькі часовым, «таму што засталося многа людзей без прытулку, людзей, узброеных і азлобленых, хоць і напалоханых намі». З ліпеня 1919 года актыўнасць інгушаў рэзка ўзмацняецца. «Глеба прапагандыстам для ўзброеных выступленняў стала больш падыходзячай, таму што цяпер ужо многіх інгушаў нішто не звязвае з абавязкам не рабаваць і мірна сядзець дома»,—канчае свой агляд аб становішчы ў Інгушэціі аўтар рапарту.

У нагорнай Чэчні, дзе моцны быў уплыў большэвікоў: тт. Гікало, Шэрыпава, Эльдэханава,—паўстанні не спыняліся (плоскасная Чэчня была на повадзе ў мясцовых контррэволюцыянераў Чулікавых і інш., якія ішлі разам з Добрарміяй). Ніякія намаганні дзенікінцаў ні да

[7] Архіў сакратарыята Галоўнай рэдакцыі ИГВ, матар'ялы Паўночнакаўказскага камітэта.

чаго не прыводзілі. Начальнік адной з дзенікінскіх дывізій, падаючы доўгі пералік спроб забрацца ў глыб гор з тым, каб адтуль «біць Чэчню ў полі, біць яе жывую сілу», з жалем адзначае, што ў канчатковым выніку кожны раз прыходзілася вяртацца да свайго адпраўнага становішча, зноў у Грозны. Заканчваючы свой даклад аб баявой рабоце дывізіі, ён прапанаваў разграміць і знішчыць аулы Місхор-Юрт і Шалі, якія падтрымлівалі большэвікоў.

* * *

У гэтыя цяжкія месяцы ўпартай і крывавай барацьбы працоўных Каўказа з дзенікінцамі выключную ролю адыгралі партызанскія атрады, арганізаваныя і ўзначальваемыя тав. Гікало. Імя тав. Гікало грымела ў гарах Каўказа. Не толькі Чэчня і Інгушэцыя, але Осецыя, Кабарда, Дагестан ведалі і паўтаралі яго. Адусюль, з усіх куткоў Каўказа, ішлі да яго за парадай і дапамогай ў барацьбе з белымі. Яго закліку чакалі і па гэтаму закліку ішлі на барацьбу.

Тав. Гікало быў сапраўдным правадыром горскай беднаты.

Нікалай Фёдаравіч Гікало нарадзіўся ў 1897 годзе ў Одэсе, у сям'і фельдфебеля. З 4-гадавога ўзросту жывучы ў Грозным, ён блізка знаёміцца з жыццём і бытам горскіх народаў. Цяжкае жыццё горскай беднаты, яе бяспраўнае становішча рана прыцягнулі да сябе ўвагу маладога Гікало. Па сканчэнні гарадскога вучылішча тав. Гікало паступае ў тіфліскую фельчарскую школу. Праз 4 гады ён становіцца фельчарам. У якасці фельчара ён прымае ўдзел у сусветнай вайне. Пасля лютаўскай рэвалюцыі, у чэрвені 1917 года, ён уступае ў Грозным у большэвіцкую партыю і прымае актыўны ўдзел у советызацыі Тэрэка. У 1918 годзе тав. Гікало—ужо старшыня Грозненскага выканкома. Пасля адступлення 11 арміі з Паўночага Каўказа ён разам са сваім другам чэчэнцам-большэвіком Аслан-бэкам Шэрыпавым арганізоўвае ў горах Чэчні чырвоныя партызанскія атрады з чырвонаармейцаў і горскай беднаты[8].

Цэнтрам арганізацыі партызанскіх атрадаў Гікало і аб'яднання рэволюцыйнай часткі горскай беднаты была слабада Шатой. Недалёка ад яе, у слабадзе Вараздвіжэнскай, з раскіданых па навакольных аулах чырвонаармейцаў 15 жніўня 1919 года быў арганізован тав. Гікало «1 асобы атрад». Гэты, у пачатку нешматлікі, але моцна дысцыплінаваны атрад з'явіўся ядром, арганізаваўшым масу горскай беднаты на барацьбу з дзенікіншчынай.

Горцы-партызаны і быўшыя чырвонаармейцы, з якіх складаўся атрад Гікало, бясстрашна ішлі за ім на барацьбу з куды больш моцным і лепш узброеным праціўнікам.

Зброі ў атрада было мала. Узбройвацца гікалаўцам прыходзілася, як і ўсім партызанскім атрадам, «з бою»: перамагаючы праціўніка, яны авалодвалі яго зброяй[9].

---

[8] У сучасны момант тав. Гікало—генеральны сакратар ЦК КП(б) Беларусі. На XVII з'ездзе ВКП(б) ён выбран кандыдатам у члены ЦК ВКП(б).

[9] К канцу 1919—пачатку 1920 года, калі ўзмацніўся прыток паўстанцаў у партызанскія атрады, прыходзілася зброю, як і харчы, закупляць. Шырока практыкавалася тайная і яўная закупка зброі і боепрыпасаў там, дзе гэта было магчыма: куплялі ў горскіх сяленнях, у казацкіх станіцах Сунжэнскай лініі; займаліся гэтай справай асобыя ўпаўнаважаныя. Каб дастаць зброю, пранікалі нават у слабаду Ведзена—„сталіцу“ „Паўночна-каўказскага эмірства“, аперэтачнай „шарыяцкай манархіі“, якая арыентавалася на мусульманскую Турцыю і была створана горскімі панісламісцкімі элементамі на чале з „эмірам“—шэйхам Узум-Хаджы.

Для разгрому пачаўшагася руху дзенікінцы паслалі свае войскі ў сёлы Ваздзвіжэнскае, Шалі, Сержэнт-Юрт і інш. 11 жніўня сяло Ваздзвіжэнскае было занята. Аднак у той-жа вечар пад націскам паўстаўшых дзенікінскаму атраду прышлося адступіць. 14 жніўня 1919 года дзенікінцы зноў пачалі наступленне. 19 жніўня імі было занята сяло Сержэнт-Юрт. 20 жніўня паўстаўшыя павялі наступленне на Шалі і Агашты. Дайшоўшы да паўднёвых хутароў Шалі, яны былі выбіты і вымушаны адступіць у горы. Сяленне Сержэнт-Юрт пазменна пераходзіла з рук у рукі. 29 жніўня ля сяла Ваздзвіжэнскага злучанымі дзеяннямі чырвоных атрадаў Гікало і Шэрыпава і атрада Узум-Хаджы белыя былі разбіты і ўзяты ў полан дзве добраахвотніцкія роты (117 салдат і 11 афіцэраў). Белым прышлося адступіць па ўсёй лініі зноў у Грозны.

Перамога над дзенікінцамі абышлася дорага рэволюцыйнаму руху горцаў. У гэтым баі быў смяротна паранен кіраўнік і арганізатар чэчэнскай Чырвонай арміі Аслан-бек Шэрыпаў. Раней чым стаць большэвіком Аслан-бек Шэрыпаў быў нацыяналістычна настроеным рэволюцыянерам. У практыцы сваёй дзейнасці ён пераканаўся, што буржуазна-нацыяналістычныя, феадальна-клерыкальныя элементы горскай верхавінкі не толькі не зацікаўлены ў вызваленні горскай беднаты, але робяць усё магчымае, каб, стаўшы самім ва ўладзе, захаваць і ўмацаваць сваё панаванне над ёю.

К канцу 1917 года ён адкрыта заклікае чэчэнскую беднату да саюза з рускімі рабочымі і сялянамі супроць контррэволюцыйнага казацтва і горскай верхавінкі. Ён першы і адзіны чэчэнец, які ў лютым 1919 года прымаў удзел у другім з'ездзе народаў Тэрэка ў Пяцігорску, куды ён прабраўся з велізарнай рызыкай для свайго жыцця.

У Терскім народным совеце ён узначальваў інгушэ-чэчэнскую фракцыю. Разам з грозненскімі рабочымі ў жніўні—верасні 1918 года ён змагаўся супроць белагвардзейцаў, кальцом акружыўшых Грозны. У канцы гэтага-ж года Шэрыпаў—камісар па нацыянальных справах Терскай рэспублікі і камандуючы чэчэнскай Чырвонай арміяй.

Пасля адступлення з Уладзікаўказа і Грознага, у пачатку 1919 года, Шэрыпаў уступіў у комуністычную партыю і разам з Гікало фармаваў атрады з горцаў-беднякоў—пролетарыяў Грознага і былых чырвонаармейцаў—для новай барацьбы з дзенікіншчынай. Аслан-бек Шэрыпаў загінуў у барацьбе з ёю, як рэволюцыянер-комуніст. Смерць гэтага маладога барацьбіта за справу горскіх працоўных узняла новыя масы беднаты, якія рушылі ў атрады Гікало.

Горскія буржуазна-кулацкія феадальныя вярхі разам з камандаваннем прадаўжалі жорсткую барацьбу супроць разрастаўшагася паўстанскага руху. Яшчэ ў першыя месяцы захвату Дзенікіным Каўказа (26 сакавіка 1919 года) «Чэчэнскі нацыянальны совет»—буржуазна-кулацкая арганізацыя—на чале з буйнейшым кулаком Ібрагімам Чулікавым «у інтарэсах дзяржавы»—прызнала неабходным падпарадкванне Чэчні кіраўніцтву Добрарміі і адобрыла назначэнне кіраўніком Чэчні генерала Аліева.

24 верасня 1919 года быў створан у Грозным «камітэт па ачышчэнню Чэчні ад банд большэвікоў і Узум-Хаджы». На чале яго стаяў старшыня «чэчэнскага нацыянальнага совета» Ібрагім Чулікаў.

Пераканаўшыся на вопыце разгрому раду аулаў у здольнасцях сваіх спадвіжнікаў з «камітэта», кіраўнік Чэчні генерал Аліеў зрабіў

найбольш заўзятага з іх—Ібрагіма Чулікава—сваім памочнікам «па грамадзянскіх справах».

У кастрычніку 1919 года становішча робіцца пагражаючым, і генерал Драценка, камандуючы дзенікінскімі ўзброенымі сіламі на Паўночным Каўказе, прад'явіў чэчэнскаму народу рад патрабаванняў, заявіўшы, што калі Чэчня сваімі сродкамі не ліквідуе паўстання і не выдасць большэвікоў, літасці не будзе нікому.

Для абвяшчэння гэтых «неадменных і абавязковых умоў» генерал Драценка і кіраўнік Чэчні генерал Аліеў паслалі Чулікава. Чэчэнскае кулаччо і казацкія сотні пачалі граміць плоскасную Чэчню і аулы, размешчаныя па лініі чыгункі Грозны—Петроўск. Аулы Гудэрмес, Энгель-Юрт, Чэчэн-Юрт і інш. былі змецены з твару зямлі.

З ростам паўстанняў у Чэчні і Інгушэціі і бесперапынным папаўненнем гікалаўскіх атрадаў пагроза Грознаму—важнейшаму стратэгічнаму пункту белага ўладарніцтва ў горах Каўказа—станавілася ўсё больш рэальнай. Бойкі з горцамі падыходзілі да самага горада, вакол якога аперавалі атрады Гікало і Узум-Хаджы. Апасенні дзенікінцаў былі тым больш угрунтаваны, што сам Грозны— пролетарскі цэнтр са старымі рэволюцыйнымі традыцыямі. Усё гэта прымушала камандванне белай арміі трымаць у Грозным вялікі гарнізон з найбольш адданых часцей. К канцу лістапада 1919 года ён дасягаў 12.000 штыкоў і шабель і 30 гармат.

Для падтрымання парадку камандванне прымала самыя жорсткія рэпрэсіўныя меры. У турме Грознага к снежню 1919 года знаходзілася каля 600 чалавек, палова якіх былі «смяротнікі», з дня на дзень чакаўшыя расстрэлу. За перыяд прабывання белых у горадзе было расстрэлена да 2.000 чалавек.

У арыштаваных рэволюцыянераў узнік смелы план: звязаўшыся з атрадам Гікало, які знаходзіўся ў сяленні Шатой, арганізаваць масавы пабег і падняць паўстанне ў самім Грозным. «Мы рашылі памерці або перамагчы сумесна з паўстанцамі, якія знаходзяцца ў межах Чэчні» [10],—пісаў тав. Чарвякоў, адзін з арганізатараў паўстання ў Грозным, у сваім пісьме таварышу Гікало.

Паўстанне было назначана а 3 гадзіне ночы з 22(9) на 23(10) снежня 1919 года, па ўмоўнаму сігналу (узрыў 2 бомб і падпал невялікага рэзервуара з нафтой у раёне нафтаперагонных заводаў). Па гэтаму сігналу атрад тав. Гікало павінен быў абстраляць горад. Арганізатары паўстання меркавалі падняць рад дзенікінскіх вайсковых часцей, сярод якіх загадзя была праведзена растлумачальная работа, а таксама каля 1.000 чалавек ваеннапалонных (былых чырвонаармейцаў). Большасць з іх зброі не мела. Вырашана было ўзброіць арыштаваных (каля 500 чалавек) і ваеннапалонных часткай вінтоўкамі распрапагандаванага Грозненскага інжынернага батальёна, часткай—у працэсе самога паўстання. У паўстанні павінны былі прыняць удзел 500 рабочых нафтаперагонных заводаў, з якіх узброена было каля 100 чалавек. На баку паўстаўшых павінна была таксама выступіць 7 батарэя, меўшая 4 гарматы і 2 кулямёты.

Па вестках таго-ж тав. Чарвякова, к моманту паўстання Грозненскі гарнізон меў звыш 50 кулямётаў і вялікую колькасць артылерыі (у тым ліку і цяжкія гарматы). Атрад тав. Гікало меў усяго каля 250 штыкоў. Пры наяўнасці буйнага гарнізона паўстанне было асу-

---

[10] Архіў сакратарыята Галоўнай рэдакцыі ИГВ, с. № 1 штаба Гікало.

джана на няўдачу. Але, не спыняючыся ні перад чым, палаючы жаданнем дапамагчы пакутваўшым у турме рэволюцыйным байцам, атрад тав. Гікало 20 снежня спусціўся з гор, накіроўваючыся да Грознага.

У гэты час атрады Узум-Хаджы, да гэтага часу выступаўшыя разам з гікалаўцамі супроць каланізатараў-дзенікінцаў, апасаючыся таго, што перамога паўстання прывядзе да ўмацавання рэволюцыйных сіл і, значыць, да канчатковага падзення «шарыяцкай манархіі», рэзка змянілі палітыку і пачалі абстрэльваць атрады Гікало. Але ні здрадніцкія кулі Узум-Хаджы, ні жорсткія марозы і ледзяныя ветры не спынілі гікалаўцаў, якія ішлі да Грознага. Збіўшы перадавыя пасты белых, захваціўшы 2 гарматы, атрад падышоў к гораду і даў умоўны гарматны сігнал да выступлення. Але горад не адазваўся. Ужо позна ноччу стала вядома, што ў горадзе пачалося паўстанне і ідзе бой.

Паўстанне было няўдалым. Пачалося яно несвоечасова. Калі падышоўшай групай узброеных таварышоў былі адкрыты дзверы турмы і арыштаваныя былі выпушчаны, сярод іх знайшоўся здраднік-афіцэр, які неадкладна паведаміў белым падрабязны план паўстання. Усё-ж асноўная частка зняволеных паспела ўцячы ў кірунку да Владзікаўказа, або схавацца ў самім горадзе. Да ста чалавек дабраліся да слабады Ваздзвіжэнскай, дзе знаходзіўся атрад Гікало.

Але з тымі, што трапілі зноў у рукі белых, расправа была жудасная. Відавочца, партызан гікалаўскага атрада, расказвае: «Я прыехаў ноччу ў горад і ўбачыў дзіўную карціну: хто быў прывязан за шыю, хто быў прыбітым цвікамі на тэлефонных слупах, а хто вісеў кверху нагамі» [11].

Не гледзячы на няўдачу, паўстанне мела вялікае значэнне: у атрад Гікало ўлілася маса ўцёкшых палітычных зняволеных, якія не толькі павялічылі яго колькасць да 400 чалавек, але сваёй рэволюцыйнай цвёрдасцю, воляй да барацьбы, сваёй пролетарскай дысцыплінаванасцю ўмацавала атрад і стварыла ўмовы для далейшага расшырэння зоны паўстанцтва.

* * *

Паўстаннямі ў горах Каўказа супроць Дзенікіна кіравалі Каўказскі краявы камітэт РКП(б), які заходзіўся ў Тіфлісе, і палітаддзел 11 арміі, які знаходзіўся ў Астрахані, на чале якога стаяў тав. Кіраў. Як у Дагестан, такі і на Тэрэк і на Чорнамор'е яны адпраўлялі людзей, грошы, зброю. Тав. Гікало з'яўляўся членам Каўказскага краявога камітэта партыі, трымаў з ім сувязь, атрымліваў ад яго кіраўніцтва і дапамогу. Па дырэктыве камітэта РКП(б) і рэўваенсовета 11 арміі, усе чырвоныя паўстанцкія часці на Тэрэку былі аб'яднаны.

21 студзеня 1920 года была створана «Терская абласная група чырвоных паўстанцкіх войск» пад камандваннем члена Каўказскага краявога камітэта тав. Гікало і сфармован штаб групы, начальнікам якога назначан прыбыўшы прадстаўнік 11 арміі тав. Дудаеў. Аддзеламі штаба кіравалі: аперацыйным—тав. А. Касцерын, адміністрацыйным—тав. Мардоўцэў і палітычным—тав. Носаў. Па пастанове Каўказскага краявога камітэта, усе рэўкомы і паўстанцкія часці на тэрыторыі Терскай абласці падначальваліся і кіраваліся новаарганізаваным штабам групы.

11 Архіў ИГВ, с. № 2 штаба Гікало (стыль захаваны).

Партызанскія атрады былі зведзены ў ротныя батальённыя злучэнні, да якіх былі прымацаваны для палітычнага кіраўніцтва палітрукі і паліткамісары. Змяніліся назвы атрадаў, якія раней вызначаліся галоўным чынам па нацыянальнай адзнацы. Замест старых назваў з'яўляюцца такія, як «Першы асобны зводны чырвонаармейскі батальён» і т. д., падкрэсліваючыя непасрэдную сувязь атрадаў з совецкай Чырвонай арміяй.

«Чырвоная паўстанцкая армія» Терскай обласці становіцца часткай Чырвонай арміі Совецкай Расіі. Загадам ад 26 студзеня 1920 года за № 4 уводзіцца агульнаармейскі дысцыплінарны статут, зацверджаны ВЦВК. Камандванне групы завязвае непасрэдныя адносіны з Чырвонай арміяй Астраханскага раёна. 25 студзеня 1920 года з слабады Ваздзвіжэнскай тав. Гікало накіроўвае ў распараджэнне камандзіра чырвонага Каўказскага корпуса чэчэнскі партызанскі атрад з былых чэчэнцаў-абрэкаў для ўдзелу ў барацьбе за вызваленне Терскай обласці. Камандзіру атрада Абдул-Рашпід Ісаеву даецца заданне—звязацца з галоўным штабам войск Астраханскага раёна [12].

У канцы студзеня 1920 года камандванне Добрарміі, імкнучыся ліквідаваць большэвіцкі цэнтр паўстанцтва, які знаходзіўся ў слабадзе Ваздзвіжэнскай, паслала туды атрад у 6.000 штыкоў, з вялікай колькасцю кулямётаў, артылерыяй і конніцай. Невялікі атрад Гікало, у 400 чалавек, які знаходзіўся ў слабадзе Ваздзвіжэнскай, быў акружаны з усіх бакоў.

31 студзеня 1920 года белыя пачалі наступленне. 8 гадзін біўся атрад з наступаючымі белымі. Дзенікінскае камандванне ў барацьбе супроць гікалаўцаў не шкадавала людзей, кідаючы ланцуг за ланцугом. Меткі агонь партызан зразаў іх, але на баку белых была артылерыя, супроць якой партызаны былі бяссільны. Яшчэ крыху—і, дарваўшыся да невялікай групы партызан, дывізія белых у рукапашнай схватцы знішчыла-б яе, калі-б не падаспела дапамога з боку групы горцаў сялення Шатой і узум-хаджынцаў, якія, наперакор загаду камандуючага ўзброенымі сіламі Узум-Хаджы Дышынскага, напалі на белых, ударыўшы ім у тыл. Добраахвотнікі пацярпелі паражэнне. Страціўшы каля 1.000 чалавек забітымі і раненымі, яны запалілі слабаду Ваздзвіжэнскую і адступілі да Грознага. У атрадзе Гікало было забіта 27 чалавек і 30 ранена. У баі забіты начальнік штаба групы комуніст-інгуш Султан Дудаеў. Атрад адступіў з слабады Ваздзвіжэнскай у сяленне Шатой.

Гэты бой адыграў вялікую ролю ў справе далейшага разгортвання паўстанцтва ў горах Каўказа. Атрад вырас у баявых і палітычных адносінах, становішча яго ўмацавалася.

Ваздзвіжэнскі бой спрыяў таксама класаваму расслаенню горцаў. Калі раней побач з кулацкімі і гандлёвымі элементамі ў атрады Узум-Хаджы была ўцягнута і гарадская беднота, аслепленая рэлігійна-нацыянальным фанатызмам, то здрадніцкая палітыка «эмірства», якое ўхілялася ад дапамогі атраду Гікало, адкрыла вочы беднаце. З гэтага часу гарадская беднота адыходзіць ад сваёй памешчыцка-афіцэрскай верхавінкі; нацыянальна-рэлігійны дурман пачынае рассейвацца. Гікалаўскія атрады растуць, уцягваючы ў сваe рады ранейшых узум-хаджынцаў.

Пасля бою пад слабадой Ваздзвіжэнскай штаб групы, перай-

12 Архіў ИГВ, с. № 1 штаба Гікало, л. 20.

шоўшы ў сяленне Шатой, наладжвае рэгулярную сувязь з камандваннем 11 арміі, штаб якой знаходзіўся ў Астрахані. Сувязь і эта падтрымлівалася праз Камышы (Стаўропальшчына), дзе знаходзіўся ўпаўнаважаны 11 арміі, які праводзіў работу сярод партызан-камышанцаў. Ад штаба Терскай абласной групы чырвоных паўстанцкіх войск да Камышоў сувязь арганізаваў штаб групы; ад Камышоў да камандвання 11 арміі—паўстанцкія групы камышанцаў, праз якіх група тав. Гікало атрымлівала грашовыя сродкі і інструкцыі. Рэўваенсовет 11 арміі рэгулярна атрымліваў данясенні аб ходзе паўстання. Тав. Кіраў непасрэдна кіраваў ваенна-палітычнай работай штаба атрада Гікало. Загадам рэўваенсовета ад 5 лютага 1920 года за № 839 штабу терскай групы прапанавана:

«... § 3. Весці самую энергічную работу па разлажэнню часцей праціўніка і ўнясенню дэзарганізцыі ў яго рады (псаванне чыгункі, сродкаў сувязі і інш.).

§ 4. Арганізаваць паўстанцкія атрады і перафармаваць ужо існуючыя па прынцыпу будаўніцтва Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі.

§ 5. Арганізаваць ў раёнах, занятых паўстанцкімі атрадамі, органы совецкай улады, згодна Канстытуцыі РСФСР, і весці палітычную работу сярод насельніцтва» [1].

Выкананне гэтай дырэктывы патрэбавала вялікай і ўпартай работы штаба груп. Перш за ўсё неабходна было выкарчаваць «партызаншчыну», якая перашкаджала аб'яднанню і рэарганізацыі баявых сіл на прынцыпах будаўніцтва Чырвонай арміі. Для барацьбы з парушэннем вайсковай дысцыпліны ва ўсіх ротах былі створаны таварыскія суды, а пры штабе групы—ваенна-палявы суд. Асабліва строга ваенна-палявы суд караў парушэнні ваеннай дысцыпліны членамі партыі. Асаблівасці барацьбы многанацыянальнага, многаплямённага Каўказа з Добрарміяй прыводзілі к таму, што ў паасобных выпадках з агульнапартызанскіх, а пазней агульнавайсковых злучэнняў вылучаліся нацыянальныя групы, якія часамі, не лічачыся з агульнымі ўмовамі барацьбы, імкнуліся чым хутчэй пайсці ў свой раён, для таго каб прыняць непасрэдны ўдзел у барацьбе з дзенікінцамі. З гэтымі тэндэнцыямі, распыляўшымі сілы паўстаўшых, прыходзілася асабліва рэзка змагацца. Узмацняецца палітычная работа ў групах; афармляюцца комуністычныя арганізацыі. Мацнела сувязь з Грозным і Астраханню (штабам 11 арміі). І партыйная канферэнцыя групы канстатуе, што ў Чэчні «ідзе відавочны раскол у карысць совецкай ўлады».

Разгортванню партыйнай работы перашкаджалі рэлігійна-бытавыя асаблівасці горцаў: адсталасць, нізкі культурны ўзровень, рэлігійны фанатызм. Комуністычная праграма, тэорыя класавай барацьбы, інтэрнацыяналізм уясніліся горцамі ў працэсе практычнай барацьбы з дзенікіншчынай. Для большага ахопу партыяй горскай беднаты была створана своеасаблівая масавая палітычная арганізацыя, якая арганізоўвала горскую беднату і працоўных горцаў пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. Яна знаходзілася пад кіраўніцтвам палітаддзела штаба групы і называлася «ячэйка рэволюцыйных горцаў».

Гэтыя ячэйкі шырока ахапілі Чэчню, Кабарду, Інгушэцію.

Членамі ячэйкі маглі быць усе горцы:

«а) Якія актыўна змагаліся і змагаюцца за справу совецкай улады;

---

[1]) Архіў ИГВ, с. № 3 штаба Гікало, л. 13.

б) Якія свядома адносяцца да сучасных падзей;
в) Не запляміўшыя сябе рабункамі чырвонаармейцы;
г) Не састаяўшыя раней і зараз на службе ў казакаў [14].

На абавязках ячэйкі ляжалі:

«...а) Узмоцненая агітацыя і прапаганда за зацверджанне совецкай улады сярод горскіх народаў.

б) Арганізацыя і падрыхтоўка актыўнага выступлення шырокіх чэчэнскіх працоўных мас супроць Добрарміі.

в) Энергічная барацьба з правакацыяй рэакцыйных агентаў.

г) Прыцягненне ўсіх актыўных і свядомых чэчэнцаў ў рады рэволюцыйнай чэчэнскай арганізацыі» [15].

У выпадку вызвалення Терскай области ад белых ячэйкі рэволюцыйных горцаў павінны рэволюцыйным парадкам неадкладна зацвердзіць уладу працоўнага народу, вылучаючы са свайго асяроддзя ваенна-рэволюцыйныя камітэты, якім даручаецца ўся паўната ўлады да распараджэння ад палітаддзела групы.

Ячэйкі яднаюцца паміж сабою ў выглядзе раённых дэлегацкіх сходаў. Дэлегацкія сходы выбіраюць раённыя камітэты ячэек рэволюцыйных горцаў. У ячэйцы меўся прэзідыум, які і кіраваў работай.

Значэнне «рэволюцыйных ячэек» было велізарна. Апіраючыся на іх, на ўсёй тэрыторыі горскіх народаў вялася інтэнсіўная партыйная работа—падрыхтоўвалася ўсеагульнае паўстанне.

У Інгушэціі, Осеціі, Кабардзе і Балкарыі, па рашэнню Каўказскага краявога камітэта партыі, былі створаны рэволюцыйныя камітэты, якія ў ваенных адносінах падпарадкваліся штабу терскай групы паўстанцкіх войск. «Настрой усюды бадзёры, моцны... работа наладжваецца і спадзяемся неўзабаве ахапіць усю тэрыторыю Терскай області»,—піша тав. Гікало ўпаўнаважанаму 11 арміі, які працаваў сярод камышанцаў. Для непасрэднага кіраўніцтва рыхтуючымся паўстаннем у Інгушэціі было арганізавана аддзяленне штаба чырвоных паўстанцкіх войск, якое кіравала і яднала дзеянні Інгушэціі, Осеціі і Кабарды. Кіраўніком аддзялення быў назначан памочнік камандуючага терскай абласной групы чырвоных паўстанцкіх войск тав. Мардоўцэў, якому былі даны наступныя дырэктывы:

«а) Закрыць Ваенна-Грузінскую дарогу, каб адрэзаць зносіны Добраволіі з Грузіяй.

б) Спыніць увоз у Тіфліс прадуктаў з Паўночнага Каўказа.

в) Затрымаць хвалю бежанцаў—буржуазіі, якая хлынула з Паўночнага Каўказа ў Грузію.

г) Падрыхтоўка паўстання ў Владзікаўказе.

д) Перайсці дарогу Прахладная—Беслан-Карабулак».

У ліку іншых задач тав. Мардоўцэву прапанавалася ўстанавіць рэгулярную сувязь з паасобнымі атрадамі арганізуемай Інгушскай Чырвонай арміі, арганізацыямі Владзікаўказа, з Сунжэнскай лініяй, з рэўкомамі Кабарды і Осеціі.

* * *

Штаб вёў таксама работу і сярод казацтва Сунжэнскай лініі. У рэзультаце гэтай работы франтавікі-казакі адмаўляліся ваяваць і арганізавалі атрады па ахове станіц і хутароў Сунжэнскай лініі.

---

[14] Архіў ИГВ. Матар'ялы Паўночна-Каўказскага камітэта.
[15] Там-жа.

ад добраахвотнікаў. Штаб арганізаваў на Сунжэнскай лініі ўдарную групу, якая павінна была з'явіцца ядром паўстання терскага казацтва супроць дзенікіншчыны.

У паселішчах Чэчні, Інгушэціі былі арганізаваны падпольныя камітэты з прыхільнікаў совецкай улады. Яны займаліся прапагандай, змагаліся з рабункамі і разбоямі, з узаемным міжнацыянальным цкаваннем, якое правакавалася контррэволюцыйнай верхавінкай Інгушэціі і Осеціі. Камітэты агітавалі за ідэю аб'яднання ўсяго працоўнага народу Терэка пад кіраўніцтвам большэвікоў. У Інгушэціі вялася падрыхтоўка да захвату на месцах ўлады па сігналу арганізаванага акруговага інгушскага рэўкома.

У пачатку сакавіка глеба была падрыхтавана і былі створаны арганізуючыя і кіруючыя цэнтры агульнага выступлення горцаў супроць дзенікіншчыны. Каўказскі краявы камітэт партыі паслаў з Тіфліса людзей. Яны рушылі ў Кабарду па двух напрамках: праз Грузію і Осецію і праз Азербайджан, Дагестан, Чэчню, Інгушэцію.

Паход з Тіфліса ў Кабарду па горных сцежках, зімою, у сцюжу, быў вельмі цяжкі. «Наша група, сабраўшы невялікі атрад, дабралася поездам да граніц Дагестана,—расказвае тав. Калмыкоў, камандаваўшы атрадам.—Адтуль пехатой ішлі 8 сутак па Дагестанскіх горах. У паселішчы Меджыліс нас ўсіх затрымаў і ледзь не перастраляў турэцкі генерал Нуры-паша... паход па горах зімою прадстаўляў неймаверныя цяжкасці, асабліва на перавалах... абмярзалі рукі і ногі» [16].

Па дарозе да атрада Калмыкова далучыліся кабардзінцы, што хаваліся ў горах. Падыходзячы да граніц Чэчні, атрад налічваў ужо звыш 100 чалавек. Тав. Гікало аказваў кабардзінцам вялікае падтрыманне сродкамі і перадаў у распараджэнне тав. Калмыкова кабардзіна-балкарскую роту свайго атрада, якая налічвала каля 200 чал. Працоўныя Каўказа аказвалі брацкую дапамогу кабардзінцам, якія ішлі на радзіму для рашучай барацьбы з памешчыцка-афіцэрскім уціскам.

Бедната Інгушэціі радасна сустрэла атрад Калмыкова. 15 сакавіка 1920 г. атрад заняў першае кабардзінскае паселішча Іславава.

Штабам терскіх паўстанцкіх войск перад атрадам Калмыкова была пастаўлена асноўная задача: «Прабірацца ў Малую Кабарду, узняць масавае паўстанне Кабарды [17].

У Осеціі таксама к гэтаму часу быў арганізован рэволюцыйны цэнтр рыхтуючагася паўстання. Яшчэ к канцу жніўня 1919 года па рашэнню Каўказскага краявога камітэта партыі, паасобныя комуністы—керменісты—пачалі пераходзіць з Грузіі назад у Дыгорыю.

К пачатку кастрычніка вялікая колькасць комуністаў сабралася ў Чорным лесе Горнай Дыгорыі. К пачатку 1920 года большасць керменістаў вярнулася ў аулы і паселішчы, дзе была разгорнута падпольная работа. Як і раней асабліва значнай была падпольная работа ў Дыгорыі. Кіраваў партыйнай падпольнай работай у Осеціі акруговы камітэт РКП(б) (былы ЦК «кермен»), які арганізаваў рэўком на чале з тав. Барукаевым. Загад аб усеагульным выступленні быў дан 17 сакавіка 1920 года. К гэтаму часу, громячы дзенікінцаў, 11 армія заняла Стаўропальшчыну і рушыла к Кізляру. Ноччу 17 сакавіка конныя часці штаба групы тав. Гікало занялі Грозны. Рэўваенсовет

[16] Б. Калмыкоў, „Рэволюцыйны рух у Кабардзе", стар. 34, Нальчык. 1921 г.
[17] Архіў ИГВ, с. № 3 штаба Гікало, Л. 32.

11 арміі за подпісам камандарма і члена РВС тав. Кірава аддаў загад аб пераходзе ў наступленне. Тав. Кіраў прапаноўваў атраду Гікало рашучым ударам заняць Гудэрмес і перарваць сувязь Владзікаўказа з Кізлярам і Петроўскам.

Белыя з Грознага адышлі на Петроўск. 22 сакавіка яны былі выгнаны з Владзікаўказа.

Так, сумеснай барацьбой працоўных горцаў, арганізаваных комуністычнай партыяй у паўстанцкія атрады, і Чырвонай арміяй Совецкай Расіі Тэрэк быў вызвален.

**«Борьба классов»**

---

О. Сапрыцкі

# Па-большэвіцку рэалізаваць рашэнні пленумаў ЦК аб уборцы ўраджаю і загатоўках

Веснавая сяўба прашла з вялікім уздымам і поспехам. Многія раёны закончылі яе цалкам за 10—12 дзён. Стан пасеваў такі, што пры правільным доглядзе, належнай падрыхтоўцы і ўзорным правядзенні ўборкі ёсць усе магчымасці зняць добры ўраджай.

Райкомы партыі, дырэктары МТС і зямельныя органы павінны ўдзяліць вялікую ўвагу падрыхтоўцы да ўборкі, зараз-жа праверыць і завяршыць падрыхтаванасць да ўборкі ўраджаю.

Выключная ўвага павінна быць звернута на своечасовую падрыхтоўку і максімальнае выкарыстанне ўсіх уборачных машын, якія будуць адыгрываць вялікую ролю ў паспяховым правядзенні ўборачнай кампаніі.

Чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б) у сваіх рашэннях прама ўказвае:

> «Галоўная і рашаючая ўмова забяспечання высокага ураджаю заключаецца цяпер у тым, каб, ламаючы супраціўленне паасобных работнікаў справе моцнага ўкаранення механізацыі ва ўсе галіны сельскагаспадарчай вытворчасці, зрабіць вопыт і дасягненні перадавых людзей соцыялістычнага земляробства, ўладаўшых машынай, тэхнікай апрацоўкі і ўборкі, набыткам усёй масы работнікаў калгасаў, соўгасаў і МТС».

Вырашэнне гэтай «галоўнай і рашаючай умовы» у асноўным залежыць ад таго, як мы правядзем рамонт уборачнага інвентара, як мы падрыхтуем да ўборкі ўсе наяўныя машыны і механізмы, як мы забяспечым гэтыя машыны кваліфікаванымі кадрамі.

Улічваючы, што ва ўборачную кампанію 1936 года ў БССР галоўнымі ўборачнымі машынамі будуць жняяркі і снопавязалкі калгасаў і МТС, пленум ЦК КП(б)Б

> «патрабуе ад Наркамзема, дырэктароў МТС і соўгасаў і загадчыкаў зямельных аддзелаў:
>
> а) забяспечыць да моманту ўборкі і не пазней 15 ліпеня сканчэнне рамонту ўсіх жняярак, снопавязалак, конных грабель, малацільных і сартавальных машын;
>
> б) да 20 ліпеня праверыць усе наяўныя пералічаныя ўборачныя машыны, прывёўшы іх у поўную гатоўнасць да работы. Усе ўборачныя машыны да гэтага тэрміну павінны быць прыняты з майстэрань па акту ў прысутнасці вадзіцеляў гэтых машын: у МТС—дырэктарам, старшым аграномам і старшым механікам МТС, а па калгасах—старшынёй і брыгадзірам паляводчай брыгады калгаса».

Становішча-ж рамонту на 1 ліпеня паказвае, што ў шмат якіх раёнах рэспублікі зусім не па-большэвіцку ўзяліся за выкананне гэтага баявога задання партыі. Даволі сказаць, што пакалгасах Полацкага раёна пакуль што адрамантавана 28,6% снопавязалак, патрабуючых рамонту. У Лёзненскім раёне з наяўных 535 жатак адрамантавана толькі 203.

Дзесяткі раёнаў рэспублікі па-большэвіцку змагаюцца за выкананне рашэнняў пленумаў ЦК аб падрыхтоўцы ўсіх машын да ўборкі. Сюды адносяцца калгасы Оршанскага, Асвейскага, Гарадоцкага, Менскага, Прапойскага, Быхаўскага, Глускага, Нараўлянскага і інш. раёнаў, якія да справы падышлі з усёй сур'ёзнасцю. Іншы малюнак мы бачым у калгасах Осіповіцкага, Свяцілавіцкага, Полацкага, Лёзненскага, Мазырскага раёнаў, дзе ўсё яшчэ чакаюць нейкіх дадатковых указанняў і дырэктыў, а тым часам уборачныя машыны не рамантуюцца.

Не лепш справа з рамонтам уборачных машын на машына-трактарных станцыях. У МТС БССР адрамантавана шыроказахватных ільнацерабілак толькі 89%, снопавязалак 72,8%, складаных малатарняў 72,7%. Прычым за гэтымі сярэднімі лічбамі хаваюцца такія МТС, як Дрысенская і Боркавіцкая, якія адрамантавалі толькі 66,6% снопавязалак, 1-Лепельская—25% і інш. Гэтае адставанне трэба ліквідаваць безадкладна. Трэба ўзяць на ўлік кожную машыну, якая патрабуе рамонту, яшчэ раз праверыць машыны, ужо гатовыя да ўборкі, каб увесь машынны парк калгасаў і МТС вышаў у поле ў баявой гатоўнасці.

Уборка ўраджаю—самы напружаны перыяд сельскагаспадарчых работ, які патрабуе максімальнай манеўранасці, мабілізацыі ўсіх калгаснікаў і калгасніц на жніво, сціртаванне, малацьбу, хлебаздачу і т. д.

З выключнай увагай трэба аднесціся да выкарыстання ўборачных машын, бо ім адводзіцца сёлета вялікае месца. Паводле планавага задання, камбайнамі, трактарнымі і коннымі снопавязалкамі, жняяркамі і лобагрэйкамі павінна быць убрана 1.255.000 га зернавых культур, што складае 73,8 проц. усёй плошчы зернавых пасеваў калгасаў. Складанымі і поўскладанымі малатарнямі і камбайнамі павінна быць абмалочана 775 тыс. тон зярна. Акрамя таго, будзе выкарыстана 23.300 конных малатарань, якія павінны абмалаціць 1.864 тыс. тон зярна.

Выключную ролю будуць адыгрываць машыны таксама і пры ўборцы іншых культур. Ільнацерабілкамі сістэмы «ВНІІЛ-5» павінна быць выцераблена 40.250 га лёну; адна-і двух-радковымі бульбакапалкамі павінна быць выкапана 16,9 тыс. га бульбы. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што планавае заданне машыннай уборкі і абмалоту з'яўляецца мінімальным. Яно не толькі павінна быць выканана, але і перавыканана.

Упершыню на нашы калгасныя палі выйдзе сёлета камбайн паўднёвы і паўночны. Ён прадэманструе велізарнейшыя поспехі краіны соцыялізма, якая ператварыла працу ў справу гонару і славы.

Каб ручным спосабам убраць адзін гектар пшаніцы, трэба затраціць 118 чалавека-гадзін: на жніво сярпом, вязку і ўкладку снапоў—50, на падвозку снапоў параконнаю цягай—10, на малацьбу цэпам—33, на правейку лапатай—25 гадзін.

Тым часам на ўборку аднаго гектара з дапамогай калёснага трактара, камбайна і грузавіка патрабуецца толькі 4 чалавека-гадзіны, а пры дапамозе трактара ЧТЗ з двума 20-футовымі камбайнамі— усяго 2 чалавека-гадзіны, уключаючы сюды адвозку зярна на элеватар грузавіком.

Галоўная задача ў тым, каб стварыць усе ўмовы для максімальнай прадукцыйнасці камбайна, загадзя падабраць добрыя ўчасткі.

Пленум ЦК ВКП(б) прапанаваў Наркамзему, Наркамсоўгасаў, дырэктарам МТС і соўгасаў не пазней, чым за 15 дзён да пачатку ўборкі, адвесці палі для кожнага камбайна ў размерах, не менш прадугледжаных планам для кожнага соўгаса і МТС. Камбайнер павінен добра вызучыць поле, на якім яму прыдзецца працаваць.

Камбайн не толькі ліквідуе прымітыўную сялянскую працу, але іператварае калгасніка ў кваліфікаванага індустрыяльнага рабочага, рэзка змяншае страты зярна на ўборцы, садзейнічае росту ураджайнасці.

Што патрэбна для таго, каб забяспечыць высокую прадукцыйнасць камбайна?

Стварэнне сталых, моцназладжаных уборачных брыгад або груп, падначаленых майстру-камбайнеру.

Барацьба з прастоямі шляхам правільнай арганізацыі тэхнічнага догляду, прафілактычнага агляду, разгрузкі, рэжыму рабочага дня.

Падрыхтоўка і правільная арганізацыя ўборачнай пляцоўкі або загонкі, як яе звычайна называюць. Заключаецца яна ў правядзенні пракосаў, абкошванні вуглоў, вызначэнні месца разгрузкі бункера і т. д. Для гэтай мэты, як і для ўсей работы па абслугоўванню камбайна, праўленне калгаса па ўказанню майстра-камбайнера вылучае звяно з лепшых калгаснікаў.

Павышэнне хуткасці там, дзе гэта дазваляе прапускная здольнасць малацільнага барабана. Напрыклад, работа 2-ма камбайнамі з трактарам ЧТЗ на 3-й хуткасці.

На прыёме ў Крэмлі лепшыя стаханаўцы-камбайнеры прадэманстравалі перад усім светам, што можа даць такая машына ў руках людзей, аўладаўшых тэхнікай у соцыялістычнай краіне. Ордэнаносная БССР трэба з асаблівай стараннасцю рыхтавацца да ўборкі камбайнамі, якія ўпершыню ў нас будуць працаваць у масавай колькасці. Для работы на камбайнах адбіраць такіх людзей, якія ведаюць машыну сапраўды на выдатна.

Асоба трэба сказаць аб «паўночным камбайне». Там, дзе паўночныя камбайны будуць працаваць на ўборцы хлеба, галоўная ўвага ўсіх калгаснікаў павінна быць сканцэнтравана на падрыхтоўцы да выкарыстання гэтых машын і ўкаранення іх у сельскую гаспадарку. Калі камбайнам з самага пачатку будзе забяспечана высокая прадукцыйнасць, то гэта будзе парукай таму, што ў самы кароткі час будзе вырашана задача механізацыі ўборкі зярна ва ўмовах раёнаў з вільготным кліматам. Побач з падрыхтоўкаю кадраў камбайнераў, ужо зараз неабходна рыхтаваць таксама і ўвесь дапаможны інвентар: веялкі, сартоўкі, зернасушылкі, транспарт і т. д. Гэта неабходна таму, што паўночны камбайн у даждлівае надвор'е будзе даваць вільготнае зярно, якое трэба адразу прасушваць. Да пачатку ўборкі трэба пабудаваць прасцейшыя зернасушылкі, здольныя прапусціць ўсё зярно, убранае камбайнамі.

Звыш мільёна гектараў будзе ўбрана трактарнымі і коннымі сно-

пазязалкамі, жняяркамі і лабагрэйкамі. Сёлета мы атрымаем 3.000 новых жняярак. Аднак у нас дрэнна наладжан улік прадукцыйнасці гэтых машын. Гэта мы павінны ўлічыць з самага пачатку ўборачных работ і дабіцца, каб мінімальная норма кожнай з машын была не толькі цалкам выканана, але і перавыканана.

Наша сельская гаспадарка таксама ўпершыню атрымае бульбаўборачныя машыны сістэмы дырэктара Беларускай станцыі механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі тав. Мацэпура. На іспытах у мінулым годзе гэтая машына ўбрала каля 4,5 гектара бульбы за 10 гадзін работы. Сёлета нам прыдзецца ўбраць імі 13.500 гектараў бульбы. Пры наяўнасці ўжо раней асвоеных бульбакапалак і бульбасартовак гэтыя машыны безумоўна значна прасунуць уперад справу механізацыі ўборкі бульбы—гэтай найбольш працаёмкай культуры. Таму іх трэба прывіць і максімальна выкарыстаць у нашай сельскай гаспадарцы.

Адначасова з усёй сур'ёзнасцю трэба папярэдзіць супроць малейшага ігнаравання ручной уборкі. Яшчэ і сёлета значная частка ўраджаю, асабліва лёну і бульбы, будзе ўбірацца ўручную.

Нельга далей мірыцца з абураючымі адносінамі большасці нашых МТС да механізаванай уборкі лёну, у прыватнасці да максімальнага выкарыстання шыроказахватнай ільнацерабілкі «ВНІІЛ-5». Гэтая машына з шырынёй захвату ў 2,25 метра пры 2-х рабочых (трактарыст і церабільшчык) замяняе працу 80 рабочых і павялічвае яе прадукцыйнасць у 40 раз. Рэзка скарачаючы тэрміны ўборкі, ільнацерабілка дазваляе ўбраць лён своечасова, без страт валакна і насення. Своечасовая ўборка забяспечвае жнівеньскі рассціл, што дае, як вядома, найбольшы выхад доўгага валакна высокай якасці. У Горацкім, Багушэўскім, Лёзненскім, Круглянскім і радзе іншых раёнаў, дзе машына сябе выдатна зарэкамендавала, калгаснікі пераканаліся ў тым, што пры машынізацыі ўборкі лёну павышаецца ўраджайнасць і якасць валакна.

Гэтага аднак не зразумелі яшчэ кіраўнікі цэлага раду МТС і раёнаў рэспублікі. У мінулым годзе большасць ільнацерабілак «ВНІІЛ-5», не гледзячы на актыўную дапамогу брыгады рабочых і спецыялістаў Любарэцкага машынабудаўнічага завода, прастаяла або дала зусім нізкую прадукцыйнасць. У сярэднім па рэспубліцы кожнай ільнацерабілкаю ўбрана крыху больш 10 га пры планавым заданні 50 га.

Лепшыя стаханаўцы-ільнацерабільшчыкі далі выпрацоўку значна вышэй нормы. Узнагароджаная ордэнам «Знак почета» ільнацерабільшчыца горацкай МТС тав. **Каравосава** Домна разам са стаханаўцам Алесем **Шустровым** выцерабілі 84 га. Узнагароджаны ордэнам «Знак почета» тав. **Прахарэнка** з Багушэвіцкай МТС выцерабіў 59 гектараў. Добрую выпрацоўку дала тав. **Новікава** з Лёзненскай МТС і рад іншых церабільшчыкаў і церабільшчыц. Але такіх прыкладаў у нас вельмі мала. Большасць ільняных МТС яшчэ моцна недаацэньвае карысць механізаванай уборкі лёну і верыць у старыя спосабы работы.

Летась у некаторых раёнах (Шклоўскім, Гар...оцкім) паасобныя работнікі загадзя ахайвалі шыроказахватныя ільнацерабілкі і не прымалі ніякіх мер да пуску іх у ход. Некаторыя МТС перакідвалі ільнацерабілкі з месца на месца без усякага плана, што толькі павялічвала прастоі і скарачала прадукцыйнасць машын.

Узор таго, як не трэба працаваць, паказала Талачынская МТС.

У мінулым годзе там працавалі 4 машыны. Іх работа, разам узятая, працягвалася 364 гадзіны, з якіх на халастыя пераезды пашло 105 гадзін або 28,8% часу, на прастоі—147 гадзін або 40,4% часу, а на чыстую працу—усяго 112 гадзін, або толькі 30,8% часу. Хіба можна пры такіх умовах забяспечыць выкананне плана?

З падобнаю практыкай трэба рашуча пакончыць. Усе МТС і калгасы ільнаводчых раёнаў павінны пераняць вопыт перадавых ільнацерабільшчыкаў Каравосавай Домны і Шустрова Алеся і дабіцца максімальнага выкарыстання ўсіх машын па цярабленню лёну.

Поспех работы гэтых перадавых вадзіцеляў ільнацерабільных машын БССР заключаецца галоўным чынам у тым, што яны задоўга да пачатку церабленння лёну дасканала вывучылі поле, як след ачысцілі яго ад камення і іншых рэчаў, якія перашкаджаюць ходу машын, ведалі не толькі сваю машыну, але таксама і трактар, які яе вядзе.

Тав. Каравосава ўнесла праз газету «Звязда» прапанову, каб вадзіцелі шыроказахватных ільнацерабілак загадзя ведалі той участак, на якім ім прыдзецца працаваць. Гэта прапанова мае важнейшае значэнне для павышэння прадукцыйнасці машын і палепшання якасці работы. Колькасць ільнацерабілак, якія будуць сёлета працаваць на калгасных палях, павялічваецца да 805. Гэтыя машыны павінны будуць вытерабіць 40.250 гектараў лёну або 16,6% усіх ільняных плошчаў, і малейшае ігнараванне машын пацягне за сабой зацяжку і вялікія страты пры ўборцы ўраджаю лёну.

Каб не дапусціць леташніх памылак, неабходна перш за ўсё шырока ўкараніць прапанаваныя тав. Каравосавай стаханаўскія метады арганізацыі вытворчасці; своечасова падрыхтаваць уборачныя плошчы для работы машыны, на аснове планавасці ліквідаваць прастоі, скараціць халастыя пераезды, наладзіць тэхнічнае абслугоўванне.

Вельмі важна правільна і своечасова прымацаваць да машын кваліфікаваныя кадры. Дзесяткі курсаў рыхтуюць сёлета такія кадры для рознага віду машын. Трэба дабіцца, каб кожны закончыўшы гэтыя курсы ведаў сваю машыну на выдатна і забяспечыў яе максімальную прадукцыйнасць. Церабілку павінен ведаць не толькі церабільшчык, але і трактарыст, тады не будзе прастояў і паломак, якія здараюцца галоўным чынам таму, што трактарыст не ведае ўласцівасцей і капрызаў прыцэпнай машыны. На «ВНІІЛ-5» абавязкова трэба ставіць удасканалены вязальны апарат, які палягчае рассціл тым, што дае снапы невялікага дыяметра. Усе механізмы павінны быць уважліва правераны, машыны цалкам забяспечаны запаснымі часткамі і струмантам.

* * *

З года ў год у нас нездавальняюча выкарыстоўваюцца складаныя малатарні. Узятыя на выбарку, 40 МТС рэспублікі паказалі прадукцыйнасць адной малатарні ў 1935 годзе ад 271 тоны да 455 тон.

Абмалот звыш 500 тон даў па рэспубліцы толькі тав. **Свірыда** Кандрат Ефімавіч з Хойніцкай МТС, узнагароджаны ордэнам «Знак почета». Гэта лішні раз сведчыць, што ў нас стаханаўскі рух у мінулым годзе на малацьбе быў зусім слаба арганізаваны.

32,5% ураджаю зернавых або 775.000 тон павінны быць абмалочаны складанымі і поўскладанымі малатарнямі. Задача велізарна. Для вырашэння яе трэба перш за ўсё забяспечыць высокую кваліфі-

жацыю кадраў машыністаў. Колькасныя і якасныя паказчыкі падрыхтоўкі гэтых кадраў цалкам залежаць ад той увагі і клопатаў, якія ўдзеляць гэтай справе мясцовыя партыйныя арганізацыі.

Стаханаўскі рух, які шырока ахапіў трактарыстаў, павінен знайсці моцны водгук сярод вадзіцеляў ільнацерабільных машын, камбайнераў і машыністаў малатарань. Выкарыстаць да дна ўсё багацце тэхнікі, якою забяспечвае нас Саюзны ўрад,—задача ўсіх партыйных, савецкіх і зямельных арганізацый пры ўборцы ўраджаю.

Мы маем усе магчымасці паспяхова правесці ўвесь цыкл сельскагаспадарчых работ. Стаханаўскі рух паказаў нашы велізарныя поспехі ў выхаванні новых людзей, ауладаўшых тэхнікай сельскай гаспадаркі. Нашы ворагі пралічыліся і на гэты раз, прадказваючы правал механізацыі сельскай гаспадаркі з-за недахопу кадраў і малой іх культурнасці.

Усё залежыць цяпер ад умення партыйных арганізацый, савецкіх і зямельных органаў узначаліць стаханаўскі рух у сельскай гаспадарцы, пусціць усе машыны на поўны ход, моцна ўдарыць па сабатажніках і шкодніках, арганізаваць хуткую перадачу вопыту перадавых адстаючым, наладзіць практычную дапамогу перадавікам.

Трэба павысіць зацікаўленасць трактарыста і вадзіцеля машыны сваёй работай. Галоўная задача не столькі ў стварэнні агульных спрыяючых умоў трактарыстам (гэта само сабою зразумела і ясна), колькі ў тым, каб забяспечыць бесперабойную работу машын. Добрая работа трактара ці ільнацерабілкі будзе найлепшым агітатарам, бо дасць высокі заработак трактарысту і забяспечыць выкананне плана палявых работ калгасу.

Партыя і ўрад у сваёй пастанове аб нечарназемнай паласе вызначылі рад мерапрыемстваў для поўнага выкарыстання трактароў і сельскагаспадарчых машын, а значыць і правядзення ўсіх сельскагаспадарчых работ у мінімальныя тэрміны. Па БССР намечана пабудаваць у кожным калгасе крытыя токі для малацьбы, еўні і сушылкі для снапоў. Гэтая пастанова выконваецца намі дрэнна. Ні раённыя зямельныя аддзелы, ні райвыканкомы за справай не сочаць.

У пастанове бюро ЦК КП(б)Б ад 15 красавіка ўказана, што будаўніцтва крытых токаў, гумен, сушылак павінна быць разгорнута іменна зараз з такім разлікам, каб да пачатку ўборкі гэтыя аб'екты былі гатовы.

З прычыны нездавальняючага ходу будаўніцтва зернасушылак чэрвеньскі Пленум ЦК КП(б)Б быў вымушан зноў вярнуцца да гэтага пытання, адзначыўшы ў сваіх рашэннях:

> «Пленум ЦК лічыць важнейшым мерапрыемствам у справе барацьбы са стратамі ўраджаю—своечасовае і поўнае выкананне плана будаўніцтва зернасушылак, асабліва ў месцах работы паўночных камбайнаў, будаўніцтва гумен, крытых паветцяў. Рад раёнаў (Парычы, Лагойск, Мазыр, Плешчаніцы, Чырвонаполле, Смілавічы, Кіраўск, Орша, Асвея, Лепель, Горкі, Круглае, Крычаў, Мехава) недапушчальна зацягнулі гэта будаўніцтва, а таксама недапушчальна зацягнула выкананне заказа Наркамзема мясцовая прамысловасць (завод «Чырвоны барэц» у Оршы па вырабу вентылятараў для зернасушылак)».

Два тыдні мінула пасля гэтага рашэння пленума, аднак у раёнах усё яшчэ не ўзяліся за будаўніцтва гэтых неабходных аб'ектаў. Бу-

даўніцтва зернасушылак выканана толькі на 10%, гумен і крытых павецяў—на 19%, ільнасушылак на 14%, ільнамяльных пунктаў на 5%. Асабліва пагражаючае становішча ў такіх раёнах, як Бягомельскі, Брагінскі, Глускі, Камарынскі, Капыльскі і інш., дзе дагэтуль яшчэ не пабудавана ні адной зернасушылкі.

Райземаддзелы павінны павярнуцца тварам да пытанняў агратэхнікі, поўнага і рацыянальнага выкарыстання машын, перабудаваць работу аграномаў, узняць іх кваліфікацыю, ролю і аўтарытэт, павысіць агратэхнічны ўзровень калгаснага актыва, бліжэй звязаць нашы навукова-даследчыя інстытуты з калгаснай вытворчасцю. Толькі пры гэтых умовах агратэхнічнае кіраўніцтва калгасамі будзе ўзнята на ўзровень тых задач, якія пастаўлены перад калгасамі нашай рэспубліکі партыяй, урадам і вялікім Сталіным у гістарычным рашэнні аб нечорназемнай паласе.

Пленумы ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б папярэдзілі, што на ўборцы ураджаю неабходна шырока выкарыстаць увесь вопыт, накоплены ў прымяненні зернаўлавіцеляў, зграбанні і ручным падборы каласоў. Участак лічыцца ўбраным толькі пасля таго, як старшыня калгаса прыме яго ад брыгадзіра паляводчай брыгады, які ў сваю чаргу штодзенна складае акты прыёмкі ўбраных палёў па якасці.

Клопатамі аб высокай якасці ўборкі прасякнуты рашэнні Пленумаў ЦК аб арганізацыі ўборкі і загатовак усіх іншых культур, пачынаючы ад сена і канчаючы канюшынай і ільном.

Асаблівая ўвага ўдзяляецца ўборцы насенных участкаў. Ачыстка насенных участкаў ад пустазелля, гатунковая праполка, уборка ў поўнай спеласці, абмалот на асобых токах, хаванне ў асобых зернахавальніках—усе гэтыя і іншыя ўказанні пленумаў ЦК павінны строга выконвацца.

Чоткае своечасовае выкананне сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай застаецца першачарговым абавязкам кожнага калгаса і кожнай аднаасобнай гаспадаркі.

Хлеб дзяржаве з першых абмалотаў—такі абавязак калгаса. Да выканання абавязацельстваў перад дзяржавай па ўсіх культурах забараняецца ствараць у калгасах якія-б там ні было іншыя фонды, акрамя насенных з абмалоту насенных участкаў.

Ва ўсіх МТС трэба зараз-жа разгарнуць падрыхтоўку да атрымання натураплаты. МТС павінны дакладна ўлічыць праведзеныя імі работы па кожнаму калгасу. Не пазней 5 дзён пасля аднясення калгаса да той ці іншай групы па ураджайнасці, павінны быць абавязкова выпісаны і ўручаны калгасам рахункі за работы, якія выкананы МТС. У перыяд уборкі і абмалоту, капання бульбы, церdroблення лёну і канапель кожныя пяць дзён павінны складацца акты аб праведзеных работах.

Зараз-жа ва ўсіх калгасах і прыёмачных пунктах трэба пачаць падрыхтоўку складаў да прыёму зярна. Склады, мяхі, тара павінны быць прадэзінфекцыяваны, малатарні ачышчаны.

На нарадзе перадавых камбайнераў і камбайнерак таварыш Сталін яшчэ раз падкрэсліў:

> «Галоўнае цяпер у тым, каб налегчы на кадры, абучыць кадры, дапамагчы адстаючым асвоіць тэхніку, вырошчваць з дня ў дзень людзей, здольных асвоіць тэхніку і пагнаць яе наперад. У гэтым цяпер галоўнае, таварышы».

Гэта ўказанне таварыша Сталіна з'яўляецца кіруючым для ўсіх партыйных арганізацый, для кожнага бальшэвіка, партыйнага і непартыйнага, у арганізацыі ўсёй сельскагаспадарчай вытворчасці. Кіруючыся ім, мы паспяхова правядзем усю работу па далейшаму ўздыму зерневой гаспадаркі і давядзенню яе прадукцыі да 7—8 мільярдаў пудоў у год.

«Не захапляючыся поспехамі, правесці ўборачную і выкананне ў тэрмін і поўнасцю хлебаздачы і іншых абавязацельстваў перад дзяржавай, з яшчэ большым разгортваннем ва ўсіх галінах работы социялістычнага спаборніцтва, арганізаваўшы ва ўсім рэспубліканскім і мясцовым друку шырокі паказ работы лепшых людзей—стаханаўцаў уборкі, ускрываючы і знішчаючы малейшыя спробы рэштак разбітага класавага ворага падарваць нашу работу. Задача далейшага росту заможнасці калгаснікаў і новага ўздыму сельскай гаспадаркі Беларусі павінна стаць цэнтральным пытаннем барацьбы партыйных і савецкіх арганізацый, шырокіх мас калгаснікаў і рабочых соўгасаў за высокі сталінскі ураджай у 1936 годзе» (з пастановы Пленума ЦК КП(б)Б).

**А. Арашчук**

Сакратар петрыкаўскага РК КП(б)Б

# Барацьба за разгортванне стаханаўскага руху ў сельскай гаспадарцы

У мінулым годзе наша партарганізацыя дабілася значнага ўздыму сельскай гаспадаркі раёна. Большая палова калгасаў датэрмінова выканала свае планы і абавязкі перад дзяржавай. У рады перадавых вышлі такія раней адстаючыя калгасы, як імя Варашылава, імя Сталіна, «Новы Брынёў», «Чырвоны пасёлак», «13 Окцябр», імя Калініна, «Чырвоны Окцябр», «Новае жыццё» і інш.

Барацьбе за сталінскі ўраджай, за заможнае жыццё значна садзейнічала далейшае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў. Павысілася прадукцыйнасць працы, калгаснікі па-соцыялістычнаму пачалі адносіцца да працы і калгаснай маемасці. Усё гэта выклікала прыліў у калгасы больш 3.500 аднаасобных гаспадарак. Зараз раён калектывізаваны на 90%.

Поспехі перадавых калгасаў паказваюць, што многія комуністы сапраўды сталі ў авангардзе стаханаўскага руху.

Калгасы «Новы Брынёў», «Новае жыццё», «Чырвоны будаўнік», ужо ў мінулым годзе мелі на паасобных участках 25 цэнт. ураджаю зернавых, 5 цэнт. лёну, 220 цэнт. бульбы з гектара. Гэтыя факты рэкордных для 1935 года ўраджаяў сведчаць аб тым, што пры большэвіцкім кіраўніцтве соцспаборніцтвам, пры добрай арганізацыі працы і добрасумленнай рабоце калгаснікаў можна дабіцца вялікіх вынікаў.

У спаборніцтве выраслі новыя людзі, героі і гераіні працы. Уся краіна ведае імёны такіх стаханаўцаў сельскай гаспадаркі, як **Валошын, Ангеліна, Дземчанка, Палагуцін** і дзесяткі тысяч ім падобных. У нашым раёне ўсім вядомы стаханаўцы: трактарыст **Касой** Грыгорый Міхайлавіч, даярка **Міхайлевіч** Елена, брыгадзіры **Дамасевіч** Пётр, **Сокал** Пётр, **Шахлевіч Антон**, старшыня калгаса **Цярэня** Цярэнцій Міхайлавіч, малацільшчык **Марозька** Васіль Сямёнавіч, калгаснікі і калгасніцы **Лісавец** Елена, **Чырыч** Адам Антонавіч і т. д.

Але гэтыя поспехі ў параўнанні з пастаўленымі задачамі з'яўляюцца толькі пачаткам вялікай работы па ўздыму сельскай гаспадаркі раёна.

Рашэннем СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб уздыме сельскай гаспадаркі нечорназемнай паласы пастаўлена задача—дабіцца ў бліжэйшыя 3—4 гады ўраджайнасці зернавых культур 90—100 пудоў, лёну

4—5 цэнт., канапель 5—6 цэнт, бульбы 900—1 100 пуд. з гектара. Партарганізацыя павінна была шырока разгарнуць работу ў масах, а кожны комуніст, комсамолец і беспартыйны актывіст праявіць вялікую настойлівасць і ўпартасць, каб не толькі выканаць, але і перавыканаць пастаўленыя партыяй і ўрадам задачы ў барацьбе за сталінскія 7—8 мільярдаў пудоў хлеба.

Каб умножыць кадры перадавікоў, даўшых добрыя паказчыкі яшчэ ў 1935 годзе, мы павінны былі высунуць для гэтага новыя сотні і тысячы людзей, укараніць пачын стаханаўцаў сельскай гаспадаркі ва ўсе калгасы, соўгасы, брыгады і звенні, вышэй узняць соцспаборніцтва, разгарнуць стаханаўскі рух у кожным калгасе і соўгасе, умела арганізаваць работу ў масах, дабіцца канкрэтнага кіраўніцтва кожным участкам.

Пачалі мы з вывучэння прамовы таварыша Сталіна аб стаханаўскім руху і рашэнняў снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК. Гэтаму пытанню былі прысвечаны два адзіныя партыйныя дні. Ва ўсіх калгасах і соўгасах правялі палітдні, распрацавалі гэтыя дакументы ў сетцы партасветы. Масава-палітычная работа пад лозунгам правадыра «кадры вырашаюць усё» выклікала вялікі энтузіязм мас. Калгаснікі і рабочыя соўгаса сталі браць на сябе канкрэтныя абавязацельствы аб павелічэнні ўраджайнасці і ўздыме соцыялістычнай жывёлагадоўлі.

1936 год стаў годам магутнага развіцця стаханаўскага руху, бо для гэтага былі створаны ўсе ўмовы. Палепшылася матар'яльнае і культурнае становішча калгаснікаў. Рэальнай сапраўднасцю становяцца словы вялікага Сталіна аб тым, што ўсе калгаснікі, былыя беднякі і серадніякі, будуць падняты «да ўзроўню людзей заможных, да ўзроўню людзей, якія карыстаюцца багаццем прадуктаў і вядуць упаўне культурнае жыццё». Сельская гаспадарка ўзброілася высокай тэхнікай. Растуць новыя кадры людзей, авалодваючых гэтай тэхнікай. Цяпер справа ў тым, каб ўзначаліць гэты новы ўздым, «каб партыйныя арганізацыі ўключыліся ў стаханаўскі рух і дапамаглі стаханаўцам давесці гэты рух да канца» **(Сталін).**

Як-жа справіліся мы з гэтымі задачамі, з гэтымі ўказаннямі партыі і нашага правадыра?

Абмен партыйных дакументаў паказаў, што партарганізацыя значна палепшыла кіраўніцтва стаханаўскім рухам. Калі да абмену партдакументаў мы мелі ў сельскай гаспадарцы каля 150 стаханаўцаў, то зараз маем больш 500 чал. Многія калгасы («Новы быт»—Грабаўскага сельсовета, «Новы Брынёў»—Брынёўскага сельсовета, «Новае жыццё»—Снедзінскага сельсовета і інш.) пачалі сістэматычную работу са стаханаўцамі, арганізоўваюць для іх гурткі, вядуць гутаркі і інш. У калгасах «Новы Брынёў», «Чырвоны будаўнік», «Сейбіт» і інш. створаны стаханаўскія звенні імя Дземчанкі. Павялічыўся прыліў стаханаўцаў у спачуваючыя (Лескавіцкая, Курычыцкая партарганізацыі).

Наша партарганізацыя абмеркавала дагавор на соцыялістычнае спаборніцтва нашай рэспублікі з Кіеўскай і Чарнігаўскай абласцямі і заключыла дагавор з Капаткевіцкім раёнам. Ясна, што гэта работа яшчэ вышэй узняла стаханаўскі рух у раёне.

Аднак абмен партдакументаў паказаў, што многія комуністы не занялі вядучай ролі ў стаханаўскім руху. Той факт, што пры праверцы і абмене партдакументаў былі выключаны ворагі з партыі,

якія абманным шляхам пранiклi ў яе рады, і людзі, не вартыя звання члена партыі, гаворыць аб тым, што гэта не магло не тармазіць разгортвання стаханаўскага руху.

Побач з гэтым ёсць такія факты, што многія комуністы не толькі не ўзначалілі стаханаўскага руху, але самі, працуючы ў калгасах і соўгасах, не з'яўляюцца стаханаўцамі (Музыка, Самбрыкоўская, Паўтаран М., Паўтаран А., Науменка, Хмялеўскі, Корж, Булава і інш.).

Нічым іншым, як знявагай стаханаўскага руху, нельга назваць нашу работу па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы, бо толькі пры ўмяшанні ЦК КП(б)Б справа была выпраўлена.

Многія комуністы прама недаацэньвалі ўсёй важнасці работы і кіраўніцтва стаханаўскім рухам. Прывядзем для прыкладу некаторыя вытрымкі выступленняў комуністаў пры абмеркаванні вынікаў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б).

**Хмялеўскі**—старшыня калгаса: «Аб стаханаўскім руху пытання не ставіў, бо стаханаўцаў яшчэ не нашчупаў».

**Яновіч**—старшыня калгаса: «Аб стаханаўскім руху ставіў пытанне на актыве, але стаханаўцаў яшчэ не выявіў».

**Кармазін**—прымацаваны ад партарганізацыі да калгаса: «Па разгортванню стаханаўскага руху да гэтага часу нічога не зрабіў, але праз два дні даю абяцанне выявіць».

**Шабашэвіч**—прымацаваны ад партарганізацыі да калгаса: «Што датычыць стаханаўскага руху, то я ім зусім не займаўся і не цікавіўся».

Мы маем рад фактаў прамой дыскрэдытацыі стаханаўскага руху. Старшыня калгаса «Калектыўная праца» Корж лічыць стаханаўцамі калгаснікаў Савошка і Бамбізу таму, што яны акуратна выходзяць на працу і выконваюць норму на 110%. Старшыня калгаса «Чырвоны пасёлак» Беняк лічыць стаханаўцам калгасніка Мойжас Івана, які толькі адзін раз перавыканаў норму на 30%. Старшыня калгаса «Комунар» Булава толькі гаворыць аб стаханаўскім руху, а для ўкаранення яго ў вытворчасць ніякіх мер не прымае і лічыць стаханаўцамі тых калгаснікаў, якія выконваюць норму на 110%. Старшыня калгаса «Сейбіт» Паўтаран А. лічыць стаханаўцам таго, хто выходзіць на работу згодна правіл унутранага распарадку.

Мы маем факты і апашлення дземчанкаўскіх звенняў. Так у калгасе «Чырвоны будаўнік» дземчанкаўскае звяно па ільну ўзначальвае Марозька Васіль. Звяно складзена амаль выключна з гультаёў: Курловіч Каці, Дамасевіч Тадоры, Зяњкевіча Яўгена, якія самі не выходзяць на працу і другіх агітуюць. У выніку лён стаіць не прапалатым.

Мы мелі факты яўнага класава-варожага супраціўлення разгортванню стаханаўскіх метадаў работы. Так, аграном соўгаса «Ударнік» выступіў з такою думкай: «Мы стаханаўскім рухам угробім соўгас». У соўгасе «Дарашэвічы», каб скампраметаваць стаханаўку-даярку Міхалевіч Алену, паставілі пад кармушкі яе кароў вядро з бульбай, а пасля распусцілі правакацыйныя чуткі, што яна «крадзе» бульбу.

У калгасе «Новы Брынёў» адсталыя калгаснікі, падгавораныя яўнымі ворагамі з евангельскай секты, наладзілі ганенне на стаханаўцаў.

Стаханаўцам не заўсёды дапамагаюць раённыя арганізацыі, асабліва райза і МТС, а таксама кіраўнікі сельсоветаў і пярвічных парт-арганізацый. Многія кіраўнікі сельсоветаў, як Шаменаў—Снедзінскі

сельсовет, Пунько—Макарыцкі сельсовет, Шабалтас—Асавецкі сельсовет, не ведаюць стаханаўцаў, ім не дапамагаюць, бо знаёмяцца з імі толькі па спісах, якія прысылаюць калгасы.

Прыведзеныя факты гавораць не толькі аб неразуменні значэння стаханаўскага руху. Іх нельга назваць інакш, як супраціўленнем, сабатажніцкімі дзеяннямі. Відаць, адзначаныя кіраўнікі расцанілі стаханаўскі рух як «чарговую кампанію». А.каб іх ні ў чым не абвінавацілі, яны па-чыноўніцку, не ведаючы жывых людзей, узялі іх на спіс, правялі адну-дзве нарады і супакоіліся.

Наша партарганізацыя, перамагаючы ўсе гэтыя недахопы, рыхтуецца да абмену партдакументаў. Пры дапамозе ЦК і АК КП(б)Б мы нядрэнна падрыхтаваліся да веснавой сяўбы і правялі яе пабольшэвіцку. Сяўбу зернавых закончылі за 12—15 дзён, чаго не было ніколі раней. Пасеялі на добра ўгноеных і добра апрацаваных глебах, праверанымі насеннем, перавыканалі план гатунковых пасеваў. І не выпадкова калгаснікі заяўляюць: «Цяпер мы атрымаем сапраўды сталінскі ўраджай».

Аднак радковая сяўба ў нас сарвалася, і ў гэтым вінаваты галоўным чынам кіраўнікі МТС, якія праваліла сваю работу. У выніку план веснавых работ па МТС выканан усяго на 58%. Ніякай работы сярод трактарыстаў не праводзілася. Ні тэхвучобы, ні газет, ні літаратуры—нічога гэтага ў брыгадах не было. І ці трэба пасля гэтага здзіўляцца зрыву работы МТС?

Зараз у нас пачаўся адказнейшы перыяд сельскагаспадарчага года—падрыхтоўка да ўборкі і хлебаздачы. Мы прыступілі да праверкі соцдагавароў і распрацоўкі матар'ялаў чэрвеньскіх пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б. Галоўнае цяпер—не зазнавацца, не самасупакойвацца, а працаваць яшчэ з большым напружаннем. Няма сумнення ў тым, што, ўзброеная рашэннямі пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, наша партарганізацыя справіцца з недахопамі сваёй работы.

Якія-ж чарговыя задачы стаяць перед намі ў разгортванні стаханаўскага руху?

Перш-на-перш, трэба ўзняць авангардную ролю комуністаў.

Статут партыі гаворыць:

> «Член партыі абавязан:
>
> Як член кіруючай партыі ў Совецкай дзяржаве—быць узорам захоўвання працоўнай і дзяржаўнай дысцыпліны, авалодваць тэхнікай сваёй справы, бесперапынна павышаючы сваю вытворчую, дзелавую кваліфікацыю».

Кожны комуніст на вытворчасці павінен сам стаць стаханаўцам, каб на справе ажыццявіць сваю авангардную ролю.

Работа са стаханаўцамі павінна стаць у цэнтры нашай увагі, бо гэтыя людзі з'яўляюцца прыводным рэменем да партыі, праобразам соцыялістычнага грамадзяніна, якімі заўтра будуць усе нашы рабочыя і калгаснікі.

Трэба павесці рашучую барацьбу з неканкрэтнасцю ў кіраўніцтве стаханаўскім рухам як з боку раённых, так і нізавых партыйных і совецкіх арганізацый. Трэба дапамагчы адстаючым калгасам павысіць ўраджайнасць.

Партарганізацыя абавязана ўзначаліць стаханаўскі рух у сельскай гаспадарцы, каб ён набыў такі-ж размах, як і ў прамысловасці. Неабходна хутчэй ліквідаваць штурмаўшчыну, мітусню і балбатню аб

стаханаўскім руху і дабіцца, каб у калгасах, соўгасах і МТС былі створаны стаханаўскія звенні і брыгады. Па прыкладу прамысловасці неабходна загадзя рыхтавацца да стаханаўскіх сутак, пяцідзенак, дэкад, месячнікаў і па-стаханаўску працаваць круглы год.

Уся палітыка-масавая работа павінна быць насычана канкрэтнымі мерапрыемствамі па ўздыму стаханаўскага руху. Неабходна акружыць стаханаўцаў ўвагай і клопатамі, чаго ў нас дагэтуль не было. Трэба ведаць стаханаўцаў, дапамагаць ім павышаць культурна-тэхнічны ўзровень, зрабіць іх вопыт набыткам усіх калгаснікаў і рабочых соўгасаў і МТС.

Разгортваючы соцспаборніцтва ў кожным калгасе, брыгадзе, звяне, неабходна дапамагчы комсамолу ў разгортванні стаханаўскага руху і палітычнай работы сярод моладзі. Трэба максімальна выкарыстаць культурныя сілы вёскі—настаўнікаў, урачоў, аграномаў і інш.—для работы ў школах па ліквідацыі няграматнасці і малаграматнасці сярод стаханаўцаў, прабудзіць у іх зацікаўленасць мастацкай літаратурай і газетай.

Партарганізацыя павінна зразумець, што стаханаўцы—гэта ў першую чаргу рэзерв для росту груп спачуваючых, а адсюль—і для росту радоў нашай партыі. Іх трэба выхоўваць у духу большэвізма.

Безупынна ўзнімаючы большэвіцкую пільнасць, кожны комуніст і партарганізацыя ў цэлым павінны даваць рашучы адпор класава-варожым і сабатажніцкім элементам, якія паспрабуюць затрымліваць стаханаўскі рух. Сабатажнікі і ворагі павінны быць разгромлены. Трэба пакончыць з апартуністычнай практыкай і абыякімі адносінамі да кіраўніцтва стаханаўскім рухам, бо ён з'яўляецца «самым выдатным рухам усур'ёз і надоўга» **(«Правда»)**.

Не адміністраваць, не парушаць сталінскі статут, а ўзнімаць свядомасць калгаснікаў, умела падбіраць і расстаўляць людзей паводле здольнасці кожнага. Гэтым мы дапаможам росту стаханаўскага руху.

Гэтыя задачы партарганізацыя выканае з поспехам, калі стане на чале руху і пераможа ўсе перашкоды на яго шляху. Масы зразумелі заклік партыі і правадыра. Нам трэба толькі цвёрда памятаць указанне таварыша Сталіна аб тым, **што калгасны лад не змяншае**, а павялічвае клопаты, адказнасць і кіруючую ролю комуністаў у справе ўздыму сельскай гаспадаркі. Мы толькі тады па-сапраўднаму выканаем сваю задачу, калі ўзнімем работу ўсіх калгаснікаў і рабочых соўгасаў да ўзроўню перадавых стаханаўцаў сельскай гаспадаркі ў барацьбе за 7—8 мільярдаў пудоў зярна.

---

Р. Соскін

Сакратар оршанскага РК КП(б)Б

# Узняць ідэйна-палітычны ўзровень спачуваючых

Сваім геніяльным указаннем на XVII з'ездзе ВКП(б) аб неабходнасці ўзняць арганізацыйнае кіраўніцтва да ўзроўню палітычных задач правадыр і настаўнік нашай партыі таварыш Сталін вызначыў канкрэтную праграму нашай работы.

Рашэнне з'езда аб стварэнні груп спачуваючых—выключнай важнасці мерапрыемства, якое замацоўвае велізарны палітычны ўплыў партыі ў масах працоўных.

Узмоцненую работу са спачуваючымі мы пачалі ў працэсе праверкі партыйных дакументаў.

Зараз мы маем 30 груп, якімі ахоплена 140 спачуваючых, не лічачы чыгуначнай арганізацыі.

Прыём у спачуваючыя праводзіцца ў індывідуальным парадку. Мы загадзя падрабязна знаёмімся і вывучаем работу кожнага з прымаемых. У радах спачуваючых—знатныя людзі нашага раёна, перадавікі стаханаўцы, як тав. Ражкоў, узнагароджаны ордэнам Леніна, тав. Палітыка, узнагароджаны ордэнам «Знак почета», тав. Акулаў, узнагароджаны за ўдарную работу граматай ЦВК БССР, тав. Шман—лепшы калгасны рахункавод нашага раёна, прэміраваны за ўзорную работу Наркамземам Саюза ССР. Лепшыя ільнатрапальшчыцы—ордэнаноскі тт. Тіханская і Кедрава рыхтуюцца да ўступлення ў спачуваючыя. Райком партыі прымацаваў да іх настаўнікаў для павышэння агульна-адукацыйнага ўзроўню, а для палітгутарак—інструктароў райкома, выпісаў газеты і т. д.

Спачатку гэтага года райком прыняў рад мер для палепшання работы са спачуваючымі. На паседжаннях ставілі даклады сакратароў парткомаў аб рабоце са спачуваючымі, у раённай газеце арганізавалі анкету спачуваючага, на семінары праінструктавалі сакратароў парткомаў і парторгаў аб тым, як весці работу са спачуваючымі, правялі раённую нараду спачуваючых.

Ужо ёсць станоўчы вопыт работы са спачуваючымі на Ільнакамбінаце, Мясакамбінаце, заводзе «Чырвоны Окцябр» і інш.

Партком Ільнакамбіната ўцягнуў усіх спачуваючых у актыўную грамадскую работу. Ільначасальшчыца тав. Рублёва з'яўляецца лепшым прафоргам, застрэльшчыкам і арганізатарам тэхвучобы ў цэху. Тав. Агеенка—актыўны арганізатар авіяхімаўскай работы. Па яго ініцыятыве рабочыя набылі 250 проціваґазаў і здаюць нормы на значок проціпаветранай і хімічнай абароны.

Спачуваючыя паказваюць узоры стаханаўскай работы. Баранаў А. С. са сваёй арматурнай брыгадай выконвае план на 200 з лішнім процантаў, а сам дае да 400 проц. нормы. Тав. Пашкоўская дабілася таго, што яе брыгада прэсаўшчыкаў стала стаханаўскай.

Парткомы Ільнакамбіната і Мясакамбіната сочаць за грамадскай работай спачуваючага і дапамагаюць яму парадамі. Спачуваючай тав. Рублёвай партком Ільнакамбіната даручыў галосную чытку газет у цэху. Аднак работа спачатку ішла туга. Пасля дапамогі парткома чытка газет стала праводзіцца рэгулярна. Спачуваючая тав. Марусевіч была старшынёю РКК. З работай не спраўлялася, фабком Мясакамбіната не зварачаў на гэта ўвагі. Калі ў справу ўмяшаўся партком і дапамог тав. Марусевіч,—работа яе рэзка палепшылася.

Практыка правядзення спецыяльных дзён спачуваючых у партарганізацыях Ільнакамбіната і Мясакамбіната ўжо дала станоўчыя вынікі. Спачуваючыя засвоілі статут і праграму партыі, рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), 3-га пленума КПК, прапрацавалі гутарку таварыша Сталіна з Говардам, нядрэнна займаюцца ў пачатковай кандыдацкай школе і ў гуртках па гісторыі партыі. Культурнаму росту многа дапамагае чытка мастацкай літаратуры.

У маі месяцы ва ўсіх партыйных арганізацыях горада і вёскі праведзена было абследванне стану работы са спачуваючымі. На месцы правяралі, як выконваюцца рашэнні парткомаў аб рабоце са спачуваючымі, па зонах паміж 15 і 20 мая былі праведзены нарады спачуваючых. Вынікі абследвання абмяркоўваліся на паседжаннях парткомаў, прымаліся мерапрыемствы аб узмацненні работы са спачуваючымі і падрыхтоўцы да новага прыёму ў партыю.

Абследванне паказала, што, не гледзячы на станоўчы вопыт, рад партарганізацый усё яшчэ дрэнна працуе са спачуваючымі. Так, партком Осінторфа яшчэ не аформіў групу спачуваючых, прымаў у яе людзей без належнай праверкі. Парткомы мехзавода «Чырвоны барэц» і Дуброўскай тэрытарыяльнай партарганізацыі па некалькі месяцаў трымалі без разгляду заявы спачуваючых.

Сакратары парткомаў Белдрэса, Механічнага завода, тэрпарторгі Бромкаўскай і Дуброўскай партарганізацый, перадаверылі работу са спачуваючымі, за якую яны непасрэдна нясуць адказнасць, прымацаваным таварышам, ды ў дадатак не правяраюць іх. Дрэнна тое, што нізавыя партгрупы цэхаў ад работы са спачуваючымі самаўхіліліся (Белдрэс, «Чырвоны Окцябр», Мясакамбінат). Спачуваючы тав. Дамарацкі Антон заявіў, што калі партком вядзе работу са спачуваючымі, то гэтага не робіць парторг цэха.

Характэрны выказванні саміх спачуваючых:

Кітаеў:—Што дала мне група спачуваючых? Я расту палітычна, за вучобу ўзяўся моцна, каб падрыхтаваным прыйсці ў рады партыі. Але з намі мала працуюць. Гутаркі і сходы праводзяцца рэдка. Самасправаздачы нашы слухаліся няправільна—цэлаю групай.

**Ермалаеў** (Белдрэс):—Нас мала падцягваюць. Не адчуваем клопатаў парткома.

Спачуваючыя, выдатныя работнікі вытворчасці, на нарадах жорстка крытыкавалі работу з імі парткомаў і парторгаў.

Нездавальняючая пастаноўка работы асабліва дрэнна адбіваецца на таварышах, пераведзеных у спачуваючыя ў перыяд чысткі

ў 1933 годзе. Рад партарганізацый не падрыхтаваў іх да пераводу ў члены і кандыдаты партыі.

Добрыя вынікі ёсць там, дзе спачуваючым удзелена патрэбная ўвага. К прыкладу ўзяць тав. Мацулевіч—работніцу гваздзільнага завода «Чырвоны Окцябр». За няграматнасць і пасіўнасць яе перавялі ў спачуваючыя ў час чысткі 1933 года. Бюро райкома зацікавілася тым, як дапамагае ёй партком у павышэнні ідэйна-палітычнага ўзроўню і дало неабходныя ўказанні. Партком сапраўды сур'ёзна аднёсся да справы. Тав. Мацулевіч з'яўляецца цяпер лепшай стаханаўкай на вытворчасці, стала актыўным таварышом, палітычна вырасла. У час праверкі партдакументаў райком зацвердзіў перавод яе ў кандыдаты партыі, з захаваннем стажу. Пры абмене партдакументаў яна атрымала новую кандыдацкую картку і вылучана майстрам цэха. Як лепшая стаханаўка, узнагароджана граматай ЦВК БССР.

Прыклад адмоўнай работы са спачуваючымі дае партарганізацыя Белдрэс. Спачуваючы тав. Еременка зусім адарваўся ад партыйнага жыцця.

Абследванне работы са спачуваючымі прыводзіць да такіх вывадаў: неабходна дабіцца рэзкага пералому ў рабоце са спачуваючымі, вышэй узняць іх ідэйна-палітычны ўзровень, шырэй уцягнуць у актыўную грамадскую работу, каб яны сапраўды былі вартымі звання кандыдатаў партыі. А гэта—справа ўсёй партарганізацыі ў цэлым, кожнага сакратара парткома і парторга паасобку.

Абследванне стану работы са спачуваючымі, правядзенне двух нарад сакратароў парткомаў і парторгаў горада і вёскі, нарады спачуваючых, перанясенне вопыту работы перадавых арганізацый у адстаючыя—усё гэта ўжо дае і дасць яшчэ большыя зрухі ў рабоце нашай партарганізацыі са спачуваючымі.

---

**Л. Мыслівец**

Сакратар парткома гомельскага шклозавода імя Сталіна

# Першыя вынікі работы са спачуваючымі

З таго часу, як XVII партыйны з'езд вынес рашэнне аб стварэнні груп спачуваючых, прашло больш двух год. Аднак гэтаму ўчастку партыйнай работы ўсё яшчэ не ўдзяляецца дастатковай увагі.

І не выпадкова снежаньскі пленум ЦК ВКП(б) адзначыў:

> «Партыйныя арганізацыі ў першую чаргу павінны выправіць зусім нецярпімае становішча, калі работу са спачуваючымі, у лепшым выпадку, зводзяць да ўцягнення іх у гурткі палітграматы і калі самі кіраўнікі пярвічных і раённых арганізацый зусім не звязаны са спачуваючымі, не ведаюць іх і з імі не працуюць».

Гэта ацэнка работы са спачуваючымі цалкам адносіцца і да партыйнай арганізацыі буйнейшага прадпрыемства Гомеля—шклозавода імя Сталіна.

За час абмену партдакументаў мы дабіліся значнага палепшання работы са спачуваючымі і беспартыйным актывам, што дае нам сёння права выступіць у друку і падзяліцца крупіцамі свайго вопыту на гэтым участку.

Групай спачуваючых пры нашым заводзе ахоплена 30 чалавек, з якіх 15 уступіла за час праверкі і абмену партдакументаў. Большасць спачуваючых—знатныя людзі нашага прадпрыемства, якімі рабочыя ганарацца.

Сярод спачуваючых—член ЦВК СССР тав. **Лёвачкіна.** Яна з'яўляецца адным з ініцыятараў стаханаўскага руху ў машынна-ванным цэху, вядзе вялікую грамадскую работу, асабліва сярод жонак інжынерна-тэхнічных работнікаў і стаханаўцаў, прыцягваючы іх да актыўнага ўдзелу ў барацьбе за культурны выгляд рабочага пасёлка і кватэр. 8 сакавіка яна была ўзнагароджана граматай ЦВК БССР.

**Старасценка** Ціхан—стары кадравы рабочы, электразваршчык—адзін з ініцыятараў стаханаўскага руху на будаўніцтве. Выконваў план на 400 проц., а па новых нормах дае 170—180 проц. Энтузіяст вытворчасці, майстар сваёй справы, заўсёды ідзе ўперадзе.

**Міхлін**—рабочы-бляхар таксама быў ініцыятарам стаханаўскага руху ў механічным цэху. План па новых нормах выконвае на 200—220 проц.

Так выглядае асабовы склад групы спачуваючых. Тут сабраліся тыя з лепшых людзей прадпрыемства, якіх вялікі Сталін назваў наватарамі нашай прамысловасці. Зусім зразумела, што яны прад'яў-

ляюць павышаныя патрабаванні да партыйнага кіраўніцтва, да кожнага з іх патрэбен індывідуальны падыход.

Усе спачуваючыя ахоплены вучобай. Для 16 чалавек арганізавана спецыяльная школа. Астатнія спачуваючыя, сярод якіх ёсць інжынеры і тэхнікі са значна вышэйшымі палітычнымі і агульнаадукацыйнымі ведамі, прымацаваны да розных груп партсеткі: 6 чалавек займаецца ў кандыдацкай школе, 5—у гуртку паніжанага тыпу па гісторыі партыі, 2—у гуртку павышанага тыпу па гісторыі партыі, 1—у заводскім вячэрнім Комвузе.

Вядома, што ідэйны рост спачуваючых дасягаецца не толькі палітвучобай, але і практычнай партыйна-грамадскай работай. Партком практыкуе самасправаздачы спачуваючых аб выкананні імі авангарднай ролі на вытворчасці, аб рабоце над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню. Самасправаздача слухаецца ў прысутнасці таварыша, які рэкамендаваў спачуваючага.

За апошні час партком заслухаў самасправаздачы спачуваючых: Помазава Басіля, Набока, Румянцэва, Гутмаева.

Тав. Помазаў—стары кадравы рабочы, з 30-гадовым вытворчым стажам. На працягу доўгага часу ён не наведваў партвучобы. Нас гэта зацікавіла. Са самасправаздачы высвятлілася, што прычына—у малаграматнасці Помазава. Яму цяжка было займацца ў партшколе. Месяц наведваў і кінуў. Парторг машынна-ваннага цэха тав. Ходасаў своечасова не звярнуў на яго ўвагу, не зрабіў гэтага і партком.

У аналагічным становішчы аказаліся і спачуваючыя Набока, Румянцэў, Гутмаер, Пузанава. Мы зразумелі, што гэтыя скаргі спачуваючых—справядлівы папрок нашым партработнікам і партарганізацыі ў цэлым, якая мала клапацілася аб іх выхаванні. Парторга цэха тав. Ходасава партком абавязаў асабіста заняцца з Помазавым і Набокам вывучэннем статута і праграмы партыі. Для павышэння агульнай граматнасці накіравалі Помазава ў стаханаўскую школу, а да Набока прымацавалі больш моцнага спачуваючага—тав. Старавойтава. Да спачуваючага Румянцэва—інструктара па праўцы алмазаў—прымацавалі загадчыка партгабінетам тав. Вальфсон, да Гутмаера—рэкамендаваўшага яго ў спачуваючыя тав. Бранзінскага, да Пузанавай—рэкамендаваўшага тав. Сівакова.

У выніку ўпартай вучобы гэтыя таварышы за апошні час значна выраслі. Асаблівы рост паказала бартавая машынна-ваннага цэха тав. Пузанава, якая зараз вядзе вялікую грамадскую работу сярод жанчын у якасці агітатара сваёй змены.

Памятаючы аб тым, што актыўнасць і дысцыплінаванасць дасягаецца на практычнай грамадскай рабоце, партком дае спачуваючым заданні, даручае падрыхтоўваць паасобныя пытанні. Калі ў машынна-ванным цэху стала тармазіцца разгортванне стаханаўскага руху, партком даручыў спачуваючаму—шкловару тав. Салаўёву—высвятліць прычыны і далажыць аб іх на парткоме. Грунтоўны матар'ял, прадстаўлены тав. Салаўёвым на абгаварэнне парткома, а таксама яго асабістыя прапановы значна дапамаглі ў рабоце.

Спачуваючая тав. Пузанава далажыла на парткоме аб ходзе падрыхтоўкі да 8 сакавіка і разгортванні работы сярод жанчын. Падобныя даручэнні даваліся і іншым спачуваючым, што значна актывізавала іх, прывівала навыкі бальшэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны.

Акрамя перыядычных нагрузак ад парткома, спачуваючыя вя-

дуць грамадскую работу па лініі профсаюзных арганізацый, добраахвотных таварыстваў і інш.

Партдзень—школа ідэйна-палітычнага выхавання комуніста. Як правіла, спачуваючыя ў нас прысутнічаюць на адкрытых партыйных сходах і прымаюць у іх актыўны ўдзел.

Каштоўным мерапрыемствам з'яўляюцца таксама сходы спачуваючых, на якіх ставяцца самасправаздачы аб засваенні пройдзенага ў партыйнай сетцы, аб увязцы сваіх тэарэтычных ведаў з практычнай работай на вытворчасці. Сходы адбываюцца 2 разы ў месяц. Апошнія сходы абгаварвалі пытанні міжнароднага становішча: перамога адзінага фронту ва Францыі, італа-абісінская вайна і інш.

Асабліва каштоўны даклад зрабіў спачуваючы тав. Салаўёў. Ён дзелавіта расказаў аб італа-абісінскай вайне, аб рашаючых падзеях на фронце 11—15 лютага і аб выніках вайны. Відаць было, што тав. Салаўёў добра азнаёміўся з міжнародным становішчам. Тое самае можна сказаць і аб тт. Старавойтаве, Старасценку, Міхліне і іншых спачуваючых.

У гутарцы са спачуваючымі выяснілася, што яны мала знаёмы з мастацкай літаратурай. Тт. Гутмаер, Пузанаў, Салаўёў, Чупарын газеты чытаюць, але ад мастацкай літаратуры зусім адсталі. Партком парэкамендаваў ім прачытаць «Паднятую цаліну» Шолахава, «Як гартавалася сталь» Остроўскага, па якой рыхтуецца дыспут.

Кожны спачуваючы забяспечан бібліятэкай, у якой ёсць вышэйадзначаныя кнігі, «Я люблю» Аўдзеенка, «Дрыгва» Коласа і палітычная літаратура: «Пытанні ленінізма», «Ленін і Сталін», «Статут і праграма партыі».

Наша задача—побач з глыбокім вывучэннем спачуваючых, штодзенна вывучаць і беспартыйны актыў. Лепшыя з лепшых стаханаўцаў, адданыя справе рабочага класа, усебакова правераныя на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва, павінны быць уцягнуты ў групу спачуваючых. Для сталай планавай работы сярод беспартыйных рабочых у цэхах (машынна-ванным, разным, шліфавальным, транспартным) арганізаваны 15 гурткоў, у якіх займаецца звыш 150 чалавек беспартыйнага актыва. Слухачы вывучаюць статут і праграму партыі, сістэматычна ўводзяцца ў курс міжнароднай і бягучай палітыкі. Кіруюць гурткамі лепшыя палітычна-граматныя комуністы: іжынер-тэхнолаг Мудроў, парторг разнога цэха Шляхценка і іншыя таварышы.

26 чэрвеня праводзіўся спецыяльны партдзень па пытанню падрыхтоўкі партарганізацыі да новага прыёму ў партыю. У сувязі з гэтым з 8 чэрвеня ў цэхах пачаліся гутаркі з беспартыйным актывам, каб выясніць, што перашкаджае ў яго палітычным і культурным росце. У машынна-ванным цэху для 50 чал. беспартыйнага актыва праведзена тэарэтычная лекцыя на тэму «Арганізацыйныя прынцыпы большэвізма».

У парадку падрыхтоўкі да агульна-заводскага партыйнага сходу 21 чэрвеня ў цэхах праводзіліся сходы комуністаў, якія давалі рэкамендацыі спачуваючым. 23 чэрвеня партком склікаў беспартыйны актыў, каб абмеркаваць мерапрыемствы, неабходныя для яго палітычнага і культурнага росту. Падрыхтоўка да партыйнага дня дасць магчымасць палепшыць работу са спачуваючымі і беспартыйным активам. Партком ужо цяпер атрымаў 13 заяў аб уступленні ў рады

спачуваючых. Сярод падаўшых заявы—перадавікі-стаханаўцы тт. Груздаў—майстар-фуркіст 1-й рукі, Папоў—начальнік 1-й сістэмы машынна-ваннага цэха і інш.

У рабоце са спачуваючымі і беспартыйным актывам у нас намецілася ўжо некаторае палепшанне, але гэта толькі пачатак вялікай і сур'ёзнай работы. Трэба сказаць, што, не гледзячы на рад дасягненняў у гэтай галіне, групы спачуваючых растуць у нас яшчэ яўна марудна. Аб гэтым сведчыць хоць-бы той факт, што ў разным цэху з 400 рабочых толькі 5 чал. спачуваючых.

Перад намі стаіць неадкладная задача—выканаць рашэнні снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК, якія патрабуюць ад нас уцягнення ў групы спачуваючых лепшых людзей з беспартыйнага актыва, правераных на практычнай рабоце, паставіць ідэйна-палітычнае выхаванне іх на аснове большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны.

Замацоўваючы свае першыя дасягненні і разгортваючы далейшую барацьбу за палепшанне работы са спачуваючымі і беспартыйным актывам, наша партарганізацыя справіцца са сваімі задачамі на гэтым участку.

І. Пазнякоў

Інструктар гомельскага ГК КП(б)Б

# З вопыту работы двух партарганізацый

Праверка і абмен партыйных дакументаў спрыялі палепшанню арганізацыйна-палітычнай работы ў пярвічных партарганізацыях, узнялі ролю члена партыі, як передавога палітычнага кіраўніка жыцця і дзейнасці нашай соцыялістычнай краіны.

У якасці станоўчага прыкладу можна прывесці работу партарганізацыі гомельскай абутковай фабрыкі «Праца». Яна здолела спалучыць сваю штодзенную работу з вынікамі праверкі і абмену партдакументаў, паказала, як трэба рыхтаваць кадры, клапаціцца аб палітычным росце комуністаў.

У час праверкі партдакументаў партком сканцэнтраваў усю сваю ўвагу на глыбокім вывучэнні твару кожнага комуніста: ці здолен ён выконваць сваю авангардную ролю, ці варты высокага звання члена ленінска-сталінскай партыі.

Класава-варожыя элементы, неразззброеныя бундаўцы ў мінулым мелі не малы ўплыў на частку комуністаў, асабліва маладых членаў партыі, якія слаба ведалі яе гісторыю. Кожную вылазку ворага партком скарыстоўваў як довад неабходнасці ўмацавання партыі, абароны яе большэвіцкіх прынцыпаў.

Пасля праверкі партдакументаў партком сур'ёзна ўзяўся за падрыхтоўку і выхаванне большэвіцкі загартаваных і тэарэтычна ўзброеных кадраў. Ад кожнага комуніста партком дабіваўся не толькі актыўнага ўдзелу ў рабоце арганізацыі, але і вывучэння гісторыі нашай партыі. Амаль на кожным сваім паседжанні партком слухаў па 2 самасправаздачы комуністаў, у першую чаргу тых, якім зроблены былі заўвагі пры праверцы і абмене партдакументаў. Кожная справаздача глыбока абмяркоўвалася з тым, каб можна было аказаць комуністу неабходную дапамогу.

Узяць, напрыклад, кандыдата партыі тав. **Фрэнкеля,** у мінулым чалавека палітычна адсталага, неактыўнага ў партыйным жыцці. Заслухаўшы справаздачу Фрэнкеля, партком ўказаў на яго недахопы і ў дапамогу прымацаваў члена партыі тав. Васэрмана. Зараз Фрэнкель стаў стаханаўцам, выконвае норму на 171%, удзельнічае ў партыйным жыцці.

Кандыдат партыі тав. **Кіслякоў,** пераведзены па чыстцы да праверкі партдакументаў, сам гаворыць: «Хадзіў я ў школу, але нічога не разумеў. Думаў, што з мяне ўжо нічога і не выйдзе». Пасля таго, як партком практычна дапамог Кіслякову, ён зараз вывучае

гісторыю партыі не толькі па падручніку, але ўмела карыстаецца і першакрыніцамі, добра рыхтуецца да заняткаў, прымае актыўны ўдзел у абгаварэнні пытанняў на партсходах і ў парткоме. Свой вытворчы план выконвае на 127%.

Член партыі тав **Хаймовіч,** у мінулым зусім адарваны ад партыйнага і палітычнага жыцця, пасля практычнай дапамогі парткома добра займаецца ў школе па вывучэнню гісторыі партыі, за грамадскую работу на фабрыцы прэміраван гарадской арганізацыяй МОПР'а.

Сакратар парткома асабіста дапамагаў комуністам стаць у авангардзе разгортвання стаханаўскага руху. Так, напрыклад, б. сакратар парткома тав. Гранатштэйн, дэталёва азнаёміўшыся з умовамі работы на канвееры тт. Гінзбурга, Мельцэра і інш., прыняў практычныя меры для ліквідацыі заўважаных недахопаў і даручыў тэхнаруку тав. Рашотнікаву аказаць ім штодзенную дапамогу. Вынікі сказаліся хутка. Замест 1800 пар абутку адзначаныя таварышы пачалі даваць 2.000—2.100 пар.

Сакратар не ўпускаў з-пад сваёй увагі і стаханаўскага руху сярод комсамольцаў і спачуваючых, ведаючы, што іх поспех будзе мець вялікі ўплыў на ўсіх астатніх рабочых.

Ідэйнаму росту комуністаў спрыяла і хуткая перабудова вучобы ў адпаведнасці з узроўнем развіцця кожнага слухача, а таксама добрая падрыхтоўка партыйных дзён. Арганізацыйна-партыйная і ідэйна-выхаваўчая работа, разгортванне большэвіцкай самакрытыкі—усе гэтыя пытанні ўсебакова абмяркоўваліся на партыйных сходах. На абвестцы дня стаялі важнейшыя пытанні партыйнага жыцця: «Аб выніках праверкі партдакументаў па арганізацыі», «Аб выніках студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б», «Аб задачах партарганізацыі ў сувязі з абменам партдакументаў», «Аб статуце і праграме партыі і іх практычным выкананні»; справаздачы парткома: аб падрыхтоўцы і арганізацыі абмену партдакументаў, аб рэалізацыі рашэнняў снежаньскага пленума ЦК БКП(б) у галіне разгортвання стаханаўскага руху і цэлы рад іншых пытанняў.

Для прыкладу раскажам аб тым, як рыхтаваўся партсход, прысвечаны статуту партыі. Партком пачаў з праверкі таго, наколькі члены і кандыдаты партыі ведаюць статут і як выконваюць яго на практыцы. Пасля гэтага было арганізавана дэталёвае вывучэнне статута і праграмы партыі. Пры паўторнай праверцы асаблівую ўвагу партком удзяліў наступнаму раздзелу статута:

«Член партыі абавязан:

а) захоўваць найстражэйшую партыйную дысцыпліну, прымаць актыўны ўдзел у палітычным жыцці партыі і краіны, праводзіць на практыцы палітыку партыі і рашэнні партыйных органаў;

б) нястомна працаваць над павышэннем сваёй ідэйнай узброенасці, над засваеннем асноў марксізма-ленінізма, важнейшых палітычных і арганізацыйных рашэнняў партыі і растлумачваць іх беспартыйным масам;

в) як член кіруючай партыі ў Совецкай дзяржаве—быць ўзорам захоўвання працоўнай і дзяржаўнай дысцыпліны, авалодваць тэхнікай сваёй справы, бесперапынна павышаць сваю вытворчую, дзелавую кваліфікацыю».

Усе члены і кандыдаты партыі былі ўцягнуты ў праверку выканання гэтага пункта. На цэхавых партсходах рад комуністаў зрабіў адпаведныя справаздачы. Потым гэта пытанне было абмеркавана на агульным закрытым сходзе, які заслухаў даклады 4 комуністаў па ўсяму статуту партыі. Фабрычны друк многа дапамог у асвятленні падрыхтоўкі і ў правядзенні партдня. Гэты сход не з'яўляецца выключэннем з раду астатніх сходаў, бо ўсе яны праходзілі на высокім палітычным узроўні. Так, на сходзе па справаздачы парткома з 48 удзельнікаў выказалася ў спрэчках 14 чал.

Канцэнтрацыя ўвагі парткома на асноўных пытаннях жыцця партарганізацыі дала безумоўна станоўчыя вынікі. За перыяд абмену партдакументаў партарганізацыя палітычна ўмацавалася, выраслі новыя большэвіцкія кадры. Ужо зараз на кіруючай партыйнай рабоце ў іншых партарганізацыях працуюць сакратарамі парткомаў і парторгамі тт. **Шыўчык, Д., Шульман, Рамаоўскі, Берковіч,** дырэктарам цагельнага завода № 3 працуе тав. **Балоцін.** На кіруючую партработу—сакратаром парткома нашай фабрыкі—вылучан тав. **Васерман,** замест тав. Гранатштэйна, які рашэннем ЦК КП(б)Б зацверджан парторгам цагельнага завода **№ 6. Тт. Шыўчык М.** працуе прапагандыстам, **Дворкін**—сакратаром комсамольскага камітэта, **Мархашоў** і **Радзевіч**—цэхавымі парторгамі. Усе гэтыя ў недалёкім мінулым мала прыметныя таварышы добра спраўляюцца з кіруючай работай.

Партарганізацыя нядрэнна паставіла і вытворчую работу. Праграму 1935 года фабрыка выканала на 122,7%, поўгадавая праграма бягучага года закончана к 20 чэрвеня. За кошт эканоміі верхняга і ніжняга тавару фабрыка выпусціць звыш поўгадовай праграмы 121.000 пар абутку. Новыя тэхнічныя нормы на фабрыцы асвоіла 62 проц. рабочых. Усе комуністы і комсамольцы з'яўляюцца стаханаўцамі.

Такіх вынікаў дабілася партарганізацыя фабрыкі «Праца» за кароткі час абмену партдакументаў.

Побач са станоўчым вопытам работы фабрыкі «Праца» нельга не спыніцца на адмоўнай рабоце партарганізацыі «Палесдрук». Як колькасны склад партарганізацый, так і ўмовы работы іх парткомаў, зусім аднолькавы. Аднак сакратар парткома «Палесдруку» не ўсвядоміў усёй важнасці арганізацыйна-палітычнай работы на даны перыяд, не здолеў па-сапраўднаму замацаваць уздым актыўнасці і ўзросшае пачуццё адказнасці комуністаў за сваю работу, не ўдзяліў належнай увагі запатрабаванням комуністаў, не даводзіў да канца вырашэнне ўзнятых пытанняў, працаваў без патрэбнай сістэмы і мэтаімкнёнасці.

Што, напрыклад, мог даць комуністам партыйны дзень, праведзены 29 сакавіка па пытанню аб партыйнай дысцыпліне, калі партарганізацыя не паклапацілася аб падрыхтоўчай рабоце? Аб сходзе комуністы даведаліся толькі за дзень і нічога ад яго не атрымалі. У спрэчках выступілі 4 штатныя прамоўцы. Кандыдаты партыі Гельфанд, Амхінец, Фельдман і інш. у сакавіку і красавіку зусім не наведвалі партсходаў.

Работа партыйнага камітэта не палепшылася і ў далейшым. Так, на партсходзе, прысвечаным пытанню абмену партдакументаў, актыўны ўдзел прынялі многія комуністы. Яны ўказвалі на недахопы ў рабоце парткома, патрабавалі палепшыць выхаваўчую работу і аказаць практычную дапамогу адстаючым. На сходзе ўпершыню вы-

ступалі Фельдман, Кенін, Альбінская і рад іншых таварышоў, да якіх пастаноўлена было прымацаваць у дапамогу падрыхтаваных камуністаў. Аднак гэта рашэнне сходу так і засталося ў пратаколе. І ніхто не паклапаціўся праверыць, як яно праводзіцца ў жыццё. Кандыдаты партыі тт. Фарберава, Шапіра, Зельдзін, Мірлін дагэтуль застаюцца палітычна непадрыхтаванымі да прыёму ў члены партыі. Яны заяўляюць: «Нам сорамна падаваць заявы аб пераводзе ў члены партыі, бо разам з парткомам мы не выканалі абяцання выправіць свае недахопы, якое далі ў час абмену партдакументаў».

Справа падрыхтоўкі кадраў таксама ідзе самацёкам. Вылучаным у рэзерв Раманоўскай, Малышка, Крэмеравай, Рошан, Аронаву, Беленькаму і інш. таварышам партком не аказвае практычнай дапамогі. Не выпадкова тав. Смолкіну, вылучаную на работу ў заўком, прыйшлося зноў перавесці ў цэх.

Здавалася-б, што падобныя факты павінны былі паслужыць сігналам для парткома. Аднак патрэбных вывадаў з гэтых жывых прыкладаў партком для сябе не зрабіў. На пасяджанні 5 мая партком вымушан быў задаволіць просьбу і другога з вылучэнцаў—кандыдата партыі тав. Рошана—вызваліць яго ад новай работы, не гледзячы на тое, што на гэтым участку ён працаваў ужо пяць месяцаў.

Партыйны камітэт даручыў праводзіць палітгутаркі ў цэхах Фіглінай, Левіну, Кагану, Мірліну і інш. таварышам, аднак не навучыў іх, як трэба гэтыя гутаркі будаваць, каб дабіцца ад іх практычных вынікаў.

У групу спачуваючых за 5 месяцаў прынят 1 чал. Сярод камуністаў толькі 12 стаханаўцаў, а сярод камсамольцаў—40 з 52 чал.

У выніку дрэннай палітычна-выхаваўчай і арганізацыйнай работы партарганізацыя «Палесдруку» не здолела мабілізаваць шырокія масы рабочых на выкананне вытворчага задання, што прывяло да недавыканання прадпрыемствам майскага плана.

Партком і ўся партарганізацыя «Палесдруку» абавязаны неадкладна перабудаваць сваю работу ў адпаведнасці з указаннямі ЦК, пераняўшы лепшы вопыт партарганізацыі фабрыкі «Праца»; узняць авангардную ролю камуністаў і камсамольцаў на вытворчасці, каб стаць сапраўднымі арганізатарамі і выхавальнікамі мас.

**Паўловіч**

**Сакратар добрушскага РК КП(б)Б**

# За большэвіцкае выхаванне моладзі

Савецкая ўлада вызваліла моладзь СССР ад жабрацтва і голаду, дала ёй моцную матар'яльную забяспечанасць.

Карэнным чынам змянілася і становішча сялянскай моладзі. Калгасны лад стварыў для яе шырокую магчымасць свабоднай працы, асветы, далучыў яе да гарадской культуры. Новая савецкая школа прадастаўляе ўсе ўмовы для набыцця сапраўдных ведаў па ўсіх галінах навукі.

Наша моладзь атрымала магчымасць аўладаць любой спецыяльнасцю, дасягнуць любога ўзроўню ведаў, бо ў СССР шырока даступна ўсім працоўным не толькі ніжэйшая, але і сярэдняя і вышэйшая адукацыя. Кожная прафесія ў савецкай краіне з'яўляецца аднолькава паважнай і пачэснай. Соцыялізм стаў рэчаіснасцю для народаў вялікага Саюза Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Выхаванне працоўнай моладзі ў Савецкім Саюзе—важнейшая задача Ленінскага Комуністычнага Саюза Моладзі.

> **«Кіраўніцтва комсамола павінна забяспечыць поспехі барацьбы моладзі за авалодванне ведамі, навукай, культурай. Кіраўніцтва павінна быць поўнасцю падпарадкавана задачам навучання і выхавання моладзі і дзяцей.**
>
> Наша задача—у будучых бойках перамагаць. Комсамолец, сын народу, не здаецца ў полан, бо полан для яго бясчэсце, незмываемая ганьба» (**Косараў,** са справаздачы на X з'ездзе ВЛКСМ).
>
> «Для таго, каб хутчэй рушыць наперад, для таго, каб хутчэй выканаць усе ўказанні нашай партыі, нам трэба пераварыць кожную пярвічную арганізацыю і важака моладзі ў арганізацыю, якая-б выхоўвала ўсю нашу савецкую моладзь незалежна ад яе соцыяльнага паходжання... Жыць старымі поспехамі—гэта не значыць ісці наперад, а значыць цягнуць Саюз назад» (**Андрэеў,** з прамовы на X з'ездзе ВЛКСМ).

Ленінскі комсамол з'яўляецца масавай беспартыйнай арганізацыяй, якая прымыкае да ВКП(б), яднае ў сваіх радах шырокія пласты перадавой, палітычна граматнай працоўнай моладзі горада і вёскі.

Ленінскі комсамол з'яўляецца памочнікам ВКП(б) і яе рэзервам. Ленінскі комсамол пад кіраўніцтвам ВКП(б) павінен выхоўваць з рабочай, сялянскай, служачай моладзі людзей, адданых савецкай уладзе, адукаваных, смелых і рашучых, людзей, якія не баяцца нястач і труднасцей, ненавідзяць ворагаў рабочага класа, людзей з цвёрдым характарам, настойлівых у дасягненні мэты.

Добрушская раённая арганізацыя ленінскага комсамола налічвае ў сваіх радах 493 члены і 5 кандыдатаў. Па соцыяльнаму паходжанню: рабочых 236, сялян 237, служачых 18 і іншых 8 чалавек. У арганізацыі ўсяго толькі 166 комсамолак. З агульнай колькасці комсамольцаў—72 стаханаўцы, з іх 42 на вытворчасці (фабрыка і торфзавод) і 30 чал. у калгасе.

Ініцыятарам стаханаўскага руху на фабрыцы «Герой працы» з'яўляецца комсамолка Марыя **Крэсава**, якая дае на выпарным апараце сістэмы «Гекмана» 819 кубаградусаў пры заданні 450. Комсамольска-маладзёжная брыгада Курзіна з'яўляецца лепшай на фабрыцы. Комсамолец Папуцька выконвае норму больш як на 200 проц.

Комсамольцы спіртазавода Ачоса-Руднянскага сельсовета Канавалаў, Рыжкоў, Звягіна выконваюць норму на 207%.

Лепшымі стаханаўцамі калгаса імя Калініна Пераростаўскага сельсовета з'яўляюцца Аламп'ева, Граючая, Цуранава. Брыгады тав. Адзіночанка калгаса «Абарона» Кармянскага сельсовета, калгаса «Молат» Хорашаўскага сельсовета, Гуравай—Жгунскага сельсовета выконваюць норму на 150—200%.

Ініцыятарам стаханаўскага руху на торфзаводзе з'яўляецца комсамолец машыніст тав. Піскуноў.

Не гледзячы на некаторыя станоўчыя вынікі ў галіне разгортвання стаханаўскага руху сярод моладзі, работа раённай комсамольскай арганізацыі Добрушскага раёна пастаўлена яшчэ далёка нездавальняюча. Сярод тысячнай арміі беспартыйнай рабоча-калгаснай моладзі не вядзецца амаль ніякай работы. Асабліва трэба адзначыць нездавальняючую работу тав. Паслова—сакратара комсамольскага калектыва фабрыкі «Герой працы», дзе з 1500 чалавек моладзі ў комсамоле ўсяго 150, прычым за гэты год прынята толькі 20 чалавек. На торфзаводзе (сакратар комсамольскага калектыва тав. Шолахаў) з 1000 чалавек моладзі, у большасці стаханаўцаў, у комсамоле толькі 30 чалавек, за гэты год прынята ўсяго 5 чалавек. Не лепш справа і ў іншых комсамольскіх арганізацыях раёна.

Прычына перш за ўсё ў дрэнным кіраўніцтве райкома комсамола, у адасобленасці комсамольскай арганізацыі ад беспартыйнай моладзі, у адсутнасці палітыка-выхаваўчай і арганізацыйнай работы. Акрамя таго, райком комсамола дапусціў парушэнне комсамольскага статута, стварыў валакіту з прыёмам у комсамол.

Пасля рашэння X з'езда ВЛКСМ намецілася палепшанне работы комсамольскай арганізацыі, асабліва ў галіне палітыка-выхаваўчай.

У гэтым годзе райком партыі аказаў комсамолу моцную дапамогу. Арганізавана 30 комсамольскіх палітшкол (7 па гісторыі партыі і 23 палітграматы), якімі ахоплена 398 чалавек. Вучыцца індывідуальна 15, завочна 27 і ў вячэрніх школах 58 чал. З усёй сур'ёзнасцю падышлі мы да падбору і падрыхтоўкі комсамольскіх прапагандыстаў. Для партыйнага кіраўніцтва комсамольскімі школамі вылучана 7 комуністаў, якія паказваюць узоры выхавання моладзі. Кіраўнікамі комсамольскіх школ прызначаны таксама 23 комсамольцы: з сярэдняй асветай 11, з незакончанай сярэдняй 10 і закончыўшых курсы прапагандыстаў 5 чалавек.

Лепшаю комсамольскай школай з'яўляецца Хорашаўская. Прапагандыст тав. Кушнераў кіруе школай ужо чацверты год. Заняткі слухачы наведваюць сістэматычна. Тав. Кушнераў праводзіць кансультацыі для адстаючых, у выкладанні карыстаецца наглядным матар'ялам

і мастацкай літаратурай, да заняткаў рыхтуецца па першакрыніцах Леніна—Сталіна.

Добра працуе таксама прапагандыст комсамольскай школы фабрыкі «Герой працы» тав. Меншова Ольга. Слухачы вельмі зацікаўлены заняткамі. Такіх прапагандыстаў, як тт. Кушнераў і Меншова, ёсць у нас не мала.

Аднак якасць вучобы ўсё яшчэ адстае, асабліва на вёсцы. Віною ў гэтым нецярпімае ратазейства работнікаў райкома. Культпроп райкома тав. Прыбыткоўскі, замест таго каб дапамагчы прапагандысту ў школе, гаворыць, што ўсё ў яго ідзе добра.

Яшчэ горш пастаўлена справа ў піонерскай арганізацыі раёна, якая складаецца з 2086 чалавек. Райком комсамола, замест работы па сутнасці, займаецца агульнымі разважаннямі і прымае дэкларацыйныя пастановы.

Нельга не адзначыць і вяльможна-панскіх адносін некаторых комсамольскіх работнікаў да запатрабаванняў моладзі. Работнікі райкома лічаць, што ім, як людзям дарослым, не да твару быць сярод моладзі, і яны стараюцца ізалявацца ад яе.

Асноўнай задачай комсамольскай арганізацыі Добрушскага раёна і ў першую чаргу райкома комсамола, з'яўляецца хутчэйшае праводзенне ў жыццё рашэнняў X з'езда ВЛКСМ і апошняга пленума РК КП(б)Б, які даў чоткія ўказанні ў галіне выхавання моладзі і ўцягнення ў комсамол.

За апошнія гады ў горадзе і вёсцы вырасла велізарная армія перадавой моладзі—тысячы стаханаўцаў, выдатнікаў вучобы. Гэту выдатную моладзь трэба ўцягнуць у комсамол, ператварыўшы яго ў школу комуністычнага выхавання ўсяго падрастаючага пакалення.

Практычная задача Добрушскай партыйнай арганізацыі і кожнага комуніста паасобку—усямерна дапамагаць комсамольскай арганізацыі ў выкананні рашэнняў X з'езда ВЛКСМ, шырока разгарнуць масава-выхаваўчую і арганізацыйную работу для ўцягнення лепшай моладзі ў рады ленінскага комсамола.

Комсамол павінен шырэй разгарнуць сваю работу, глыбей пранікнуць у масы калгаснай і рабочай моладзі. Пад кіраўніцтвам партыі і яе вялікага правадыра таварыша Сталіна комсамол выхавае змену, вартую нашай эпохі, нашай магутнай радзімы.

**Галакціонаў**

**Нам. сакратара віцебскага гаркома ЛКСМБ**

# Вучоба і палітычнае выхаванне моладзі

Рост рабочай моладзі горада Віцебска і раёна—вельмі характэрны паказчык бурнага росту ордэнаноснай БССР. За апошнія пяць год у прадпрыемствы горада ўліліся новыя тысячы маладых рабочых.

На швейнай фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі», уведзенай у эксплаатацыю ў 1931 г., працуе звыш 1500 чалавек моладзі, на панчошнай фабрыцы «КІМ»—звыш 4000. Тысячныя калектывы моладзі працуюць на Шчоткамбінаце, Маслазаводзе, Малакозаводзе, Біяфабрыцы, Механізаваным хлебазаводзе і многіх іншых прадпрыемствах горада.

За гэтыя гады многа моладзі прыбыло і на «старых» фабрыках і заводах: імя Кагановіча («Дзвіна»), імя Клары Цэткін, Акулярнай, «Чырвоным металісце» імя Кірава і інш. У Віцебску—20 навучальных устаноў, большая палова якіх адкрыта за апошнія 3—4 гады. У горадзе—многія тысячы новай рабочай, студэнцкай і калгаснай моладзі, сотні маладых работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы, маладых служачых і інтэлігенцыі.

Адсюль зусім ясна, што склад віцебскай комсамольскай арганізацыі, і па стажу і па ўзросту, вельмі малады. 75 проц. арганізацыі—комсамольцы з 1931 года і пазней.

Зразумела, што агульны і палітычны ўзровень моладзі даволі разнастайны. Пераважная большасць мае асвету за 5—6—7 класаў. Аднак, побач, з маладымі навуковымі работнікамі, інжынерамі, тэхнікамі, многа яшчэ і малаграматнай моладзі як у калгасах, так і на прадпрыемствах.

Перад гаркомам і ўсёй віцебскай арганізацыяй ЛКСМБ паўстала адказная задача—дыферэнцыявана падыйсці да палітычнага выхавання моладзі, пачынаючы ад стварэння школ для ліквідацыі малапісьменнасці і канчаючы гурткамі і школамі па вывучэнню гісторыі партыі і паасобных твораў класікаў марксізма-ленінізма.

У новай праграме комсамола чотка вызначаны задачы выхавання:

> «...ВЛКСМ вядзе работу па палітычнаму выхаванню ўсёй рабоча-сялянскай, служачай, вучнёўскай моладзі і маладой інтэлігенцыі».

Гэта ўказанне з'езда ўлічана нашай арганізацыяй для палепшання палітыка-выхаваўчай работы сярод усёй моладзі.

Створана новая шырокая сетка школ для малаграматнай моладзі і падлеткаў. Гэтымі школамі ахоплена звыш 500 чалавек. Тав. Каган—сакратар комсамольскага камітэта Акулярнай фабрыкі—стала правярае ход вучобы, разбірае з малаграматнай моладдзю газетны матар'ял, арганізуе паходы ў кіно і потым тлумачыць змест карцін і т. д. Такія школы створаны ўжо амаль у кожным сельсовеце і на акраінах горада.

Часцей сталі практыкавацца сходы несаюзнай моладзі па пытаннях палітыкі, арганізацыі вучобы, работы над кнігай і газетай. За апошнія два месяцы ўсе комсамольскія арганізацыі горада і вёскі правялі сходы моладзі па растлумачэнню статута і праграмы ВЛКСМ, законапраекта ўрада аб забароне абортаў, праекта новай Канстытуцыі СССР і на іншыя тэмы.

Значна пашырылася сетка палітычнай вучобы несаюзнай моладзі. Зараз сістэматычна працуюць 42 гурткі, у якіх займаецца 605 чалавек новаўступаючых у комсамол.

Палепшан склад прапагандыстаў. На Акулярнай фабрыцы гуртком кіруе комсамолка тав. Піпкіна, якая мае сярэднюю асвету і скончыла 6-месячныя курсы прапагандыстаў. У яе гуртку працуе 9 чалавек, прычым трое з іх былыя беспрытульныя. Заняткі ні разу не зрываліся. Тав. Піпкіна цярпліва растлумачвае тэмы, па-простаму гутарыць з рэбятамі і дасягае гэтым зацікаўленасці ў вучобе.

Недахопам трэба лічыць тое, што сярод прапагандыстаў гэтых гурткоў няма ні аднаго члена партыі.

Палепшанне палітычна-выхаваўчай работы спрыяла росту палітычнай актыўнасці моладзі і комсамола. Калі за першы квартал гэтага года было прынята ў комсамол 110 чалавек, то за красавік, май і 10 дзён чэрвеня—174 чалавекі. Вялікую частку прынятых складае калгасная і студэнцкая моладзь, за лік якой арганізацыя да з'езда расла вельмі слаба.

Трэба адзначыць, што ў нашы рады ўліваецца сапраўды перадавая, палітычна граматная моладзь. Так, у чэрвені месяцы прыняты:

**Папоў** Васіль Данілавіч—1915 г. нараджэння, сын калгасніка, студэнт сельскагаспадарчага тэхнікума, вучыцца па ўсіх прадметах на выдатна, актыўны ў грамадскім жыцці тэхнікума, самастойна працуе над вывучэннем твораў Леніна—Сталіна.

**Порт** Арон Абрамавіч—1918 г. нараджэння, сын рабочага, сам працуе на вытворчасці і з'яўляецца стаханаўцам. Скончыў у гэтым годзе 9 класаў вячэрняй школы без адрыву ад вытворчасці.

У выніку росту радоў комсамола створаны новыя арганізацыі ў калгасе «Варашылава» Сялюцкага сельсовета, у калгасе «Дзержынскага» Рудніцкага сельсовета, у калгасах «2-я пяцігодка» і імя Молатава Бабініцкага сельсовета, у арцелі «Канатчык» і інш.

Трэба адзначыць, што паасобныя комсамольскія арганізацыі ў практыцы росту дапускаюць рад скрыўленняў. Бывалі выпадкі, што сапраўднае засваенне новаўступаючымі праграмы і статута ВЛКСМ падмянялася нікому непатрэбнай зуброжкай паасобных вытрымак. Такія факты былі на фабрыцы «Профінтэрн» (сакратар камітэта тав. Курын), на фабрыцы Лекерта і нават у навучальных установах. Гарком ЛКСМБ кожны такі факт выкарыстаў для таго, каб навучыць комсамольскі актыў правільна падрыхтоўваць перадавую моладзь для ўступлення ў комсамол.

* * *

Сетка палітычнай асветы комсамольцаў сёлета была пабудавана значна лепш, чым ва ўсе папярэднія гады. Гурткі камплектаваліся з улікам узроўню ведаў комсамольцаў, што пацягнула за сабой стварэнне разнастайных форм вучобы. Так, напрыклад, у 1934 годзе не было ніводнага гуртка па вывучэнню гісторыі партыі, а зараз такіх гурткоў 53. У іх навучаецца 551 комсамолец і 585 чал. несаюзнай моладзі. 39 гурткоў вывучаюць гісторыю партыі па першакрыніцах, 13 гурткоў вывучаюць паасобныя творы Леніна—Сталіна, 109 гурткоў вывучаюць палітграмату і т. д.

У дадатак да палітзаняткаў шырэй выкарыстоўваюцца наглядныя дапаможнікі: карты, кіно, мастацкая літаратура. Большасць гарадскіх слухачоў да тэмы «Рэволюцыя 1905 года» прачыталі «Маці» Горкага, «Цусіму» Новікава-Прыбоя. Камітэты комсамола фабрыкі «КІМ» і «Клары Цэткін» правялі два кіно-цыклы лекцый па вывучэнню рэволюцыйнага руху на Захадзе і ў Расіі. Камітэты комсамола навучальных устаноў на час летніх канікул далі кожнаму комсамольцу персанальнае заданне вывучыць паасобныя этапы гісторыі партыі, або паасобныя творы Леніна—Сталіна.

Многія комсамольцы з дапамогай прапагандыстаў навучыліся самастойна працаваць над сур'ёзным матар'ялам і канспектаваць яго. Так, група комсамольцаў фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» (Файнштэйн, Леўлёва, Маліноўская і інш.) пры дапамозе прапагандыста тав. Жухавіцкага вывучылі творы таварыша Сталіна «Аб асновах ленінізма».

Каб зацікавіць лепшых прапагандыстаў работай у комсамольскай палітсетцы і перадаць іх вопыт астатнім, гарком практыкуе скліканне канферэнцый прапагандыстаў і выдатнікаў вучобы. Канферэнцыі і сходы прапагандыстаў дэталёва абмеркавалі: работу гуртка па вывучэнню гісторыі партыі і яго прапагандыста тав. Лондан з фабрыкі імя Кагановіча, Абрамава з фабрыкі імя Кагановіча, Жухавіцкага з фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», Ханіна з фабрыкі Лекерта, Пескіна з фабрыкі «КІМ» і інш. Лепшыя прапагандысты тт. Плоткіна, Забежанская, Галомбік, Рыжык, Ханін, Абрамаў і інш. былі прэміраваны. Зараз арганізуецца экскурсія лепшых прапагандыстаў у маскоўскі музей Леніна.

Гарком комсамола не мала клапаціўся аб тым, каб забяспечыць прапагандыстаў неабходнай літаратурай і газетамі. Кожнаму прапагандысту выпісаны газеты «Правда», «Комсамольская правда», «В помощь партучебе» і часопіс «Пропагандист», кожны прапагандыст мае аднатомнік Леніна—Сталіна, двухтомнік Леніна, «Пытанні ленінізма» Сталіна, праграму партыі і комсамола.

Прапагандысты перыядычна наведвалі заняткі сваіх таварышоў, скарыстоўвалі іх вопыт, указвалі на недахопы. Усё гэта безумоўна дапамагае палепшанню прапагандысцкай работы. Аднак якасць гэтай работы забяспечана далёка не ва ўсёй палітсетцы з-за адсутнасці неабходнай колькасці дастаткова кваліфікаваных, вопытных прапагандыстаў.

Гарком праводзіць зараз праверку прапагандыстаў. З 97 правераных дапушчана да работы 89 чалавек, г. зн. 9 проц. адсеяна за палітычную няграматнасць. Процант даволі вялікі.

Прывядзем даныя для характарыстыкі пакінутых на прапагандысцкай рабоце. Па партыйнасці: членаў партыі—16, кандыдатаў—6,

комсамольцаў—67. Па агульнай адукацыі: з вышэйшай—16, з сярэдняй—42, 7—8 класаў—19, 5—6 класаў—12. Па палітадукацыі: скончыўшых СПШ або курсы прапагандыстаў—25, комвуз—10, без спецыяльнай палітасветы—54. Па стажу прапагандысцкай работы: працуе 1 год—51, 2 гады—23, 3-ці год—9, 4-ты год—6.

Адсюль відаць, што пераважная большасць прапагандыстаў—навічкі, без спецыяльнай палітычнай асветы і патрэбнага вопыту.

Гарком прымае тэрміновыя захады к павышэнню тэарэтычнага ўзроўню прапагандыстаў. Ужо створана сталая школа падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі прапагандыстаў без адрыву ад вытворчасці на 60 чалавек, першы выпуск якіх праз 6 месяцаў уваллецца ў прапагандысцкі калектыў горада. Аднак пакуль што прапагандыстаў нехапае, асабліва для гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі.

Трэба адзначыць, што віцебскі гарком партыі ўдзяляе зараз дастатковую ўвагу падбору прапагандыстаў у комсамольскую палітсетку, але ва многіх пярвічных партарганізацыях сакратары парткомаў і парторгі да прапагандысцкай работы ў комсамоле ўсё яшчэ адносяцца фармальна. Так, партком Маслазавода ў сярэдзіне года перакінуў у партсетку прапагандыста комсамольскай сеткі тав. Метлахова, нікім яго не замяніўшы. Партком Шчоткамбіната вось ужо два месяцы не вылучае прапагандыста для комсамольскага гуртка па гісторыі партыі. Партком завода «Чырвоны металіст» даў водпуск прапагандысту комсамольскай сеткі тав. Лукнеру, не падабраўшы яму замены. Сакратар парткома фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» знашоў «патрэбным» іменна кіраўніка комсамольскай палітвучобы тав. Гурчанка паслаць на час веснавой сяўбы ў падшэфны калгас, у выніку заняткі гуртка сарваліся некалькі раз.

Паасобныя члены і кандыдаты партыі, якія працуюць прапагандыстамі ў комсамольскай палітсетцы, часта прапускаюць семінары (тт. Эпштэйн і Власенка з фабрыкі імя Клары Цэткін, Лондан з фабрыкі імя Кагановіча, Фельдман з фабрыкі «Профінтэрн» і інш.). Яшчэ ні разу сакратары парткомаў, ні парткабінеты не праверылі падрыхтаванасць гэтых прапагандыстаў да заняткаў, не прыцягнулі за халатнасць да партыйнай адказнасці. А якраз у гэтым патрэбна зараз асаблівая дапамога партыйных арганізацый комсамолу, бо без яе нельга ўзняць якасць работы гурткоў і школ палітасветы.

Ва ўмовах маладой па стажу Віцебскай комсамольскай арганізацыі палітычнае выхаванне і вырошчванне актыва з'яўляецца рашаючай справай. Пры гаркоме ЛКСМБ створаны два гурткі актыва, у якіх побач з гісторыяй партыі і палітэканоміяй вывучаецца матэматыка, геаграфія і нямецкая мова. Акрамя таго, з адрывам ад вытворчасці працуюць спецыяльныя курсы для камсоргаў так званых «дробных» арганізацый. Вялікая ўвага ўдзелена вывучэнню «тэхнікі» унутрысаюзнай работы, што спрыяе значнаму росту маладых камсоргаў.

Для комсамольскага актыва гарком стварыў сталы лекторый. Так, 8 чэрвеня дацэнт Пед'інстытута тав. Эпштэйн прачытаў лекцыю на тэму «Соцыялізм і комунізм», 19-га праводзілася лекцыя на тэму аб міжнародным становішчы і т. д. Але і ў гэтых адносінах, асабліва ў падборы лектароў па новай гісторыі і гісторыі народаў СССР, нам неабходна дапамога партарганізацыі.

Рост палітычнага ўзроўню комсамольцаў і несаюзнай моладзі выклікаў значнае павышэнне іх палітычнай і вытворчай актыўнасці.

Калі ў снежні мінулага года ў комсамольскіх арганізацыях горада налічвалася каля 600 «маўчальнікаў», то цяпер іх амаль зусім няма.

Пасля гістарычных указанняў таварыша Сталіна аб задачах комуністычнага выхавання ўсёй совецкай моладзі і пасля рашэнняў X з'езда ВЛКСМ большасць комсамольскіх арганізацый зразумела, у чым павінен заключацца галоўны змест работы сярод моладзі. Гэтыя рашэнні павінны няўхільна праводзіцца ў жыццё усімі партыйнымі і комсамольскімі арганізацыямі.

---

# РЭЗАЛЮЦЫІ ЧЭРВЕНЬСКІХ ПЛЕНУМАЎ ЦК ВКП(б) І ЦК КП(б)Б

## Аб уборцы ўраджаю і сельскагаспадарчых загатоўках

*Рэзалюцыя Пленума ЦК ВКП(б) па дакладах т.т. Чэрнова, Калмановіча, Мікаяна і Клейнера, прынятая 4 чэрвеня 1936 года*

Перамога калгаснага ладу ў вёсцы абумовіла магутны ўздым соцыялістычнага спаборніцтва калгасаў і забяспечыла, не гледзячы на значнае спазненне вясны, правядзенне сяўбы ўсіх культур у меншы тэрмін, чым у мінулым годзе, пры лепшай апрацоўцы глебы.

Рашаючую ролю ў правядзенні сяўбы ў найкарацейшыя тэрміны і шырокім прымяненні разнастайных прыёмаў сучаснай агратэхнікі адыграла няўхільна праводзімая партыяй і совецкаю ўладай ўсё ўзрастаючая дапамога калгасам праз МТС трактарамі і сельскагаспадарчымі машынамі і палепшанне агранамічнага абслугоўвання калгасаў. Толькі за адзін 1936 год магутнасць трактарнага парку МТС узрастае на 1 мільён 650 тыс. конскіх сіл. МТС атрымліваюць у 1936 годзе 19,2 тысяч першакласных магутных гусенічных трактароў «Сталінец» і 40 тысяч калёсных трактараў, 52 тысячы камбайнаў і 16 тысяч спецыяльных трактароў «Універсал» для культывацыі і ўборкі тэхнічных культур. Машына-трактарныя станцыі і соўгасы выхавалі і замацавалі кадры перадавых трактарыстаў і камбайнераў, павысіўся аб'ём і якасць трактарных работ.

Галоўная і рашаючая ўмова забяспечання высокага ўраджаю заключаецца цяпер у тым, каб, ламаючы супраціўленне паасобных работнікаў справе моцнага ўкаранення механізацыі ва ўсе галіны сельскагаспадарчай вытворчасці, зрабіць вопыт і дасягненні перадавых людзей соцыялістычнага земляробства, аўладаўшых машыннай тэхнікай апрацоўкі і ўборкі, набыткам усёй масы работнікаў калгасаў, соўгасаў і МТС.

Пленум ЦК ВКП(б) пастанаўляе:

### I

### АБ ДОГЛЯДЗЕ ПАСЕВАЎ І ЎБОРЦЫ ЎРАДЖАЮ

#### А. Зернавыя культуры і сланечнік

1. Звярнуць асаблівую ўвагу партыйных і совецкіх арганізацый паўднёвых і ўсходніх абласцей, краёў і раёнаў на тое, што ў гэтых раёнах ужо ў бягучым годзе камбайн становіцца галоўнай уборачнай машынай. Пленум ЦК ВКП(б) патрабуе ад кіраўнікоў гэтых абласцей, краёў і раёнаў, Наркамзема СССР і Наркамсоўгасаў, дырэктароў МТС і соўгасаў старannай падрыхтоўкі камбайнаў да ўборкі, праверкі падрыхтаванасці камбайнераў, вылучэння дастатковага

транспарту, у асаблівасці калгаснага, для абслугоўвання камбайнаў і ўсямернай дапамогі разгортванню соцыялістычнага спаборніцтва камбайнераў з тым, каб устаноўлены ЦК ВКП(б) і СНК СССР план уборкі камбайнамі быў у гэтым годзе кожнай МТС і соўгасам, кожным краем, вобласцю і рэспублікай не толькі выканан, але і перавыканан.

2. Прапанаваць Наркамзему СССР, Наркамсоўгасаў, дырэктарам МТС і соўгасаў:

а) не пазней, чым за 15 дзён да пачатку ўборкі, адвесці палі для кожнага камбайна ў размерах не менш прадугледжаных планам камбайнавай уборкі для кожнага соўгаса і МТС. Камбайнера, як начальніка камбайнавага агрэгата, непасрэдна падначаліць дырэктару МТС;

б) праверыць гатоўнасць камбайнаў да работы, вывезці ў поле ўсе камбайны не пазней, чым за 5 дзён да пачатку ўборкі, і выдзеліць у распараджэнне камбайнера камплект неабходных запасных частак, як напрыклад: звенні ланцугоў, сегменты, планкі і інш.;

в) забяспечыць работу трактароў ЧТЗ на ўборцы з двума камбайнамі;

г) арганізаваць своечасова палявыя станы з тым, каб з моманту вываду камбайнаў у поле камбайнеры, іх памочнікі і трактарысты знаходзіліся ў станах;

д) арганізаваць не пазней, чым за 10 дзён да пачатку ўборкі, у кожнай МТС рамонтныя аўтоперасоўкі з разліку адной аўтоперасоўкі на кожныя 15 камбайнаў.

3. Захаваць на 1936 год парадак аплаты камбайнераў, устаноўлены пастановай Соўнаркома СССР і ЦК ВКП(б) ад 19 красавіка 1935 года.

4. Для бесперабойнага абслугоўвання камбайнаў транспартам, ачысткі, прасушкі і вывазкі зярна вылучыць у паляводчых брыгадах на ўвесь перыяд уборкі звенні па адвозцы зярна з бункераў камбайнаў, па ачыстцы і прасушванню зярна, забяспечыўшы гэтыя звенні зернаачышчальнымі машынамі і дастатковай колькасцю жывога цягла калгасаў і аўтотранспарту МТС і калгасаў.

5. Прапанаваць Наркамцяжпрому СССР паскорыць адгрузку запасных частак да камбайнаў і іншых уборачных машын і аўтамабіляў з тым, каб план адгрузак першага паўгоддзя быў выканан к 25 чэрвеня, план III квартала—к 1 жніўня г. г.

6. Устанавіць, як гранічныя, тэрміны касавіцы лабагрэйкамі і жняяркамі азімых і ранніх коласавых культур (жыта, пшаніца, авёс, ячмень) 12—15 рабочых дзён.

У мэтах недапушчэння страт і поўнага захавання ўраджаю:

а) правесці вязку ў снапы ўсяго скошанага хлеба і яго капнаванне;

б) заскіртаваць увесь хлеб з такім разлікам, каб не пазней, чым праз 10—15 дзён пасля сканчэння касавіцы закончыць гэту работу;

в) закончыць у нечарназемнай паласе і ва ўсходніх раёнах пабудову крытых навесаў і калгасных сушылак не пазней, чым к 1-му жніўня;

г) забяспечыць усе ўборачныя машыны зернаўлавіцелямі і правесці суцэльнае зграбанне каласоў коннымі і ручнымі граблямі на ўбраным полі;

д) правесці суцэльную дэзінфекцыю сельскагаспадарчага ўборачнага інвентара і не дапускаць абмалоту хлябоў на старых токах без папярэдняга іх выпальвання;

е) пачаць абмалот хлябоў не пазней 3—5 дзён пасля пачатку касавіцы, забяспечыўшы не менш 20 гадзін штодзённай работы ўсіх наяўных складаных малатарань;

ж) прапанаваць Наркамсоўгасаў арганізаваць на кожным камбайне, асабліва ў зернасоўгасах, трэцюю ачыстку зярна і забараніць арганізацыю пераваланных пунктаў у зернасоўгасах.

7. Пленум ЦК ВКП(б) звярачае асаблівую ўвагу партыйных і савецкіх арганізацый на тое, што ў сувязі з выдзяленнем насенных участкаў у калгасах, у адпаведнасці з пастановай Соўнаркома СССР і ЦК ВКП(б) ад 10 лютага 1936 г., кожны калгас павінен поўнасцю забяспечыць сябе лепшым па якасці насенным матар'ялам, для чаго:

а) правесці не толькі ачыстку насенных участкаў ад пустазелля, але і старанную сартовую праполку шляхам выдалення з пасеваў прымешак іншых культур;

б) уборку насенных участкаў праводзіць у перыяд поўнай спеласці і закончыць не больш, чым за 3—4 рабочыя дні;

в) абмалот зярна з насенных участкаў правесці на асобных токах;

г) выдзеліць для захоўвання насення адасобленыя зернахавальнікі, забараніўшы скарыстанне іх для захоўвання харчовага і фуражнага зярна;

д) засыпку насенных фондаў праводзіць толькі пасля дасканалай іх ачысткі.

8. Устанавіць, што ўвесь абмалот зярна з насенных участкаў павінен быць скарыстан поўнасцю для забяспечання калгасаў і соўгасаў неабходным добраякасным насеннем для пасеву зярна пад ураджай 1937 года.

Забараніць пад страхам крымінальнай адказнасці скарыстанне зярна з насенных участкаў на якія-б там ні было патрэбы, акрамя насенных.

9. Пленум ЦК ВКП(б) папярэджвае Наркамзем СССР, партыйныя і совецкія арганізацыі аб недапушчальнасці паўтарэння меўшай месца ў мінулыя гады практыкі ігнаравання работ па догляду і ўборцы кукурузы, проса і сланечніку і абавязвае ў бягучым годзе:

а) правесці не менш двух поўных апрацовак кукурузы;

б) асобна выдзеліць участкі кукурузы для пікернай уборкі;

в) правесці двух-трохразовую ручную праполку проса да поўнага выдалення пустазелля;

г) правесці не менш трох поўных апрацовак сланечніку з тым, каб трэцяя апрацоўка была праведзена не пазней 1 ліпеня;

д) забяспечыць поўнае скарыстанне камбайнаў на ўборцы сланечніку з тым, каб не менш 90 проц. сланечніку ў калгасах, абслугоўваемых МТС, было ўбрана камбайнамі;

е) устанавіць, што ўборка сланечніку павінна быць праведзена не больш, чым за 20 дзён.

10. Пленум ЦК ВКП(б) прапануе ўсім дырэктарам МТС, праўленням калгасаў і дырэктарам соўгасаў арганізаваць старанную прыёмку якасці ўбраных палёў, найстражэйшы ўлік і ахову ўраджаю ад раскрадвання, для чаго:

а) устанавіць, што кожны дзень брыгадзір паляводчай брыгады па акту павінен прыняць убраныя палі з ацэнкай якасці іх уборкі. Лічыць поле ўбраным толькі пасля яго прыёмкі ад брыгадзіра старшынёй калгаса, а ў соўгасах—кіраўніком аддзялення ці фермай;

б) устанавіць абавязковае ўзважванне хлеба каля малатарні, на

калгасных перавалачных пунктах па ліку бункераў і пры прыёмцы хлеба ў свірны;

в) адказнасць за захаванасць зярна ўскласці: на токах па кожнай брыгадзе—на брыгадзіра, а па калгасу ў цэлым—на старшыню калгаса.

## Б. Бавоўна

Прапанаваць Наркамзему СССР, партыйным і совецкім арганізацыям бавоўняных раёнаў:

а) правесці не менш пяці поўных апрацовак бавоўняніку (культывацыя, матыжэнне, прапалка) і закончыць іх у тэрміны, устаноўленыя Наркамземам СССР; забяспечыць па кожнай МТС і соўгасу безумоўнае выкананне плана трактарных работ па культывацыі;

б) выкарыстоўваючы вопыт перадавікоў ураджайнасці, шырока прымяняць баразённы паліў асабліва да цвіцення і ўзмацніць паліў у перыяд цвіцення і плодаўтварэння;

в) падрыхтаваць да ўборкі бавоўны калгасны і соўгасны транспарт і пабудаваць калгасныя сушылкі для прасушкі вільготнай бавоўны к 15 верасня;

г) забяспечыць падрыхтоўку ў калгасах і соўгасах неабходнай колькасці следзінгаў для максімальнай механізацыі апошняга збору бавоўны (каробачак) з тым, каб к 1 снежня закончыць поўнасцю збор бавоўняніка і неадкладна разгарнуць зяблівае ворыва пад ураджай 1937 года.

## В. Буракі

1. Прапанаваць Наркамзему СССР, совецкім і партыйным органам:

а) шырока прымяніць правераную пяцісотніцамі падкормку цукровых буракоў як мясцовымі, так і мінеральнымі ўгнаеннямі і настойліва прадаўжаць збор мясцовых угнаенняў;

б) забяспечыць правядзенне да пачатку ўборкі зернавых не менш трох дадатковых міжрадных трактарных рыхленняў з тым, каб чацвертае рыхленне правесці ў перыяд уборкі зернавых і пятае пасля размыкання радкоў буракоў;

в) замацаваць за трактарнымі прапалачнымі агрэгатамі трактарыстаў і рулявых на ўвесь перыяд апрацоўкі буракоў без адрыву іх на іншыя работы.

2. У сувязі з масавым з'яўленнем доўганосіка і вялікай пагрозай буракам ад лугавога матылька і азімай соўкі, прапанаваць Наркамзему СССР, Наркамхарчпрому СССР і ўсім партыйным і совецкім арганізацыям бурачных раёнаў неаслабна весці барацьбу з сельскагаспадарчымі шкоднікамі буракоў з тым, каб адстаяць кожны гектар пасеваў. Пленум ЦК асабліва ўказвае на неабходнасць неаслабнай барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі і пасля таго, як іх небяспека міне для ўраджаю бягучага года.

3. Устанавіць на 1936 год як абавязковае заданне для машынатрактарных станцый і соўгасаў капанне буракапад'ёмнікамі не менш 90 проц. пасеўнай плошчы буракоў. Расставіць бурачныя звенні так, каб выбарка, абрэзка, ачыстка і вывазка буракоў праводзілася своечасова і без затрымкі.

4. Устанавіць тэрмін пачатку масавага капання цукровых буракоў:

| | |
|---|---|
| Па заходняй Сібіры. . . . . . . . . . . . | 5/IX |
| Па Азова-Чорнаморскаму, Саратаўскаму краях, Казахскай, Кіргізскай, Башкірскай АССР і Заходняй обласці. . . | 10/IX |
| Курскай і Маскоўскай абласцях . . . . . . . | 10—15І/X |
| Варонежскай обласці . . . . . . . . . | 15—20/IX |
| Украіне і ДВК . . . . . . . . . . | 15—20/IX |
| Грузіі і Арменіі . . . . . . . . . . . | 25/IX |

і закончыць капанне і возку цукровых буракоў у наступныя тэрміны:

| | Тэрмін сканчэння капання | Тэрмін сканчэння возкі |
|---|---|---|
| УССР, Азова-Чорнаморскі, Паўночна-Каўказскі краі, ССР Грузіі, ССР Арменіі, Кіргізская АССР і Казахская АССР . . . . . . | 1 лістапада | 10 лістапада |
| Курская, Варонежская, Маскоўская, Заходняя, Яраслаўская обласці і ДВК . . . . . . . . | 20 кастрычніка | 1 лістапада |
| Заходне-Сібірскі, Саратаўскі, Куйбышэўскі краі і Башкірская АССР | 1 кастрычніка | 15 кастрычніка |

Прапанаваць Наркамзему СССР і Наркамхарчпрому СССР скласці асобны графік капання і возкі буракоў у раёнах заводаў, якія будуць пушчаны да 20 верасня з тым, каб забяспечыць іх 5-дзённым запасам буракоў.

Арганізаваць капанне і возку цукровых буракоў так, каб накапаныя буракі былі вывезены на працягу верасня ў той-жа дзень, а ў кастрычніку на полі знаходзілася не больш 15—10-дзённага запасу накапаных буракоў.

5. Пленум ЦК зварачае асаблівую ўвагу на неабходнасць абавязковага захавання калгасамі ўсіх умоў кантрактацыйнага дагавору па ачыстцы і сартаванню буракоў і прапануе старшыням калгасаў забяспечыць выраб працейшых батварэзаў, снабжэнне ўсіх звенняў мерніцамі, рамонт і прыстасаванне вазоў для вывазкі буракоў, а таксама нашыўку кузаваў на аўтомашыны.

6. Прапанаваць Наркамзему СССР, краявым і абласным выканкомам устанавіць для кожнай МТС і кожнага калгаса канкрэтныя заданні па будаўніцтву і рамонгу дарог для вывазкі буракоў з тым, каб к пачатку ўборкі буракоў усе дарогі і масты ў напрамках перавозкі буракоў былі прыведзены ў поўны парадак і забяспечан пастаянны догляд іх на ўвесь перыяд возкі буракоў. Прапанаваць дырэктарам цукровых заводаў у гэтыя-ж тэрміны адрамантаваць і прывесці ў поўны парадак пад'язныя шляхі да заводаў.

## Г. Лён і каноплі

1. Пленум ЦК ВКП(б) прапануе Наркамзему СССР, партыйным і совецкім арганізацыям ільнаводчых абласцей і раёнаў дасканала падрыхтаваць і арганізаваць цераблепне лёну трактарнымі церабілкамі:

а) забяспечыць к 1 ліпеня г. г. поўны рамонт усіх ільнацерабільных машын.

Старшыні калгасаў павінны прыняць палі за 10 дзён да цвіцення лёну, правяраючы палі не па колькасці праведзеных прапалак, а па чыстаце палёў;

б) праверыць на працягу чэрвеня падрыхтаванасць кожнага вадзіцеля ільнацерабілкі да машыннай уборкі і замацаваць за кожным вадзіцелем шырокаазахватную ільнацерабілку і трактар;

в) не пазней, як за 10 дзён, устанавіць у натуры плошчы для машыннай уборкі лёну ў калгасах і ўручыць кожнаму ільнацерабільшчыку маршрут па скарыстанню ільнацерабілак.

2. Прапанаваць Наркамзему СССР і ўсім партыйным і совецкім арганізацыям забяспечыць:

а) правядзенне двух—трох прапалак засмечанага лёну, а на разрэджаных насеннаводчых пасевах таксама і міжрадную апрацоўку і адно-двухразовую прапалку канапель не пазней змыкання канапель у радках;

б) прымяненне ва ўсіх ільнаводчых калгасах падкормкі лёну мясцовымі мінеральнымі ўгнаеннямі;

в) правядзенне церабленне лёну на валакно ў калгасах у стадыі ранняй жоўтай спеласці і ў тэрмін не больш 8 дзён, не дапускаючы зацяжкі з уборкай лёну. Церабленне лёну насеннаводчых пасеваў правесці ў стадыі жоўтай спеласці, не дапускаючы заўчаснай уборкі, і ў тэрмін не больш 6 дзён;

г) поўную выбарку пасканi правесці на працягу 7—8 дзён у перыяд яе масавага цвіцення, а выбарку канапель на працягу 10 дзён у перыяд васковай спеласці насення сярэдняй часткі галовак;

д) абмалот галовак лёну поўнасцю закончыць за 6—8 дзён з дня цераблення і закончыць да пачатку уборкі ў кожным калгасе, а ў буйных калгасах у кожнай брыгадзе, пабудову крытых токаў і навесаў для абмалоту лёну.

Прапанаваць ільнаводчым раёнам разгарнуць у калгасах масавую вытворчасць ільнамалатарань з тым, каб ужо ў 1937 г. поўнасцю выцесніць ачос галовак валькамі і бочкамі;

е) рассціл (замочку) усёй ільнянай саломы па кожнай ільнаводчай вобласці, краю і рэспубліцы закончыць у жніўні, арганізаваўшы дасканалае сартаванне лёну па якасці пры яго ўборцы, рассціле, пад'ёме са спелішч і пераапрацоўцы;

ж) мочку канапель пачаць неадкладна пасля ўборкі і з такім разлікам, каб да наступлення марозаў канапляная салома была вынута з мочкі і прыступлена да яе апрацоўкі.

3. Прапанаваць наркаммясцпромам РСФСР, УССР і БССР, абласным і краявым выканкомам і соўнаркомам рэспублік ільнаводчых раёнаў забяспечыць безумоўнае выкананне ўстаноўленага для іх плана будаўніцтва і снабжэння калгасаў ільнатрапальнымі машынамі канструкцыі Антонава і Сергеева.

4. Прапанаваць Наркамзему СССР, партыйным і совецкім арганізацыям не пазней, як за 10 дзён перад уборкай, выдзеліць у кожным калгасе, акрамя насеннаводчых, лепшыя ўчасткі лёну і канапель, насенне з якіх у першую чаргу на працягу 10—15 дзён пасля церablення павінна быць засыпана ў насенныя фонды калгасаў у размеры, забяспечваючым план сяўбы будучага года, пры абавязковым выкананні плана здачы насення лёну і канапель па кантрактацыі.

## Д. Канюшына і люцэрна

Пленум ЦК ВКП(б) прапануе Наркамзему СССР, партыйным і совецкім арганізацыям:

а) правесці не пазней 1 ліпеня суцэльную праверку плошчаў і якасць пакінутых на насеннікі ўчасткаў канюшыны і люцэрны і забяспечыць замену дрэнных насеннікаў лепшымі па травастою ўчасткамі;

б) правесці ўборку насеннікаў канюшыны і люцэрны ў 7—10 дзён, не дапускаючы перастою канюшыны і страты насення пры ўборцы, і арганізаваць вязку скошанай канюшыны і люцэрны ў снапы з адвозкай іх для сушкі і абмалоту на токі;

в) правесці сушку снапоў насеннай канюшыны на токах і пад навесамі, прыстасаваўшы для сушкі неабходную колькасць вешак;

г) правесці абмалот канюшыны неадкладна пасля ўборкі і прасушкі з адначасовым правядзеннем работ па выціранню канюшыны і ачысткі насення з тым, каб гэтыя работы былі закончаны не пазней 20 дзён пасля касьбы;

д) арганізаваць засыпку кожным калгасам і аднаасобнай гаспадаркай у тэрмін не пазней 1 снежня гэтага года добраякаснага насення канюшыны ў насенныя фонды, забяспечыўшы ў першую чаргу выкананне плана здачы канюшыннага насення па кантрактацыі.

## Е. Бульба

Прапанаваць Наркамзему СССР, партыйным і совецкім арганізацыям:

а) правесці не менш двух дасканалых прапалак і двух-трох міжрадных апрацовак бульбяных палёў да поўнага знішчэння пустазелля;

б) правесці апрабацыю ўсіх сартовых пасеваў бульбы і сартовую прачыстку насенных участкаў;

в) не пазней 20 жніўня зацвердзіць планы скарыстання сартовай бульбы, якія прадугледжваюць правядзенне сортаабмену ўвосень у час уборкі;

г) услед за капаннем бульбы правесці абавязковае баранаванне з падборкай, а таксама пераворванне з паўторнай падборкай бульбы на ўсёй убранай плошчы.

## Ж. Сенакашэнне і сіласаванне кармоў

Пленум ЦК ВКП(б) зварачае асаблівую ўвагу Наркамзема СССР, Наркамсоўгасаў, партыйных і совецкіх арганізацый на неабходнасць не толькі поўнасцю забяспечыць грубымі і сакавітымі кармамі ўзрастаючую жывёлагадоўлю, але і стварыць страхавыя запасы кармоў.

У гэтых мэтах закончыць у бягучым годзе ўборку і стагаванне сена да пачатку масавай уборкі хлябоў і не пазней, чым у месячны тэрмін пасля пачатку сенакашэння. Ва ўсіх раёнах, дзе гэта магчыма па кліматычных умовах, правесці другія ўкосы. Для поўнага забяспечання грубымі кармамі жывёлагадоўлі арганізаваць збор саломы пасля ўборкі камбайнамі.

Адначасова з правядзеннем сенаўборкі правесці да пачатку ўборкі зернавых сіласаванне пустазелля, дзікарастучых траў, маладых чаротаў і ранніх сілосных пасеваў у размерах: у раёнах развядзення буракоў—не менш 35 проц., а ў астатніх раёнах—не менш 50 проц. гадавога плана.

II

# АБ ЗАГАТОЎКАХ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ ПРАДУКТАЎ

## А. Па зярну, сланечніку і рысу

Прапанаваць партыйным і совецкім арганізацыям, дырэктарам МТС і соўгасаў, старшыням калгасаў і Камітэту па загатоўках:

1. Арганізаваць здачу зярна, сланечніку і рысу дзяржаве:

а) па пастаўках—у тэрміны, устаноўленыя пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 27 лютага 1936 года;

б) па хлебаздачы соўгасамі—не пазней 15 верасня па Узбекскай, Туркменскай, Таджыкскай, Азербайджанскай, Армянскай і Грузінскай ССР, Крымскай АССР, Одэскай і Днепрапетроўскай абласцях, Паўночна-Каўказскаму краю і Паўднёвай вобласці Казахскай АССР;

па ўсіх астатніх краях, абласцях і рэспубліках, а таксама па кукурузе па ўсіх абласцях, краях і рэспубліках—не пазней 1 лістапада;

в) па звароту пазык і натураплаце работ МТС—у тэрміны, устаноўленыя для паставак;

г) па гарнцаваму збору—60 проц. гадавога плана да 31 снежня 1936 года і астатнія 40 проц. у першым паўгоддзі 1937 года.

2. Забяспечыць здачу на загатоўчыя пункты калгасамі і соўгасамі зусім добраякаснага зярна, сланечніку і рысу, для чаго арганізаваць дасканалую ачыстку зярна, у асаблівасці паступаючага ад камбайнаў.

3. Папярэдзіць дырэктароў і начальнікаў палітаддзелаў соўгасаў аб іх асаблівай адказнасці за выкананне ўстаноўленых для іх планаў здачы дзяржаве зярна, сланечніку і рысу, а таксама за безумоўную здачу дзяржаве ўсяго лішку зярна, сланечніку і рысу, які можа аказацца ў соўгасах пасля поўнага выканання плана здачы дзяржаве і засыпкі насенных, фуражных і харчовых фондаў.

4. Устанавіць адлічэнні для выдачы калгаснікам авансаў, для корму жывёлы і іншых унутрыгаспадарчых патрэб калгасаў у размерах:

па зярну—10 проц. ад фактычна намалочанага зярна, выключаючы абмалот ад насенных участкаў, з павышэннем да 15 проц. для перадавых, добра працуючых калгасаў;

па сланечніку—5 проц., па рысу—10 проц. ад колькасці зданага на заготпункты сланечніку і рысу.

5. Выходзячы з таго, што выкананне абавязацельстваў па здачы зярна дзяржаве з'яўляецца першачарговым абавязкам кожнага калгаса і кожнай аднаасобнай гаспадаркі і павінна быць праведзена з першых абмалотаў, забараніць утварэнне ў калгасах якіх-небудзь іншых фондаў, акрамя насенных з абмалоту насенных участкаў, да выканання поўнасцю абавязацельстваў здачы зярна, сланечніку і рысу дзяржаве па пастаўках, звароту пазык і па натураплаце работ МТС.

Устанавіць штодзённы нагляд за тым, каб здача зярна па пастаў-

ках калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі праводзілася ў дакладнай адпаведнасці з уручанымі абавязацельствамі, а іменна: пшаніца, жыта, бабовыя і кукуруза ў размерах, устаноўленых абавязацельствамі па кожнай у паасобку з гэтых культур, а па іншых зернавых культурах у размерах, устаноўленых абавязацельствамі для ўсіх гэтых культур, з правам здачы любой культурай па выбару калгаса.

6. Спыніць калгасны і індывідуальна-сялянскі гандаль хлебам і сланечнікам, а таксама закупку зярна і сланечніку спажыўкааперацыяй па Таджыкістану, Узбекістану, Туркменіі, Паўднёвай абласці Казахстана, Одэскай і Днепрапетроўскай абласцях, Крыму і Закаўказзю з 20 чэрвеня 1936 года, а па ўсіх астатніх абласцях, краях і рэспубліках (за выключэннем ДВК і ўсходняй часткі Усходне-Сібірскага краю)—з 10 ліпеня.

Пацвердзіць, што калгасны і індывідуальна-сялянскі гандаль хлебам, сланечнікам і рысам будзе дазволен толькі пасля выканання краем, абласцю і рэспублікай у цэлым устаноўленага плана паставак зярна, сланечніку і рысу, звароту пазык і здачы натураплаты МТС, а таксама засыпкі калгасамі поўнасцю насенных і мінімальных фуражных фондаў.

## Б. Па бавоўне

7. Прапанаваць партыйным і совецкім арганізацыям бавоўняных раёнаў:

а) забяспечыць выкананне поўнасцю кожным у паасобку калгасам і аднаасобнай гаспадаркай заключаных кантрактацыйных дагавораў па здачы бавоўны дзяржаве;

б) устанавіць спецыяльны нагляд за тым, каб абумоўлены кантрактацыйнымі дагаворамі водпуск бавоўназдатчыкам масла, макухі і ваты-лінтэра рабіўся ў размерах, тэрміны і па цэнах у дакладнай адпаведнасці з кантрактацыйнымі дагаварамі.

8. Прапанаваць Наркамлегпрому СССР праверыць і прывесці ў поўную гатоўнасць бавоўназагатоўчы апарат, рашуча перасякаць меўшыя месца ў мінулым годзе факты, калі загатоўчыя пункты, у парушэнне закона, дапускалі прыёмку бавоўны пад захавальныя распіскі, прымалі бавоўну высокай вільготнасці, чым нанеслі страту дзяржаве.

9. Папярэдзіць дырэктароў бавоўнаачышчальных трэстаў і заводаў і загадчыкаў загатоўчымі пунктамі, што іх абавязкам з'яўляецца:

а) так арганізаваць прыёмку і хаванне бавоўны, каб ні ў якім разе не дапускаць пагоршання якасці, страт і псавання бавоўны на заводах і загатоўчых пунктах, для чаго арганізаваць пільную штодзенную праверку становішча прынятай бавоўны;

б) рабіць прыёмку бавоўны ў суровай адпаведнасці з кандыцыямі па якасці, устаноўленымі ў кантрактацыйных дагаворах.

10. а) Абавязаць НКЛегпром СССР на ўсіх бавоўнаачышчальных заводах абсталяваць ворахаачышчальнікі з тым, каб уся паступіўшая па загатоўках бавоўна ў каробачках была поўнасцю ачышчана без страт.

б) На працягу 1936—37 года поўнасцю забяспечыць сушылкамі ўсе бавоўнаачышчальныя заводы.

## В. Па ільну, каноплях, кенафу і канатніку

11. Першачарговым абавязкам кожнага калгаса, калгасніка і аднаасобніка з'яўляецца выкананне маючага сілу закона кантрактацыйнага дагавору па здачы дзяржаве лёну, пянькі і насення поўнасцю ў размерах і ў тэрміны, устаноўленыя кантрактацыйным дагаворам.

Звярнуць асаблівую ўвагу мясцовых партыйных і совецкіх арганізацый на неабходнасць забяспечыць здачу насення лёну і канапель па кантрактацыі і звароту ссуд неадкладна пасля абмалоту, дабіваючыся не толькі выканання, але і перавыканання ўстаноўленага плана загатовак насення лёну і канапель.

12. Прапанаваць Наркамлегпрому СССР:

а) забяспечыць пераапрацоўку ўсіх астаткаў сцяблоў кенафу, паўднёвых канапель і канатніка ўраджаю мінулых гадоў не пазней 1 кастрычніка 1936 г.;

б) арганізаваць работу заводаў па першапачатковай апрацоўцы кенафу, паўднёвых канапель і канатніку такім чынам, каб увесь збор гэтых культур пераапрацаваць поўнасцю да пачатку загатовак ураджаю будучага года, дабіўшыся павелічэння выхадаў доўгага валакна, а таксама павелічэння выпрацоўкі валакна;

в) не дапускаць паўтарэння выпадкаў адмаўлення заводаў ад прыёмкі дастаўляемых калгасамі сцяблоў кенафу, паўднёвых канапель і канатніку і забяспечыць прыёмку заводамі ўсёй падвазімай калгасамі сыравіны.

## Г. Па табаках і махорцы

13. Устанавіць, што кантрактацыйны дагавор па табаку і махорцы лічыцца выкананым калгасам і аднаасобнай гаспадаркай толькі пры ўмове здачы ўстаноўленых дагаворам колькасці і асартыменту, а выдача прэмій-надбавак за перавыкананне кантрактацыйнага дагавора праводзіцца пры ўмове здачы табакоў і махоркі на суму, якая перавышае кошт, абумоўлены дагаворам па кантрактацыі.

14. Устанавіць гранічныя тэрміны загатовак:

а) жоўтых табакоў па ССР Грузіі і Азова-Чорнаморскаму краю—15 сакавіка, а па ўсіх астатніх раёнах СССР—15 лютага 1937 года;

б) махоркі—па Заходне-Сібірскаму, Усходне-Сібірскаму і Краснаярскаму краях і Омскай абласці—31 снежня, па ўсіх астатніх абласцях, краях і рэспубліках—1 снежня 1936 года.

15. Прапанаваць Наркамхарчпрому СССР забяспечыць вызначэнне вільготнасці прымаемай махорачнай сыравіны на заготпунктах выключна лабараторным шляхам.

## Д. Па бульбе і плодагародніне

16. У сувязі з тым, што абавязацельствы па пастаўках дзяржаве бульбы павінны быць выкананы кожным у паасобку калгасам, калгаснікам і аднаасобнай гаспадаркай поўнасцю да наступлення халадоў, прапанаваць раённым выканкомам зацвердзіць па кожнаму калгасу і сельсовету план капання і падвозкі бульбы на загатоўчыя пункты, спіртавыя і крухмалапатачныя заводы, устанавіўшы пачатак масавага капання бульбы не пазней 20—25 верасня.

17. Да выканання ўстаноўленых для калгасаў, калгаснікаў і аднаасобных гаспадарак абавязацельстваў па здачы бульбы дзяржаве забараніць калгасны і індывідуальна-сялянскі гандаль бульбай, устанавіўшы, што пасля выканання кожным у паасобку калгасам і калгаснікам абавязацельстваў па здачы дзяржаве бульбы яму дазваляецца продаж бульбы дзяржаўным і кааперацыйным арганізацыям, а калгасны і індывідуальна-сялянскі гандаль бульбай дапускаецца пасля выканання краем, областцю і рэспублікай у цэлым устаноўленага плана здачы бульбы.

18. Папярэдзіць кіраўнікоў Саюззаготплодагародніны і Цэнтраплодагародніны і загадчыкаў загатоўчых пунктаў аб іх персанальнай адказнасці за забяспечанне поўнай захаванасці ўсёй загатоўленай сталовай бульбы, асабліва бульбы, заложанай на зімовае хаванне.

19. Адзначаючы празмерна высокія расходы па загатоўцы, захоўванню і гандлю бульбай і пладамі, даручыць Соўнаркому СССР прыняць меры па максімальнаму скарачэнню гэтых расходаў у прамысловых цэнтрах.

20. Пленум лічыць недапушчальным, што ўзросшая прадукцыя гародніны соўгасаў і калгасаў не поўнасцю скарыстана совецкім гандлем для карэннага палепшання якасці і асартыменту гародніны, і прапануе загатоўчым і гандлюючым арганізацыям і кансервовай прамысловасці:

а) забяспечыць выкананне поўнасцю плана загатовак гародніны па асобных культурах, асабліва памідор, агуркоў, цыбулі і морквы;

б) прымаць па дагаворах контрактацыі выключна добраякасную гародніну, плады і ягады;

в) забяспечыць старанны нагляд за станам гародніны, пладоў і ягад пры ўпакоўцы, перавозках, захоўванні і ліквідаваць псаванне і брак плодагародніны.

21. Пленум ЦК абавязвае загатоўшчыкаў і кансервовую прамысловасць арганізаваць у 1936 годзе загатоўкі гародніны, пладоў і ягад такім чынам, каб забяспечыць насельніцтва ў поўным дастатку добраякаснымі пладамі і гароднінай.

## Е. Па канюшыне

22. Прапанаваць Камітэту па Загатоўках арганізаваць загатоўку канюшыны такім чынам, каб забяспечыць поўнасцю выкананне плана загатовак канюшыны, зацверджанага пастановай СНК і ЦК ВКП(б) ад 31 сакавіка 1936 года ў размеры 107 тысяч цэнтнераў.

Арганізаваць ачыстку і захоўванне прынятага па загатоўках насення канюшыны без папсавання.

## Ж. Па натураплаце работ МТС

23. Прапанаваць партыйным і совецкім арганізацыям і дырэктарам МТС забяспечыць:

а) к 1 ліпеня—поўны і дакладны ўлік праведзеных МТС работ па кожнаму ў паасобку калгасу, правёўшы на працягу чэрвеня зверку ўліку работ па актах, якія ёсць у МТС і калгасах;

б) складанне кожныя 5 дзён у перыяд уборкі і абмалоту зернавых і алейных культур, капання бульбы, церабления лёну і канапель су-

месна з брыгадзірамі і старшынямі калгасаў актаў аб праведзеных работах па ўборцы, капанню, абмалоту і церабленню;

в) забяспечыць выпіску і ўручэнне калгасу рахункаў за праведзеныя МТС работы не пазней 5 дзён пасля аднясення калгаса да той ці іншай групы па ўраджайнасці, а за работу па абмалоту зернавых і алейных культур, уборцы камбайнамі, капанню бульбы, цераблению лёну і канапель—праз кожныя 5 дзён з пачатку гэтых работ;

г) забяспечыць у калгасах, абслугоўваемых МТС, пераважванне вагаўшчыкамі МТС усяго зярна, атрымліваемага ад абмалоту і ўборкі камбайнамі.

24. Для палепшання ўліку работ МТС і забяспечання правільных разлікаў паміж МТС і калгасамі, устанавіць у кожнай МТС пасаду Нам. дырэктара па разліках з калгасамі.

25. Прапанаваць дзяржаўным міжраённым камісіям па ўраджайнасці, кіруючыся ўстаноўленым для 1935 года парадкам аднясення калгасаў да той ці іншай групы па ўраджайнасці, закончыць аднясенне калгасаў да груп па ўраджайнасці:

па коласавых культурах—па Узбекскай, Туркменскай, Таджыкскай, Азербайджанскай, Армянскай і Грузінскай, Крымскай рэспубліках—к 20 ліпеня; па астатніх паўднёвых раёнах—к 10 жніўня; па ўсіх астатніх абласцях, краях і рэспубліках—к 5 верасня.

26. Лічачы недастатковым абслугоўванне МТС калгасаў па ўборцы бульбы, лёну, канапель і алейных культур,—прапанаваць Наркамзему СССР і дырэктарам МТС забяспечыць выкананне планаў работ па апрацоўцы і ўборцы гэтых культур нароўні з зернавымі культурамі, скарыстоўваючы машыны МТС для дапамогі калгасам па арганізацыі лепшай уборкі і першапачатковай пераапрацоўкі лёну, у прыватнасці ўсе ільнатрапальныя машыны Сергеева сканцэнтраваць у МТС для абслугоўвання калгасаў.

## 3. Па прыёмцы, захоўванню і перавозках

27. Прапанаваць Камітэту па Загатоўках, Наркамлегпрому, Наркамхарчпрому, Наркамунутгандлю і Наркамзему СССР:

а) да пачатку загатовак правесці добраякасны рамонт складаў, іх дэзінфекцыю, снабжэнне загатоўчых пунктаў неабходным інвентаром з тым, каб забяспечыць бесперабойную прыёмку ўсіх паступаючых па загатоўках сельскагаспадарчых прадуктаў і захоўванне іх без страт;

б) закончыць будаўніцтва новых складаў па плану 1936 года ў наступныя тэрміны:

па зярну—ёмкасцю не менш 55 млн. пудоў к 1 ліпеня, 35 млн. пудоў—к 1 жніўня і ўсю астатнюю ёмкасць—к 1 верасня.

па плодагародніне—к 1 жніўня.

па бавоўне—складскую ёмкасць—14 млн. пудоў і 2 тыс. бунтовых пляцовак—к 15 верасня.

па ільну і табаку—к 1 кастрычніка;

в) закончыць к 1 верасня будаўніцтва 15 новых элеватараў і расшырэнне 80 элеватараў;

г) закончыць будаўніцтва сушылак:

па зярну—75 сушылак к 1 жніўня, 150 сушылак—к 1 верасня, 50 сушылак—к 1 кастрычніка. Астатнія сушылкі—к 1 снежня.

Па бавоўне—8 заводскіх сушылак—к 15 кастрычніка;

д) закончыць у калгасах будаўніцтва сараяў для сушкі табака к 1 верасня.

28. Лічыць, што дасягнутыя загатоўчымі пунктамі першыя поспехі ў галіне барацьбы са стратамі зярна з'яўляюцца зусім недастатковымі, што на многіх загатоўчых пунктах усё яшчэ ёсць вялікія страты зярна і заражанасць зярна, якое захоўваецца на загатоўчых пунктах, кляшчом. Усё гэта патрабуе ад работнікаў загатоўчых пунктаў штодзеннай упартай работы па ліквідацыі страт і ачысткі зярна ад шкоднікаў.

29. Увесці на перыяд уборкі прагрэсіўна-здзельную сістэму аплаты працы шофераў у МТС і соўгасах у прамой залежнасці ад колькасці перавезенага грузу і адлегласці. Абавязаць Наркамзем, Наркамсоўгасаў і Наркамхарчпром СССР у пяцідзенны тэрмін устанавіць нормы выпрацоўкі і здзельныя расцэнкі на грузавых аўтамашынах па перавозцы грузаў. Устанавіць, што за кожную перавезеную тону грузу звыш устаноўленых норм, пры добрым стане аўтамашыны, шофер атрымлівае прэмію-надбаўку ў размеры 25 проц. ад устаноўленых расцэнак і пры выкананні плана перавозак—прэмію ў 25 працантаў ад эканоміі гаручага і гумы. За прастоі аўтапарку ў час уборачных работ не рабіць аплаты шоферам.

30. Узрастаючыя з года ў год дзяржаўныя запасы зярна, далейшае павелічэнне іх у сувязі з ажыццяўленнем задачы давядзення збору зярна ў краіне да 7—8 мільярдаў пудоў патрабуе правядзення тэхнічнай рэканструкцыі складской гаспадаркі для забяспечання працяглага захоўвання і лепшай захаванасці запасаў зярна.

* * *

Пленум ЦК ВКП(б) напамінае ўсім партыйным і совецкім арганізацыям, што паспяховае перамаганне труднасцей позняй вясны з'яўляецца толькі першым крокам барацьбы за высокі ўраджай у 1936 годзе, за далейшы рост заможнасці калгаснікаў, за новы ўздым сельскай гаспадаркі.

Пленум папярэджвае совецкія і партыйныя арганізацыі аб неабходнасці рашучага перамагання настрояў самасупакоенасці, захаплення дасягнутымі поспехамі і прытуплення ўвагі да падрыўной дзейнасці астаткаў разбітага класавага ворага.

Барацьба за высокі ўраджай як зернавых, так і тэхнічных культур, за дасканалую праполку і культывацыю, ачыстку палёў ад пустазелля і сельскагаспадарчых шкоднікаў, узорная работа камбайнаў і своечасовая ўборка ўраджаю, выкананне поўнасцю і ў тэрмін абавязацельстваў перад дзяржавай па здачы сельскагаспадарчых прадуктаў павінны стаць у цэнтры ўвагі ўсіх партыйных і совецкіх арганізацый і забяспечыць у 1936 годзе багацце прадуктаў сельскай гаспадаркі і новы ўздым заможнасці калгаснікаў.

# Аб выніках чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б)

*Рэзалюцыя чэрвеньскага пленума ЦК КП(б)Б*

1. Заслухаўшы і абгаварыўшы даклад тав. Гікало аб выніках чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б), пленум ЦК КП(б)Б цалкам і поўнасцю ўхваляе ўсе рашэнні пленума ЦК ВКП(б) і абавязвае партарганізацыі КП(б)Б пакласці гэтыя рашэнні ў аснову ўсёй сваёй далейшай работы.

Праект новай Канстытуцыі Савецкага Саюза, распрацаваны па ініцыятыве і пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна, падводзіць вынікі небывалых у гісторыі заваяванняў рабочых і сялян Савецкага Саюза і з'яўляецца выражэннем канчатковага таржаства сацыялізма ў нашай краіне.

Сталінская Канстытуцыя—факт сусветна-гістарычнага значэння. Яна з'яўляецца самай дэмакратычнай Канстытуцыяй ва ўсёй гісторыі чалавецтва. Яна з'яўляецца кодэксам неадлучных і непарушных заваяванняў працоўных мас, яркім доказам магутнага ўздыму і росквіту творчых сіл усіх народаў, насяляючых Савецкі Саюз. У ёй вызначаны і ўстаноўлены асновы дзяржаўнага ладу перамогшага сацыялізма. У ёй запісана тое, што моцна заваявана працоўнымі СССР пад кіраўніцтвам ВКП(б), пад кіраўніцтвам геніяў чалавецтва—Леніна і Сталіна.

Новая Канстытуцыя забяспечвае далейшы бурны рост сацыялізма і комунізма ў нашай краіне, небывалы яшчэ ў гісторыі ўздым культуры ў нашай сацыялістычнай дзяржаве і самы шырокі ўдзел у кіраўніцтве дзяржавай усіх працоўных Савецкага Саюза.

У новай Канстытуцыі Савецкага Саюза працоўныя ўсяго свету атрымаюць магутную зброю ў барацьбе з капіталізмам, у барацьбе з фашызмам, які знішчае апошнія рэшткі буржуазнай дэмакратыі.

2. Пленум ЦК КП(б)Б асабліва падкрэслівае, што новая Канстытуцыя з'яўляецца выражэннем таржаства і перамогі ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, якая прывяла да росквіту гаспадаркі і культуры раней адсталых нацый і народнасцей Савецкага Саюза, і забяспечвае далейшае разгортванне савецкай дэмакратыі, выражаючай брацкае садружаства ўсіх нацыянальнасцей, насяляючых СССР.

Рашэнне чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б), зацвердзіўшае сталінскую Канстытуцыю, мае велізарнейшае значэнне для беларускага народу. Беларускі народ, які вякамі прыгнятаўся і ніколі не ведаў сваёй дзяржаўнасці, толькі ў рэзультаце вялікай пролетарскай сацыялістычнай рэволюцыі атрымаў магчымасць стварыць сваю дзяржаўнасць. Пад непасрэдным кіраўніцтвам вялікага генія чалавецтва таварыша Сталіна ствaралася Комуністычная партыя большэвікоў Бе-

ларусі, фармаваліся органы ўлады Совецкай Беларусі; пад яго-ж непасрэдным вадзіцельствам расцвіла беларуская совецкая культура, вырасла і ўмацавалася прамысловасць.

Распыленая, раздробленая сялянская гаспадарка ўступіла сваё месца тэхнічна першакласна ўзброенай соцыялістычнай сельскай гаспадарцы, а галоўнае, з асяроддзя беларускага народу ўзняліся многія тысячы новых партыйных і непартыйных большэвікоў, якія ўзброены ведамі сваёй справы і самааддана змагаюцца за вялікую справу Леніна—Сталіна. Толькі дзякуючы брацкай дапамозе пролетарыяў Совецкага Саюза і ў першую чаргу рускага пролетарыята, Беларусь з раней адсталай, ніграматнай і жабрацкай ускраіны царскай Расіі ператварылася ў квітнеючую перадавую рэспубліку вялікай краіны Советаў.

Ніколі не забудзе ўвесь беларускі народ, уся КП(б)Б таго, што дала яму вялікая пролетарская рэволюцыя і большэвіцкая партыя, імя вялікага Леніна, імя мудрага, любімага друга і правадыра ўсіх працоўных таварыша Сталіна—любімейшыя імёны кожнага труженіка соцыялістычнай ордэнаноснай Беларусі.

Контррэволюцыйныя нацдэмы, якія прадавалі беларускі народ гуртам і ў раздроб царскім апрычнікам, польскім панам, нямецкім генералам, рускім белагвардзейцам і для якіх нацыянальны сцяг прышпільваўся да справы толькі для ашукання мас, «як папулярны сцяг, зручны для прыкрыцця контррэволюцыйных замыслаў нацыянальнай буржуазіі»—разбіты дашчэнту.

Сталінская Канстытуцыя натхняе беларускі народ на новы ўздым, на новыя геройствы ў барацьбе за перамогу комунізма.

3. Пленум ЦК КП(б)Б прапануе ўсім партыйным арганізацыям БССР разгарнуць самае шырокае абмеркаванне і глыбокае вывучэнне праекта новай Канстытуцыі сярод працоўных Беларусі.

Пленум ЦК КП(б)Б даручае ўсім партыйным і совецкім арганізацыям БССР забяспечыць дакладны ўлік усіх прапаноў, дадаткаў, змен, што ўносяцца на сходах працоўнымі пры ўсенародным абмеркаванні сталінскай Канстытуцыі. У прыватнасці пленум даручае бюро ЦК КП(б)Б:

а) накіраваць увесь кіруючы актыў рэспублікі, акруг і раёнаў для выступлення з растлумачэннем новай сталінскай Канстытуцыі непасрэдна на прадпрыемствах, у калгасах, соўгасах, установах, сярод аднаасобнікаў, на сходах жактаў і т. д.;

б) даручыць бюро ЦК забяспечыць дакладны пераклад на беларускую мову тэксту Канстытуцыі і шырока распаўсюдзіць яго па рэспубліцы;

в) ухваліць рашэнне бюро ЦК аб стварэнні канстытуцыйнай камісіі ў складзе: тт. Галадзеда (старшыня), Гікало, Валковіча, Чарвякова, Убарэвіча, Буліна, Саакяна, Рыскіна, Леплеўскага, Кавальчука, Сурта, Стэрніна, Бенека, Картукова, Хадасевіча, Задзернюка, Кудзельскага, Каліны, Кудзелька, Дзьякава, Кузьміна, Пушчына (Лепель), Жолудава (Слуцк), Свірыдава (Полацк), Дубіна (Мазыр), Жуковіча (Менск), Малашонка і Стакуна (Гомель), Эстрына і Жураўлёва (Віцебск) па распрацоўцы праекта Канстытуцыі БССР на падставе праекта Канстытуцыі СССР;

г) пленум ЦК КП(б)Б асабліва падкрэслівае, што пытанні падрыхтоўкі да склікання надыходзячых усесаюзнага і ўсебеларускага з'ездаў советаў павінны стаць у цэнтры ўвагі ўсіх партыйных і совец-

кіх арганізацый, і даручае бюро ЦК, акруткомам, райкомам партыі правесці шырокую падрыхтоўку да склікання як усесаюзнага, так і ўсебеларускага з'ездаў советаў.

4. Узрастаючая магутнасць нашай совецкай дзяржавы ўзмацняе супраціўленне рэштак паміраючых класаў. Аб гэтым сведчыць той факт, што пасля праверкі партдакументаў у Беларусі былі ўскрыты факты актыўнай дзейнасці агідных і залгаўшыхся падонкаў белагвардзейскай зіноўеўска-трацкісцкай групы, якая з'яўляецца перадавым атрадам міжнароднай контррэволюцыі.

Пленум ЦК КП(б)Б з асаблівай сілай падкрэслівае, што справа актыўнага контррэволюцыйнага трацкіста Розенблюма, які здолеў пралезці на кіруючую работу ў ЦО КП(б)Б—«Звязду» і на працягу доўгага часу вёў контррэволюцыйную трацкісцкую работу, не будучы выкрытым нават у час праверкі партдакументаў,—сведчыць аб усё яшчэ недастатковай пільнасці партарганізацыі КП(б)Б. Справа белагвардзейскага паследка Розенблюма паказвае, што вывучэнне і веданне людзей кіруючымі работнікамі партыйных арганізацый застаецца ўсё яшчэ нездавальняючым, і гэта скарыстоўваецца ворагамі партыі і дзяржавы для пранікнення ў партыйны і совецкі апарат і вядзення контррэволюцыйнай работы.

Пленум ЦК абавязвае ўсе партарганізацыі КП(б)Б зрабіць з гэтага факту ўсе неабходныя вывады, мабілізаваўшы комуністаў на далейшае павышэнне пільнасці і забяспечанне сапраўды большэвіцкага вывучэння і ведання людзей.

Гэтыя факты прымушаюць партарганізацыю Беларусі, якая з'яўляецца прымежнай, асабліва рашуча змагацца з элементамі зазнайства, благадушша і самасупакоенасці. «Не ўбаюкваць трэба партыю, а развіваць у ёй пільнасць, не ўсыпляць яе, а трымаць у стане баявой гатоўнасці, не раззбройваць, а ўзбройваць, не дэмабілізоўваць, а трымаць яе ў стане мабілізацыі для ажыццяўлення другой пяцігодкі» **(Сталін).**

Пленум ЦК падкрэслівае, што рэволюцыйная пільнасць павінна знаходзіць сваё выяўленне не ў платанічных прамовах і закліках да пільнасці, а ў канкрэтным вывучэнні людзей, ва ўменні распазнаваць ворага, як-бы ўмела ён ні маскаваўся, побач з уважлівымі і чулымі адносінамі да працоўных.

Пленум ЦК КП(б)Б упэўнен, што партарганізацыя Беларусі поўнасцю выканае ўказанні таварыша Сталіна па пытаннях праверкі і абмену партдакументаў, выправіць паасобныя дапушчаныя памылкі і на падставе шырокай мабілізацыі масы вакол новай сталінскай Канстытуцыі, вакол усіх рашэнняў чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) узніме на яшчэ больш высокую ступень узровень усёй партыйна-масавай работы, узорна правядзе асеннія сельскагаспадарчыя работы, а таксама загатоўкі і даб'ецца таго, каб БССР па гэтых работах аказалася сярод перадавых рэспублік, краёў і абласцей Совецкага Саюза.

Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што ў час праверкі партыйных дакументаў у КП(б)Б меліся факты агульных адносін да комуністаў, у выніку чаго меліся выпадкі выключэння з партыі адданых партыі людзей.

Пленум даручае бюро ЦК КП(б)Б і ўсім партыйным арганізацыям забяспечыць дакладнае выкананне ўказанняў таварыша Сталіна аб уважлівым і чулым падыходзе да прагляду апеляцый выключаных

з партыі ў час праверкі і абмену партыйных дакументаў, вырашаючы ў кожным паасобным выпадку пытанне аб магчымасці пераводу ў кандыдаты, або спачуваючыя тых з выключаных, якія хоць і мелі памылкі за час свайго знаходжання ў партыі, але на практыцы паказалі сябе людзьмі адданымі справе партыі.

Разам з тым пленум ЦК КП(б)Б асабліва падкрэслівае неабходнасць уважлівых і чулых адносін да людзей, якія аказаліся выключанымі з партыі, як не могучыя насіць высокага звання члена ВКП(б), але сумленна выконваюць доўг совецкага грамадзяніна, рашуча змагаючыся з фактамі непрадастаўлення ім работы, звальнення членаў іх сем'яў і т. д.

Пленум ЦК КП(б)Б зварачае ўвагу ўсіх партыйных арганізацый на ўсё яшчэ нездавальняючую работу партыйных арганізацый КП(б)Б па падрыхтоўцы да новага прыёму ў партыю, выяўленую ў працэсе абмену партыйных дакументаў. Абавязаць усе партыйныя арганізацыі забяспечыць самую дакладную падрыхтоўку да новага прыёму ў партыю, шырока разгарнуць работу са спачуваючымі, выхаванне іх у духу большэвіцкай дысцыпліны і арганізаванасці, узняцце іх ідэйнага ўзроўню; узмацніць работу з комсамолам і сярод беспартыйнага актыва.

Пленум ЦК КП(б)Б указвае партыйным арганізацыям на неабходнасць дакладнага выканання рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб строгім індывідуальным прыёме ў партыю, забяспечваючы прыём у партыю лепшых людзей са стаханаўцаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

Пад кіраўніцтвам ленінска-сталінскага ЦК ВКП(б), пад кіраўніцтвам вялікага правадыра, настаўніка, друга ўсіх працоўных, генія працоўнага чалавецтва таварыша Сталіна, беларуская партыйная арганізацыя павядзе рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных Беларусі наперад да новых перамог.

# Аб уборцы ўраджаю і сельскагаспадарчых загатоўках

*Рэзалюцыя чэрвеньскага пленума ЦК КП(б)Б*

## 1. АБ УБОРЦЫ ЎРАДЖАЮ

Пастанова чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) «Аб уборцы ўраджаю і сельскагаспадарчых загатоўках» з'яўляецца магутнай зброяй далейшага ўздыму соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, баявой праграмай упартай і нястомнай работы ўсіх партыйных і совецкіх арганізацый над вырашэннем пастаўленых таварышом Сталіным задач—дабіцца ў бліжэйшыя 3—4 гады 7—8 мільярдаў пудоў зярна.

Выключная ўвага соцыялістычнаму будаўніцтву БССР з боку ЦК ВКП(б) і асабістыя клопаты таварыша Сталіна, дапамога, аказаная калгасам БССР праз машынатрактарныя станцыі, магутны ўздым стаханаўскага руху і соцыялістычнага спаборніцтва ў калгасах забяспечылі правядзенне сяўбы па БССР у раннія тэрміны і якасна лепш, чым ў мінулыя гады, не гледзячы на спазненне вясны ў гэтым годзе.

Беларусь уступіла ў найбольш адказны перыяд барацьбы за высокі ўраджай—перыяд догляду пасеваў, падрыхтоўкі да ўборкі і правядзення самой уборкі. Усёй папярэдняй работай, пры наяўнасці маючыхся магчымасцей, забяспечаны ўсе ўмовы для атрымання высокага ўраджаю. Колькасць машынатрактарных станцый па БССР у 1936 г. павялічваецца на 23 адзінкі. Трактарны парк МТС узброен новымі машынамі, маючымі агульным лікам 39.400 конскіх сіл; МТС атрымаюць 300 гусенічных трактараў, 1 600 калёсных і 100 трактараў «Універсал» для палепшання апрацоўкі тэхнічных культур.

Упершыню ў калгасах БССР будуць працаваць на ўборцы да 200 камбайнаў. Выхаваныя праз МТС і соўгасы механізатарскія кадры павялічылі вытворчасць трактараў і якасць трактарных работ. У бягучым годзе ў час пасеўнай кампаніі на 1 умоўны 15-сілавы трактар, у пераводзе ўсіх работ на мяккае ворыва, зроблена 130 гектараў замест 85 гектараў у мінулым годзе.

Аднак, пленум ЦК КП(б)Б перасцерагае супроць настрою самасупакоенасці і захаплення поспехамі вясны, памятаючы, што атрыманне высокага ўраджаю залежыць ад усёй далейшай работы па догляду пасеваў, па правядзенню своечасовай уборкі без страт.

Пры ўмовах высокай забяспечанасці сродкамі механізацыі як ніколі для БССР востра стаіць пытанне ўкаранення механізацыі ва ўсе галіны сельскагаспадарчай вытворчасці.

«Галоўная і рашаючая ўмова забяспечання высокага ўраджаю заключаецца цяпер у тым, каб, ламаючы супраціўленне паасобных работнікаў справе моцнага ўкаранення механізацыі ва ўсе галіны сельскагаспадарчай вытворчасці, зрабіць вопыт і дасягненні перадавых людзей соцыялістычнага земляробства, ауладаўшых машынай, тэхнікай апрацоўкі і ўборкі, набыткам усёй масы работнікаў калгасаў, соўгасаў і МТС» (з пастановы пленума ЦК ВКП(б)).

Пленум ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

## А. Аб доглядзе пасеваў і ўборцы ўраджаю зернавых культур

1. Звярнуць асаблівую ўвагу партыйных і савецкіх арганізацый на абавязковае правядзенне дасканалай праполкі яравых зернавых, улічваючы, што ў радзе месц Беларусі з такім пустазеллем, як сурэпіца, не вядуць рашучай барацьбы, лічачы яе бясшкодным пустазеллем.

Пленум ЦК асабліва падкрэслівае неабходнасць правядзення барацьбы за праполку ў Круглянскім, Мсціслаўскім, Добрушскім, Чаўскім, Талачынскім і радзе іншых раёнаў, кіраўніцтва якіх да гэтага часу недастаткова арганізавала гэту работу ў калгасах і соўгасах свайго раёна.

Пленум абавязвае Наркамзем, дырэктароў МТС і соўгасаў і загадчыкаў раённых зямельных аддзелаў арганізаваць дакладную праверку і прыёмку палёў пасля праполачных і прапашных работ, дабіваючыся поўнага знішчэння пустазелля. На насенных участках і па ўсіх гатунковых пасевах, прызначаных для насенных мэт, апрача самай дакладнай ачысткі да поўнага ўдалення пустазелля, павінна быць праведзена гатунковая праполка шляхам удалення з пасеваў прымесяў іншых культур.

2. Улічваючы, што ва ўборачную кампанію 1936 г. у БССР галоўнымі ўборачнымі машынамі будуць жняяркі і снопавязалкі калгасаў і МТС, пленум патрабуе ад Наркамзема, дырэктароў МТС і соўгасаў і загадчыкаў зямельных аддзелаў:

а) забяспечыць да моманту ўборкі і не пазней 15 ліпеня сканчэнне рамонту ўсіх жняярак, снопавязалак, конных грабель, малацільных і сартавальных машын;

б) да 20 ліпеня праверыць усе наяўныя пералічаныя ўборачныя машыны, прывёўшы іх у поўную гатоўнасць да работы. Усе ўборачныя машыны да гэтага тэрміну павінны быць прыняты з майстэрань па акту ў прысутнасці вадзіцеляў гэтых машын: у МТС—дырэктарам, старшым аграномам і старшым механікам МТС, а па калгасах—старшынёй і брыгадзірам паляводчай брыгады калгаса;

в) як па МТС, так і па калгасах, замацаваць за кожнай уборачнай машынай пастаянных майстроў—вадзіцеляў гэтых машын і загадзя (не пазней як за 10 дзён да касавіцы) выдзеліць для кожнай машыны ўчасткі для іх работы;

г) да 20 ліпеня правесці праверку падрыхтаванасці вадзіцеляў усіх уборачных машын;

д) да 15 ліпеня забяспечыць да кожнай уборачнай машыны мінімальны камплект запасных частак і неабходную колькасць змазачных матар'ялаў на ўвесь перыяд уборкі;

е) у калгасах, не забяспечаных поўнасцю ўборачнымі машынамі, прыстасаваць для ўборкі зернавых сенакасілкі, а таксама падрыхтаваць да работы вопытных касцоў.

3. Устанавіць, як прадзельныя, тэрміны касавіцы жняяркамі і снопавязалкамі азімых і ранніх коласавых культур (пшаніца, авёс, ячмень) 12—15 рабочых дзён.

Пленум ЦК лічыць важнейшым мерапрыемствам у справе барацьбы са стратамі ўраджаю—своечасовае і поўнае выкананне плана будаўніцтва зернасушылак, асабліва ў месцах работы паўночных камбайнаў, будаўніцтва гумен, крытых павецяў. Рад раёнаў (Парычы, Лагойск, Мазыр, Плешчаніцы, Чырвонаполле, Смілавічы, Кіраўск, Орша, Асвея, Лепель, Горкі, Круглае, Крычаў, Мехава) недапушчальна зацягнулі гэта будаўніцтва, а таксама недапушчальна зацягнула выкананне заказу Наркамзема мясцовая прамысловасць (завод «Чырвоны барэц» у Оршы па вырабу вентылятараў для зернасушылак).

Пленум ЦК абавязвае Наркамзем, акругкомы, райкомы, акруговыя і раённыя выканкомы безагаворачна забяспечыць сканчэнне будаўніцтва зернасушылак, гумен і крытых павецяў да 1 жніўня гэтага года.

Абавязаць Наркаммясцпром забяспечыць да 20-га ліпеня поўнае выкананне задання па вырабу вентылятараў да калгасных зернасушылак. Белсельгасснабу (тав. Урбановічу) да гэтага тэрміну—да 20 ліпеня—забяспечыць завоз і размеркаванне вентылятараў і запасных частак да ўсіх уборачных сельскагаспадарчых машын.

4. У мэтах недапушчэння страт і поўнага захавання ўраджаю неабходна таксама:

а) правесці звязванне ў снапы ўсяго зжатага хлеба і яго капнаванне;

б) абсталяваць усе ўборачныя машыны зернаўлавіцелямі і праводзіць суцэльнае зграбанне каласоў коннымі і ручнымі граблямі следам за жняяркай;

в) правесці суцэльную дэзінфекцыю сельскагаспадарчага ўборачнага інвентара, старых крытых токаў, гумен і зернахавальнікаў;

г) пачаць абмалот хлябоў не пазней 3—5 дзён пасля пачатку касавіцы, праводзячы адначасова возку снапоў у гумны, крытыя токі з тым, каб скончыць звозку за 10—15 дзён пасля касавіцы;

д) забяспечыць не менш 20 гадзін штодзеннай работы ўсіх наяўных малатарань.

5. Для забяспечання выканання і перавыканання планаў работы камбайнаў, якія ўпершыню будуць працаваць ва ўборачную кампанію гэтага года, Наркамзему і дырэктарам МТС правесці наступныя мерапрыемствы:

а) зараз-жа прыступіць да адводу палёў і падрыхтоўкі іх для кожнага камбайна ў размерах, не менш прадугледжаных планам уборкі для кожнга камбайна; камбайнера, як начальніка камбайнавага агрэгата, непасрэдна падпарадкаваць дырэктару МТС.

б) праверыць гатоўнасць камбайнаў да работы, вывезці ў поле ўсе камбайны не пазней чым за 5 дзён да пачатку ўборкі і выдзеліць у распараджэнне камбайнера неабходныя запасныя часткі;

в) забяспечыць праз наяўныя аўтоперасовачныя майстэрні і праз пастаянныя майстэрні МТС загадзя прадуманую сістэму хуткага рамонту камбайнаў шляхам замацавання для гэтай работы кваліфікаваных майстроў;

г) загадзя падрыхтаваць і забяспечыць камбайнерам, іх памочнікам і трактарыстам такое расквартараванне, якое-б не патрабавала страты часу на пераходы да месца работы;

д) увесці і строга захаваць за камбайнерамі на 1936 г. парадак аплаты, устаноўлены пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 14 красавіка 1935 года. Папярэдзіць дырэктароў МТС і заг. райза, што яны нясуць асабістую адказнасць за работу кожнага камбайна.

6. Для бесперабойнага абслугоўвання камбайнаў транспартам, ачысткі, прасушкі і вывазу зярна вылучыць у паляводчых брыгадах на ўвесь перыяд уборкі звенні па адвозцы зярна з бункераў камбайнаў, па ачыстцы і прасушванню зярна, забяспечыўшы гэтыя звенні зернаачышчальнымі машынамі і дастатковай колькасцю жывой цягі калгасаў і аўтатранспарту МТС і калгасаў.

7. Да 15 ліпеня правесці дзяржаўную праверку падрыхтаванасці камбайнераў, а таксама лічыць неабходным камандзіраванне 15—20 чалавек, найбольш паспяхова скончыўшых курсы камбайнераў, у паўднёвыя раёны СССР для практычнага азнаямлення з эксплаатацыяй камбайнаў з тым, каб частку гэтых камбайнераў скарыстаць у далейшым у якасці інструктароў камбайнавай уборкі. Даручыць Наркамзему і сельгасаддзелу арганізаваць пасылку адабраных таварышоў на практыку.

8. Надаючы выключнае значэнне справе хутчэйшага завяршэння гатунказмены зерневых культур і забяспечання пасеваў выключна добрым, добраякасным насеннем з насенных участкаў, выдзеленых ў калгасах, у адпаведнасці з пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 10 лютага 1936 года, пленум абавязвае Наркамзем, загадчыкаў раённых зямельных аддзелаў, дырэктароў МТС і беларускую кантору Дзяржсортфонда правесці наступныя мерапрыемствы:

а) уборку насенных участкаў і гатунковых насеннагадоўчых пасеваў, падлягаючых міжраённаму і міжкалгаснаму гатунказмену, праводзіць у перыяд поўнай спеласці і скончыць не больш чым за 3—4 рабочыя дні;

б) абмалот зярна насенных участкаў правесці на асобных токах;

в) выдзеліць для хавання насення адасобленыя зернахавальнікі, забараніць скарыстанне іх для хавання харчовага і фуражнага зярна;

г) засыпку насенных фондаў і здачу гатунковага насення ў парадку дзяржаўнага і міжкалгаснага гатунказмену рабіць толькі пасля дасканалай іх ачысткі і праверкі пасеўных якасцей гэтага насення.

9. Устанавіць, што ўвесь абмалот зярна ад насенных участкаў павінен быць выкарыстан поўнасцю для забяспечання калгасаў і соўгасаў неабходным добраякасным насеннем для пасеву зярна пад ураджай 1937 г.

Забараніць пад страхам крымінальнай адказнасці выкарыстанне зярна і насенных участкаў, а таксама выкарыстанне гатунковага насення, прызначанага па плану гатунказмену, на якія-б там ні было патрэбы, акрамя насенных.

10. Абавязаць Наркамзем, дырэктароў МТС і соўгасаў і кіраўніка Беларускай канторы Дзяржсортфонда правесці ў 1936 г. поўную гатунковую ацэнку (апрабацыю) усіх культур стандартных і дапусцімых гатункаў.

На падставе даных гатунковай ацэнкі пасеваў не пазней 1 верасня распрацаваць і давесці да раёнаў, МТС, пунктаў Заготзярна, складаў Дзяржсортфонда канкрэтныя планы гатунказмену з тым, каб міжкалгасны гатунказмен быў зроблен на працягу восені да часу канчатковага размеркавання ўраджаю ў калгасах.

11. Пленум патрабуе ад загадчыкаў райземаддзелаў і дырэктароў МТС арганізаваць здачу кандыцыйнага гатунковага зярна ў парадку сельскагаспадарчых загатовак выключна з гатунковымі даведкамі, а Белзаготзярну забяспечыць асобнае складзіраванне гэтага насення з поўным захаваннем гатункаў і катэгорый.

12. Пленум ЦК папярэджвае Наркамзем, партыйныя і совецкія органы аб недапушчальнасці ігнаравання работ па догляду пасеваў проса і гарчыцы і абавязвае:

а) правесці 2—3-разовую ручную праполку проса да поўнага ўдалення пустазелля;

б) правесці дасканалую праполку ўсіх пасеваў гарчыцы і забяспечыць поўную адработку гэтых пасеваў супроць шкоднікаў (рапсавага пілільшчыка).

13. Пленум ЦК КП(б)Б прапануе ўсім дырэктарам МТС, праўленням калгасаў і дырэктарам соўгасаў арганізаваць акуратную прыёмку якасці ўбраных палёў, найстражэйшы ўлік і ахову ўраджаю ад раскрадвання, для чаго:

а) устанавіць, што брыгадзір паляводчай брыгады штодзенна павінен па акту прыняць убраныя палі з ацэнкай якасці іх уборкі. Лічыць поле ўбраным толькі пасля яго прыёмкі ад брыгадзіра старшынёю калгаса, а ў соўгасах—кіраўніком аддзялення або фермы;

б) устанавіць абавязковае ўзважванне хлеба каля малатарні, на калгасных перавозачных пунктах, па ліку бункераў і пры прыёмцы хлеба ў склады;

в) адказнасць за захаванасць зярна ўскласці: на токах у кожнай брыгадзе—на брыгадзіра, а па калгасу ў цэлым—на старшыню калгаса.

## Б. Лён і канопл

1. Пленум ЦК КП(б)Б прапануе Наркамзему, дырэктарам МТС, партыйным і совецкім арганізацыям усіх раёнаў дакладна падрыхтаваць і арганізаваць церабленне лёну трактарнымі церабілкамі:

а) забяспечыць к 1 ліпеня г. г. поўны рамонт усіх ільнацерабільных машын;

б) праверыць да 1 ліпеня падрыхтаванасць кожнага вадзіцеля ільнацерабілкі да машыннай уборкі і замацаваць за кожным вадзіцелем шыроказахватную ільнацерабілку і трактар;

в) не пазней, як за 10 дзён, устанавіць у натуры плошчы для машыннай уборкі лёну у калгасах і ўручыць кожнаму ільнацерабільшчыку маршрут па выкарыстанню ільнацерабілак.

2. Адзначаючы слабое разгортванне работ па другой праполцы лёну (на 20 чэрвеня прапалата толькі 61,1 проц.), а таксама адставанне раду раёнаў і ў асаблівасці Быхаўскага, Чырвонапольскага, Брагінскага і Плешчаніцкага па першай праполцы, пленум патрабуе ад партыйнага і совецкага кіраўніцтва гэтых раёнаў рэзка ўзняць тэмпы другой праполкі і забяспечыць хутчэйшае сканчэнне першай праполкі лёну.

Пленум прапануе Наркамзему, партыйным і совецкім арганізацыям раёнаў правесці 2—3 праполкі ўсяго засеянага лёну, а на разрэджаных насеннаводчых пасевах таксама і міжрадную апрацоўку і адна-двухразовую праполку канапель у радках. Старшыні калгасаў абавязаны прымаць палі не па колькасці праполак, а па чыстаце палёў.

3. Прапанаваць Наркамзему, партыйным і совецкім арганізацыям забяспечыць:

а) правядзенне цераблення лёну на валакно ў калгасах у стадыі ранняй жоўтай спеласці і ў тэрмін не больш 8 дзён, не дапускаючы зацяжкі з уборкай лёну. Цераблення лёну насеннаводчых пасеваў правесці ў стадыі жоўтай спеласці, не дапускаючы заўчаснай уборкі, і ў тэрмін—не больш 6 дзён;

б) поўную выбарку пасконей правесці на працягу 7—8 дзён у перыяд іх масавага цвіцення, а выбарку канапель—на працягу 10 дзён у перыяд васковай спеласці насення сярэдняй часткі галовак;

в) абмалот галовак лёну поўнасцю скончыць за 6—8 дзён з дня цераблення.

г) скончыць да пачатку ўборкі і не пазней 1 жніўня ў кожным калгасе, а ў буйных калгасах—у кожнай брыгадзе пабудову крытых токаў і павецяў для абмалоту лёну.

Прапанаваць дырэктарам усіх МТС і загадчыкам раённых зямельных аддзелаў арганізаваць у калгасах вытворчасць ільнамалатарань тыпу «Эддзі» з тым, каб большасць лёну бягучага года была абмалочана выключна малатарнямі.

Для хутчэйшай рэалізацыі пастановы пленума ЦК ВКП(б) аб поўным выцясненні ў 1937 г. абмалоту валкамі і бочкамі—прапанаваць Наркамзему да 1 верасня вырашыць пытанне аб вытворчасці ільнамалатарань, прапанаваных вынаходцамі тт. Лук'янавым і Хатулёвым з тым, каб да ўборкі 1937 года згатовіць малатарні для поўнага забяспечання ўсіх пасеваў лёну;

д) рассціл (замочку) усёй ільнянай саломы закончыць ў жніўні, арганізаваўшы дакладнае сартаванне лёну па якасці пры яго ўборцы, рассціле, пад'ёме са сцелішчаў і перапрацоўцы;

е) абмалот канапель поўнасцю скончыць за 5—6 дзён з дня выбаркі;

ж) мочку канапель пачаць неадкладна пасля ўборкі з такім разлікам, каб у верасні была поўнасцю скончана замочка, а да наступлення маразаў канапляная салома была вынута з мочкі і прыступлена да яе апрацоўкі.

4. Пленум адзначае зусім нездавальняючы ход будаўніцтва ільнасушылак і ільнапунктаў, каноплесушылак і пунктаў першапачатковай апрацоўкі лёну. Дагэтуль з плана будаўніцтва 1.920 сушылак і 990 пунктаў першапачатковай апрацоўкі прыступлена да будаўніцтва толькі 325 сушылак і 220 пунктаў.

Пленум абавязвае Наркамзем, раённыя партыйныя і совецкія арганізацыі забяспечыць неадкладнае разгортванне будаўніцтва гэтых аб'ектаў з тым, каб скончыць будаўніцтва не пазней 1 верасня.

5. Прапанаваць Наркаммясцпрому згатовіць і адгрузіць да 1 кастрычніка ў раёны 600 ільнатрапалак канструкцыі Антонава і 90—канструкцыі Сяргеева.

Абавязаць Наркамзем сканцэнтраваць усе машыны канструкцыі Сяргеева ў МТС для абслугоўвання калгасаў.

6. Абавязаць раённыя партыйныя і совецкія арганізацыі забяспечыць падрыхтоўку кадраў першапачатковай апрацоўкі лёну (ільнатрапальшчыкаў, сушыльшчыкаў, мяльшчыкаў і машыністаў ільнатрапальных машын) у размерах, неабходных для поўнага выкарыстання ільнаапрацоўчых машын.

7. Абавязаць усе раённыя зямельныя аддзелы і МТС забяспе-

чыць выраб у калгасах да 1 верасня 1.000 ільнатрапальных агрэгатаў Санталава, згодна плану, устаноўленаму Наркамземам.

8. Наркамзему арганізаваць абавязковую здачу калгасамі па кантрактацыі ільнанасення ўраджаю таварнагатунковых пасеваў па гатункадаведках, а канторы Заготлён забяспечыць складзіраванне гэтага насення з поўнай захаванасцю гатункаў і катэгорый з тым, каб ўвесь ураджай гатунковага насення 1936 г. быў выкарыстан на насенне пад ураджай 1937 г.

9. Прапанаваць Наркамзему, партыйным і совецкім арганізацыям не пазней як за 10 дзён перад уборкай выдзеліць у кожным калгасе, акрамя насенаводных, лепшыя ўчасткі лёну і канапель, насенне з якіх у першую чаргу на працягу 10—15 дзён пасля цераблення павінна быць засыпана ў насенныя фонды калгаса ў размеры, забяспечваючым план сяўбы будучага года, пры абавязковым выкананні плана здачы насення лёну і канапель па кантрактацыі.

## В. Канюшына

Пленум ЦК КП(б)Б прапануе Наркамзему, партыйным і совецкім арганізацыям:

а) правесці не пазней 1 ліпеня суцэльную праверку плошчаў і якасці пакінутых на насеннікі ўчасткаў канюшыны і забяспечыць замену дрэнных насенных участкаў лепшымі па травастою ўчасткамі з поўным захаваннем планаў адводу насеннікаў першага ўкосу;

б) правесці ўборку насеннікаў канюшыны за 7—10 дзён, не дапускаючы перастояў канюшыны і страты насення пры ўборцы, і арганізаваць вязку скошанай канюшыны ў снапы з адвозкай іх для сушкі і абмалоту на токах;

в) правесці сушку снапоў насеннай канюшыны на токах і пад навесамі, прыстасаваць для сушкі неабходную колькасць вешал;

г) правесці абмалот канюшыны неадкладна пасля ўборкі і прасушкі з адначасовым правядзеннем работ па выціранню канюшыны і ачыстцы насення з тым, каб гэтыя работы былі скончаны не пазней 20 дзён пасля касьбы;

д) арганізаваць засыпку кожным калгасам і аднаасобнай гаспадаркай у тэрмін не пазней 1 снежня г. г. добраякаснага насення канюшыны ў насенныя фонды; забяспечыць у першую чаргу выкананне плана здачы канюшыннага насення па кантрактацыі. Абавязаць Наркамзем прыняць меры да павелічэння выпуску канюшынацёрак да пачатку абмалоту канюшыны ў калгасах.

## Г. Бульба

1. Прапанаваць Наркамзему, партыйным і совецкім арганізацыям:

а) правесці не менш двух дакладных праполак і 2—3 міжрадных апрацовак бульбяных палёў да поўнага знішчэння пустазелля;

б) не пазней 20 жніўня зацвердзіць планы скарыстання гатунковай бульбы, прадугледжваючыя правядзенне гатункаабмену восенню ў час уборкі;

в) услед за капаннем бульбы правесці абавязковае баранаванне з падборкай, а таксама пераворванне з паўторнай падборкай бульбы на ўсёй убранай плошчы;

г) поўнасцю забяспечыць да 1 верасня падрыхтоўку вадзіцеляў бульбакапалак, адвесці для кожнай механізаванай бульбакапалкі

плошчу для ўборкі ў размерах, забяспечваючых план работы кожнай капалкі;

д) для захавання бульбы ад страт і хваробы правесці за 3—5 дзён скошванне бульбяніку. Прыступіць да пабудовы ў калгасах пастаянных бульбахавальнікаў з тым, каб у бліжэйшыя 2—3 гады для насенных і кармовых фондаў бульбы адмовіцца ад буртавога хавання;

е) абавязаць праўленні калгасаў для падсушкі бульбы перад закладкай на хаванне пабудаваць на бульбяных палях шалашы і навесы.

2. Наркамзему з прыцягненнем зацікаўленых арганізацый (Белгалоўспірт, Белкмо і інш.) арганізаваць апрабацыю гатунковых пасеваў бульбы і гатунковую прачыстку насенных участкаў у калгасах

3. Наркамзему, Наркаммясцпрому арганізаваць вытворчасць прасцейшых бульбасартовак сістэмы беларускай станцыі механізацыі з тым, каб да ўборкі бульбы забяспечыць гэтымі машынамі пункты бульбазагатоўчых арганізацый і не менш 500 калгасаў.

### Д. Сенакашэнне і сіласаванне кармоў

Пленум ЦК КП(б)Б звярачае асаблівую ўвагу Наркамзема, партыйных і совецкіх арганізацый на неабходнасць не толькі поўнасцю забяспечыць грубымі і сакавітымі кармамі ўзрастаючую жывёлагадоўлю, але і стварыць страхавыя запасы кармоў.

У мэтах гэтага скончыць у бягучым годзе ўборку і стагаванне сена да пачатку масавай ўборкі хлябоў і не пазней чым у месячны тэрмін пасля пачатку сенакашэння. Ва ўсіх раёнах правесці другія ўкосы.

Адначасова з правядзеннем сенаўборкі правесці да пачатку ўборкі зернавых сіласаванне пустазелля, дзікарастучых траў, маладога чароту і ранніх сілосных пасеваў у размерах не менш 50 проц. гадавога плана.

***

Пленум абавязвае НКАховы здароўя і Наркамасветы поўнасцю скончыць адкрыццё яслей і дзетпляцовак у калгасах і абсталяванне ўжо дзеючых. РК і РВК аказаць усямернае садзейнічанне ў наладжанні работы яслей і дзетпляцовак, прыцягваючы калгасную грамадскасць да справы арганізацыі дапамогі жанчыне для поўнага ўцягнення яе ў работу па догляду ўраджаю і яго ўборцы.

Даручыць бюро ЦК праверыць ход выканання рашэнняў ЦК КП(б)Б аб разгортванні масава-палітычнай работы ў брыгадах.

## 2. АБ ЗАГАТОЎКАХ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ ПРАДУКТАЎ

### А. Па зярну

1. Прапанаваць акруговым, гарадскім і раённым камітэтам КП(б)Б, акрвыканкомам, райвыканкомам і райупоўкамзаг. СНК, дырэктарам МТС і соўгасаў і старшыням калгасаў арганізаваць здачу зярна дзяржаве па пастаўках у тэрміны, устаноўленыя пастановай СНК БССР і ЦК КП(б)Б ад 20 сакавіка 1936 года:

а) па хлебаздачы соўгасамі—не пазней 20 верасня;

б) па звароту ссуд і натураплаце работ МТС—у тэрміны, устаноўленыя для паставак;

в) па гарнцаваму збору—60 проц. гадавога плана да 31 снежня 1936 г. і астатнія—40 проц.—у першым паўгоддзі 1937 г.

2. Забяспечыць здачу на загатоўчыя пункты калгасамі, соўгасамі і аднаасобнікамі цалкам добраякаснага зярна, арганізаваўшы дакладную ачыстку зярна, для чаго неабходна не пазней як да 10 жніўня адрамантаваць і прывесці ў парадак усе зернаачышчальныя машыны як на заготпунктах, так і ў калгасах і соўгасах.

3. Устанавіць адлічэнні для выдачы калгаснікам авансаў для корму жывёлы і іншых унутрыгаспадарчых патрэб калгасаў у размерах: па зярну—10 проц. ад фактычна намалочанага зярна, выключаючы абмалот ад насенных участкаў з павышэннем да 15 проц. для перадавых, добра працуючых калгасаў.

4. Выходзячы з таго, што выкананне абавязацельстваў па здачы зярна дзяржаве з'яўляецца першачарговым абавязкам кожнага калгаса і кожнай аднаасобнай гаспадаркі і павінна быць зроблена з першых абмалотаў, забараніць стварэнне ў калгасах якіх-небудзь іншых фондаў, акрамя насенных з абмалоту насенных участкаў, да выканання поўнасцю абавязацельстваў здачы зярна дзяржаве па пастаўках, звароту ссуд і па натураплаце работ МТС.

5. Устанавіць штодзенны нагляд за тым, каб здача зярна па пастаўках калгасамі і аднаасобнай гаспадаркай рабілася ў дакладнай адпаведнасці з ручанымі абавязацельствамі, а іменна: пшаніца, жыта, бабовыя ў размерах, устаноўленых абавязацельствамі па кожнай паасобку з гэтых культур, а па іншых зернавых культурах у размерах, устаноўленых абавязацельствамі для ўсіх гэтых культур з правам здачы любой культуры па выбару калгаса.

6. Спыніць калгасны і індывідуальны сялянскі гандаль хлебам, а таксама закупку зярна спажыўкааперацыяй з 10 ліпеня 1936 г. аж да выканання рэспублікай у цэлым устаноўленага плана паставак зярна, звароту ссуд і здачы натураплаты МТС, а таксама засыпкі калгасамі поўнасцю насенных і мінімальных фуражных фондаў.

7. Адзначаючы, што ў мінулым годзе ў паасобных раёнах былі выпадкі псавання гатунковага матар'ялу з-за неахайнай прыёмкі і разгрузкі яго (Барысаўскі, Касцюковіцкі раёны), прапанаваць партыйным і совецкім арганізацыям, Белзаготзярну і белканторы Дзяржсортфонда арганізаваць прыёмку гатунковага матар'ялу Дзяржсортфонда так, каб ні ў якім разе не дапускаць псавання яго, абавязаўшы загатоўчыя арганізацыі выдзеліць асобныя склады для прыёмкі і хавання гатунковага зярна.

8. Да 20 ліпеня правесці добраякасны рамонт складаў, іх дэзінфекцыю, снабжэнне загатоўчых пунктаў неабходным інвентаром з тым, каб забяспечыць бесперабойную прыёмку зярна і яго захаванне без страт.

9. Абавязаць упоўкамзаг СНК СССР па БССР скончыць будаўніцтва чатырох новых зернасушылак па лініі Заготзярна не пазней 15 жніўня г.г.

Прыняць да ведама паведамленне ўпоўкамзага, што план новага будаўніцтва зерняскладаў ёмкасцю ў 34 тысячы тон скончан.

10. Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што на многіх загатоўчых пунктах усё яшчэ ёсць вялікія страты зярна і заражанасць захоўваючагася на загатоўчых пунктах зярна кляшчом. Усё гэта патрабуе ад работнікаў загатоўчых пунктаў штодзеннай і ўпартай работы па ліквідацыі страт і ачысткі зярна ад шкоднікаў.

## Б. Па ільну і каноплях

1. Першачарговым абавязкам кожнага калгаса, калгасніка і аднаасобніка з'яўляецца выкананне маючага сілу закона кантрактацыйнага дагавору па здачы дзяржаве лёну, пянькі і насення поўнасцю ў размерах і тэрміны, устаноўленыя кантрактацыйным дагаворам.

2. Прапанаваць АК і РК КП(б)Б, акруговым і раённым выканкомам забяспечыць здачу насення лёну і канапель па кантрактацыі і звароту насенных ссуд зараз-жа пасля абмалоту, дабіваючыся не толькі выканання, але і перавыканання ўстаноўленага плана загатовак насення лёну і канапель.

3. Абавязаць РК КП(б)Б, райвыканкомы, райза і МТС арганізаваць штодзенны роўнамерны падвоз сыравіны з тым, каб даць магчымасць загатоўшчыку ўважліва агледзець і правільна ацаніць прымаемую прадукцыю.

4. Катэгарычна забараніць месцам забіраць ад Заготільна і спажыўкааперацыі склады лёну і ільнанасення як уласныя, так і арандаваныя, а забраныя ў 1936 г. безадкладна вярнуць або прадаставіць зусім адпавядаючую замену не пазней 10 ліпеня (Хоцімск, Бярэзіна і інш.).

5. Абавязаць тав. Банькоўскага (Заготлён):

а) скончыць рамонт і будаўніцтва драўляных складаў не пазней 15 жніўня, а будаўніцтва каменных складаў—не пазней 15 верасня;

б) адкрыць заготпункты па ільну і насенню ў Халопенічах, Журавічах і Хоцімску і прадугледзець будаўніцтва склада ў 1937 г. у Кіраве.

6. Абавязаць РК КП(б)Б і райвыканкомы ўказаных вышэй раёнаў прадаставіць Заготільну не пазней 10 ліпеня адпаведныя складачныя памяшканні прыгодныя для арганізацыі там заготпунктаў па ільну і насенню.

7. Абавязаць дырэктароў Менскага і Віцебскага ільнатрэстаў:

а) забяспечыць поўнае сканчэнне рамонту ільназаводаў да 15 жніўня;

б) устанавіць на ўсіх ільназаводах да 20 жніўня сушыльныя шафы для праверкі вільготнасці трасты пры прыёмцы;

в) укамплектаваць ільназаводы кваліфікаванымі кадрамі прыёмшчыкаў, каб не дапусціць недаацэнкі якасці трасты і недаплаты калгасам, якія мелі месца ў мінулым годзе.

## В. Па бульбе і плодагародніне

1. Устанавіць, што план абавязковых паставак бульбы павінен быць поўнасцю выканан кожным калгасам, калгаснікам і аднаасобнай гаспадаркай да наступлення халадоў; абавязаць райвыканкомы зацвердзіць па кожнаму калгасу і сельсовету план капання і падвозкі бульбы на загатоўчыя пункты, спіртавыя і крухмальныя заводы непасрэдна з поля з разлікам поўнага сканчэння гадавога плана абавязковых паставак і адгрузак бульбы Ленінграду не пазней 25 кастрычніка 1936 года, пачаўшы масавае капанне бульбы 15—20 верасня 1936 года.

2. Да выканання ўстаноўленых для калгасаў, калгаснікаў і аднаасобных гаспадарак абавязацельстваў па здачы бульбы дзяржаве забараніць з 15 ліпеня 1936 года калгасны і індывідуальны сялянскі гандаль бульбай, устанавіўшы, што пасля выканання кожным паасобку калгасам і калгаснікам абавязацельстваў па здачы дзяржаве бульбы, яму дазваляецца продаж бульбы дзяржаўным і кааперацыйным арганізацыям, а калгасны і індывідуальны сялянскі гандаль бульбай дапушчаецца пасля выканання БССР цалкам устаноўленага плана здачы бульбы.

3. Папярэдзіць кіраўнікоў Белкаапплодгароднiны—т. Зелічонка, Белзаготплодагародніны—т. Анікейчыка, Белгалоўспірта—т. Кузьмічова, БелКМО—т. Альтмана, дырэктароў райзагаў, райкантор плодагародніны, дырэктароў крухмальных і вінакураных заводаў і ўсіх загадчыкаў загатоўчых пунктаў аб іх персанальнай адказнасці за забяспечанне своечасовай прыёмкі і захавання паступаемай плодагароднай прадукцыі, асабліва сталовай бульбы, закладзенай на зімовае хаванне.

4. Лічыць недапушчальным, што ўзросшая гародніная прадукцыя соўгасаў і калгасаў не поўнасцю скарыстоўваецца савецкім гандлем для карэннага палепшання якасці і асартыменту гародніны і што гандаль гароднінай у гарадах БССР не забяспечвае ўзросшых патрэб насельніцтва.

Пленум лічыць важнейшай задачай Наркомунутргандля і гандлюючых арганізацый—усямернае разгортванне культурнага гандлю гароднінай, пладамі і ягадамі. Загатоўчым і гандлюючым арганізацыям і сушыльным заводам неабходна забяспечыць:

а) выкананне поўнасцю плана загатовак гародніны па асобных культурах, асабліва цыбулі, памідораў, гуркоў і морквы;

б) прыёмку па дагаварах кантрактацыі, а таксама дэцзагатоўках выключна добраякаснай прадукцыі;

в) дасканалы догляд за становішчам гародніны, пладоў і ягад пры ўпакоўцы, перавозках, хаванні і ліквідаваць псаванне і брак плодагародніны, катэгарычна забараніць прыёмку і адгрузку нестандартнай бульбы і плодагародніны.

5. Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае загатоўшчыкаў арганізаваць ў 1936 годзе загатоўкі гародніны, пладоў і ягад такім чынам, каб забяспечыць насельніцтва ў дастатку добраякаснай гароднінай, пладамі і свежымі ягадамі.

6. Абавязаць НКУнутргандаль тав. Гурэвіча і старшыню БКС тав. Баскіна, а таксама кіраўнікоў іх аб'яднанняў—Белзаготплодагародніны і Белкаапплодагародніны, Белдзяржспірта і БелКМО:

а) да пачатку загатовак, але не пазней 25 ліпеня (па заводскіх пунктах да 15 жніўня) 1936 г. поўнасцю скончыць будаўніцтва новых прыёмных пунктаў (пакгаўзы і навесы), рамонт, дэзінфекцыю існуючых прыёмных пунктаў, забяспечыўшы ўсе прыёмазагатоўчыя пункты да гэтага часу неабходным інвентаром (вагамі, гірамі, лапатамі, ліхтарамі і інш.) з тым, каб забяспечыць бесперабойную прыёмку і адгрузку плодагародніны;

б) таксама забяспечыць усе прыёмазагатоўчыя пункты праверанымі і кваліфікаванымі работнікамі—загадчыкамі пунктаў, якаснікамі і прыёмшчыкамі.




### Г. Па махорцы

1. Устанавіць, што кантрактацыйны дагавор па махорцы лічыцца выкананым толькі пры ўмове здачы ўстаноўленай дагаворам колькасці і асартыменту, а выдача прэмій-надбавак за перавыкананне кантрактацыйнага дагавору робіцца пры ўмове здачы махоркі на суму, перавышаючую кошт, абумоўлены дагаворам па кантрактацыі.

2. Устанавіць прадзельны тэрмін загатоўкі махоркі—15 лістапада.

3. Прапанаваць Упоўнаркамхарчпрома (Саюзтабаксыравіна) забяспечыць вызначэнне вільготнасці прымаемай махорачнай сыравіны на заготпунктах выключна лабараторным шляхам.

### Д. Па канюшыне

1. Прапанаваць усім партыйным, савецкім арганізацыям і ўпоўкамзаг СНК СССР па БССР:

Арганізаваць загатоўку канюшыны такім чынам, каб забяспечыць поўнасцю выкананне плана загатовак канюшыны па кожнаму раёну паасобку, зацверджанага пастановай СНК БССР і ЦК КП(б)Б ад 12 красавіка 1936 г. у размеры 6.500 цэнтнераў.

2. Арганізаваць ачыстку і хаванне прынятага па загатоўках насення канюшыны без псавання.

3. У мэтах забяспечання атрымання добраякаснага насення канюшыны прапанаваць упоўкамзаг СНК:

а) правесці кароткатэрміновыя курсы прыёмшчыкаў па прыёмцы і захаванню насення канюшыны;

б) не дапускаць пры прыёмцы насення канюшыны змешвання аднаўкоснага з двухукосным, а таксама насення канюшыны рознага гатунку;

в) прымаць насенне канюшыны ў лік плана здачы пры ўмове прад'яўлення здатчыкамі дакументаў аб пасеўнай якасці насення канюшыны, для чаго абавязаць дырэктароў соўгасаў і старшынь калгасаў забяспечыць своечасовую здачу ў раённыя лабараторыі ўзораў для аналізу і атрымання адпаведных дакументаў аб якасці насення канюшыны.

### Е. Па сену

1. Прапанаваць акругкомам, гаркомам, райкомам, акрвыканкомам, райвыканкомам, Заготсена і райупоўкамзаг СНК:

а) арганізаваць загатоўкі сена з такім разлікам, каб закончыць выкананне гадавога плана сеназагатовак адначасова з сенаўборкай да пачатку масавай уборкі і здачы хлеба;

б) скончыць будаўніцтва сянных складаў і сянных навесаў не пазней 15 жніўня 1936 года.

2. Абавязаць акругкомы, гаркомы і райкомы КП(б)Б, а таксама старшынь акрвыканкомаў, горсаветаў і райвыканкомаў да пачатку масавага паступлення збожжа, бульбы, лёну адрамантаваць усе пад'язныя шляхі да станцыйных і прыстанскіх пунктаў і аказаць зага-